# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК

## ГАЛОЎНАЕ Ў НУМАРЫ:



МАЙ 1934 г. **10**

**Журнал ЦК КП(б)Б**

Выдавецтва ЦК КП(б)Б газ. „Звязда“

# Змест

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

МАЙ 1934 г. № 10

Выходзіць 2 разы ў месяц

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

*Адказны рэдактар А. ДЖЭЛЮК*

Адрас рэдакцыі і выдавецтва: МЕНСК, Совецкая, 63

## УБРАЦЬ ЯШЧЭ ЛЕПШ, ЗНАЧНА ЛЕПШ ЧЫМ ПАСЕЯЛІ

**«Вопыт мінулых гадоў паказаў, што самым слабым участкам нашай работы з'яўляецца лён. З года ў год мы лён недасявалі. Сама сяўба ільну праводзілася дрэнна. Планы ільназагатовак не выконваліся. Таму першая задача, якую мы сабе ставім, — гэта ўнікнуць памылкі мінулых гадоў, дабіцца ў гэтым годзе рашучага паляпшэння апрацоўкі і дагляду ільну». (З артыкула сакратара ЦК КП(б)Б тав. ГІКАЛО).**

Амаль на месяц раней чым у мінулым годзе БССР скончыла сёлета сяўбу адной з рашаючых і вядучых у БССР культур —ільну. Асноўныя масівы ільну засеяны роўнамерна, у сціслыя тэрміны, па лепшых папярэдніках. Якасць сяўбы ў гэтым годзе была на многа лепшай, чым у мінулыя гады.

Але добраякасная сяўба—гэта яшчэ толькі пачатак барацьбы за высокі ільняны ўраджай.

Галоўнае—гэта догляд пасеваў, уборка, расціл, мочка і першапачатковая апрацоўка ільну, а гэта значыць і паспяховае, у тэрмін выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай па кантрактацыі.

Догляд пасеваў—своечасовая і высокаякасная праполка, барацьба са шкоднікамі ільну—зараз першачарговая задача. Гэтай задачы, на вялікі жаль, не ўсведаміла вялікая частка газет ільнаводчых раёнаў. Пераважная частка газет загаварыла аб праполцы толькі пасля сканчэння сяўбы ільну па ўсяму раёну. Яны выпусцілі з-пад увагі, што першая праполка ільну павінна быць праведзена не пазней 20-25 дзён пасля пасеву. А ў кожным-жа раёне былі дзесяткі калгасаў, скончыўшых сяўбу ільну на 25-30 дзён раней.

Гэтыя калгасы павінны былі разгарнуць праполку ўжо да завяршэння сяўбы па раёну. А раённыя газеты не паставілі перад калгасамі гэтай задачы, не мабілізавалі калгаснікаў на своечасовае пачынанне праполкі.

Такія газеты, як суражскі **«Ударнік»**, бялыніцкі **«Чырвоны калектывіст»**, амаль зусім не займаюцца пытаннямі праполкі ільну. Частка раённых газет (гарадоцкая **«Калгасная праўда»**, вушацкі **«Прымежны калгаснік»** і інш.) пішуць аб праполцы «наогул», упускаюць асноўнае звяно, рашаючае поспех праполачнай,—арганізацыю працы, расстаноўку сіл, разгортванне соцспаборніцтва, якасць работы на праполцы.

«Галоўнае на праполцы—гэта арганізацыя працы. Прайшоў той час, калі на праполку выходзілі ўсе «скопам», ланцугом расцягваліся па полю, адзін баяўся адыйсці ад другога, бо існавала ўраўнілаўка ў аплаце. Поспех праполкі зараз вырашае звяно, якое складаецца з 3-4 чалавек, мае свой загон. Такія звенні павінны быць неадкладна арганізаваны, пад іх наглядам павінен знаходзіцца ўсё лета той участак, які да іх прымацован»—так ставіць пытанне ЦО партыі **«ПРАВДА»**.

Адсюль перад газетамі ільнаводчых раёнаў паўстае канкрэтная задача: ўзяць пад свой кантроль арганізацыю і работу звенняў, праверыць і шырока паказаць, як укараняецца дробна-гру-

павая і індывідуальная здзельшчына на праполцы, дыферэнцыяваныя нормы выпрацоўкі ў залежнасці ад ступені засмечанасці ўчасткаў. Газета павінна правяраць і шырока паказваць, як працуюць на праполцы інспекцыі якасці, памочнікі старшынь калгасаў і брыгадзіраў па ільну.

У кожным калгасе трэба арганізаваць селькораўскія пасты на час праполкі і ўборкі, трымаць з гэтымі пастамі пастаянную сувязь.

Трэба рашуча паставіць у газеце і дабіцца, каб ні адзін гектар праполатага ільну не прымаўся без праверкі інспекцыі якасці, без бракеража.

**«Мы строга прасочым за тым, каб лён быў праполат не менш 2-х раз»**—папярэдзіў сакратар ЦК КП(б)Б т. **Гікало** ў сваім артыкуле «Даб'емся высокага ўраджаю». Другая праполка ільну павінна быць распачата не пазней, як праз 10-12 дзён пасля сканчэння першай. Раённыя і палітаддзельскія газеты павінны зараз патрабаваць ад калгасаў і аднаасобнікаў пачаць другую праполку, не чакаючы сканчэння першай праполкі па ўсяму раёну, а больш засмечаныя ўчасткі прапалоць тры разы.

Догляд пасеваў ільну—гэта не толькі праполка, гэта яшчэ і барацьба са шкоднікамі: ільняной блыхой, доўганожкай. Гэту задачу раённы і палітаддзельскі друк зусім выпусціў з-пад сваёй увагі. Між тым на ільняныя пасевы суседняй Заходняй вобласці наступаюць гэтыя шкоднікі. Ільняная доўганожка з'явілася на палях і асобных раёнаў БССР.

Перад раённым і палітаддзельскім друкам стаіць задача арганізаваць барацьбу з ільняной блыхой і доўганожкай, мабілізаваць на гэту справу ячэйкі Асоавіяхіма, саміх калгаснікаў. У калгасных брыгадах арганізаваць нагляд за з'яўленнем шкоднікаў, не дапусціць шкоднікаў перабрацца з заражаных на здаровыя пасевы—гэту задачу газеты павінны моцна паставіць перад калгасамі і аднаасобнікамі.

Ранняя сяўба ільну, кліматычныя ўмовы гэтага года па-новаму ставяць сёлета пытанне аб тэрмінах уборкі. Цераблenne ільну ў гэтым годзе пачнецца значна раней, чым у мінулыя гады. Своечасовая падрыхтоўка да церablення, чоткі каляндарны план уборкі, правільная арганізацыя працы—вось што вырашае правядзенне ўборкі ільнянога ўраджаю ў сціслыя тэрміны і без страт.

Газеты павінны зараз-жа ўзяць пад свой неаслабны кантроль падрыхтоўку да ўборкі, завоз ўборачнага інвентара, рамонт ільнацерабілак, шырока паказваць гэту падрыхтоўку на сваіх старонках. І асноўнае, на што трэба звярнуць асаблівую ўвагу, гэта **поўнае скарыстанне ў часе ўборкі ільнацерабілак.** У гэтым годзе мы павінны ва што-б там ні стала ўнікнуць таго становішча, якое мелася ва многіх раёнах і калгасах, калі церабленне ільну праводзілася ручным спосабам, а ільнацерабілкі не скарыстоўваліся. Друк ужо зараз павінен рашуча выступіць, выкрыць антыдзяржаўныя, кулацкія настроі ігнаравання ўборачных машын. Трэба моцна паставіць у газеце задачу **асваення ўборачных машын: ільнацерабілак, машын «Эддзі», «Гільштэйн», падрыхтоўкі кадраў** для работы на іх. Усім гэтым трэба заняцца зараз-жа, каб сустрэць уборку зусім падрыхтаванымі.

Загадзя прадумаць кожны крок уборкі, падрыхтаваць усе «дробязі», якія рашаюць яе поспех, разлічыць усё так, каб адна работа на другую не наскаквала—так павінны паставіць пытанне газеты.

Лён павінен быць вытераблен у стадыі ранняй жоўтай спеласці (а селекцыйны лён—у жоўтай насеннай спеласці). Не чакаць агульнага выспявання ўсяго ільну, а пачаць уборку выбарачным парадкам, па асобных участках, улічваючы тэрміны сяўбы, усе ўмовы, якія ўплываюць на тэрмін выспявання—толькі так можна забяспечыць уборку ільну без страт, не дапусціць перастою ільну.

Яшчэ да пачатку церабленння выбраць лепшыя сцелішчы, падрыхтаваць іх, падрыхтаваць сушні, авіны, мяльна-сушыльныя пункты, апал і т. д.—усе гэтыя задачы друк павінен паставіць перад сельсоветамі, калгасамі.

Якасць церабленння, расцілу, мочкі, пад'ёму са сцелішчаў газеты абавязаны ні на адну хвіліну не выпускаць з-пад свайго кантролю.

Загадзя неабходна заняцца падрыхтоўкай кадраў для ўборачнай: церабільшчыкаў, работнікаў па расцілу, мочцы, кадраў па апрацоўцы ільну: сушыльшчыкаў, мяльшчыкаў, трапальшчыкаў, сартоўшчыкаў. У часе ўборкі ільну

асаблівую ўвагу газеты павінны звярнуць на работу інспекцый якасці, на арганізацыю бракеража для прыёмкі работ па цярабленню, расцілу і т. д.

У кожным калгасе ёсць вопытныя старыя ільнаводы, ёсць калгаснікі, паказаўшыя ў мінулыя гады ўзоры высокаякаснай работы па догляду ільну, на ўборцы і апрацоўцы. Зрабіць іх вопыт здабыткам усіх калгасаў раёна—задача друку. Нарады старых ільнаводаў, выступленні іх на старонках газет з практычнымі ўказаннямі, што і як трэба зрабіць, каб забяспечыць высокі ільняны ўраджай, каб у тэрмін здаць дзяржаве высокаякасную ільнасалому, трасту, валакно, арганізаваць завочныя вытворчыя нарады памочнікаў брыгадзіраў па ільну, шырокі паказ іх работы,—вось дзейсныя формы перадачы гэтага вопыта. Шырока ўжыць гэтыя формы масавай работы, разгарнуць масава-палітычную работу сярод калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў, сістэматычна і сур'ёзна паказваць парт-масавую работу ў калгасах у часе праполкі і ўборкі,—баявая задача нашага друку.

Уборка ільну павінна быць непарыўна звязана з выкананнем кантрактацыйных дагавароў. Лепшую салому, трасту са сцелішчаў і мачыльных пунктаў — на ільназаводы, арганізацыя разам з уборкай першапачатковай апрацоўкі і здачы высоканумарнага валакна дзяржаве—так трэба ставіць пытанне ў газеце.

У мінулым годзе ў частцы раёнаў мы мелі такое становішча, калі ільназаводы не былі гатовы да прыёмкі саломкі і трасты новага ўраджаю. Таму раённыя і палітаддзельскія газеты павінны ўжо зараз праверыць падрыхтоўку ільназаводаў да прыёму ільну, арганізаваць паказ работы ільназаводаў, праверыць апарат пунктаў загатільну.

Вакол праполкі, уборкі, загатовак ільну разгортваецца жорсткая класавая барацьба. Кулацкія элементы імкнуцца сарваць праполку, своечасовы пачатак цераблення, апрацоўкі ільну, сарваць ільназагатоўкі. Гэтага газеты не павінны забываць ні на адну хвіліну. Своечасова выкрыць манеўры класавага ворага, разгарнуць масава-палітычную работу сярод калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў, на канкрэтных прыкладах паказаць ім, колькі страт дзяржаве, калгасу прыносіць дрэнны догляд, несвоечасовая і нядобраякасная ўборка і апрацоўка ільну, наколькі гэта зніжае кошт працадня, расказаць усе ільготы па ільну, паказаць выгоднасць працы на ўборцы і апрацоўцы ільну—вось што павінны зрабіць газеты.

Раённая і палітаддзельская газета—арганізатар соцспаборніцтва. На ўборцы і апрацоўцы ільну разгорнутае соцспаборніцтва адыгрывае рашаючую ролю. Газеты павінны арганізаваць, весці і шырока асвятляць спаборніцтва калгасаў, брыгад, звенняў, канкрэтных людзей: брыгадзіраў, памочнікаў старшынь калгасаў і брыгадзіраў па ільну, церабільшчыц, сартоўшчыкаў і т. д. на лепшае правядзенне ўборкі і апрацоўкі ільну, на хутчэйшую здачу высоканумарнай трасты і валакна дзяржаве, перадаваць вопыт работы лепшых.

На барацьбу за лён трэба мабілізаваць увесь нізавы друк, усіх селькораў. Трэба правесці курсы рэдактароў калгасных і брыгадных газет і селькораў спэцыяльна па догляду, уборцы і апрацоўцы ільну, навучыць іх, як працаваць, навучыць распазнаваць тактыку класавага ворага з тым, каб селькоры былі ў першых радах барацьбы за лён.

Ільнаўборка—гэта толькі адна частка, праўда вельмі сур'ёзная і адказная, усёй уборачнай кампаніі. Зусім зразумела, што газеты не могуць і не павінны адрываць пытанні ўборкі ільну ад уборкі зернавых, бульбы і іншых культур. Газеты абавязаны ўмець спалучыць пытанні догляду пасеваў, уборкі зернавых з уборкай тэхнічных культур. Уборку і пастаўку хлеба і бульбы дзяржаве, ільназагатоўкі ў гэтым годзе мы абавязаны правесці ўзорна. Да гэтага абавязвае нас тое, што па правядзенню сяўбы БССР у гэтым годзе заняла адно з перадавых месц у Савецкім Саюзе. Такое-ж месца БССР павінна заняць і па ўборцы і выкананню абавязацельстваў перад дзяржавай.

Па-бальшэвіцку змагацца за выраШэнне гэтай задачы, мабілізаваць на гэту барацьбу нізавы друк і рабселькораў, шырокія масы калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў—ганаровая і адказная задача друку Савецкай Беларусі.

# КАНКРЭТНА, АПЕРАТЫЎНА

**КОМУНАР**

Сенненскі раён поўнасцю скончыў сяўбу ільну 24 красавіка. Аднак, калгасныя масы Сенненшчыны не супакоіліся на першых дасягненнях у барацьбе за высокі ўраджай. Зараз-жа па сканчэнні сяўбы пачынаецца пад кіраўніцтвам райкома партыі барацьба за ахову пасеваў, за падрыхтоўку да праполачных работ.

У перамозе, якую атрымала партарганізацыя на праполцы ільну, раённая газета «Комунар» бясспрэчна адыграла значную ролю. **«Комунар»** паказаў узор баявой, аператыўнай работы ў часе праполкі і падрыхтоўкі да ўборачнай.

З першых-жа дзён мая на працягу ўсяго месяца газета бесперапынна дае аператыўны матэрыял: зводкі, інфармацыйныя заметкі, выклікі на соцспаборніцтва і водгукі на іх. Газета дае абагульняючыя перадавыя артыкулы, рад канкрэтных дырэктыўных матэрыялаў па праполцы.

10-га мая друкуецца пастанова райкома і палітаддзела, якая насычана канкрэтнымі прамымі ўказаннямі як для актыва, так і для кожнага калгасніка — як лепш правесці праполку, арганізаваць працу ў часе праполкі і т. д.

Праз некалькі дзён многія калгасы распачалі першую праполку ільну. Газета выходзіць 13-га мая з такім аншлагам:

> **«Лён ужо гатоў да праполкі. Хто адцягвае праполку, той дапамагае росту сарнякоў і затрымлівае рост ільну, той зніжае ўраджай».**

Побач са змяшчэннем заметак аб тым, як паасобныя калгасы разгарнулі праполачныя работы, газета ў наступным нумары (14-га мая) змяшчае **выклік звеннявых прапольшчыц** Латыгальскага сельсовета. У гэтым выступленні прапольшчыцы, між іншым, высоўваюць прапанову, **каб**

> **«За кожным звяном замацаваць сталыя ўчасткі, захаваць высокую якасць работы, за дрэнную работу зніжаць расцэнку працадня, за добрую — павышаць аплату. Добрым доглядам, высокаякаснай праполкай і ўборкай дабіцца з га не менш 3 цэнтнераў валакна не ніжэй 12 нумара...».**

Вядома, якое вялікае рашаючае значэнне мае правільная арганізацыя працы ў часе праполкі. Праполачныя работы неабходна праводзіць на аснове суровай **індывідуальнай здзельшчыны.** Між тым у паасобных мясцах — у Ходараўцах і Навасёлках — газета выявіла **спробы падмяніць індывідуальную здзельшчыну групавой.** Газета адразу-ж мабілізуе грамадскую думку калгаснікаў на **рашучы адпор гэтым спробам,** якія пагражаюць паспяховаму завяршэнню праполкі ільну.

16-га мая на самым відным месцы газета змяшчае інфармацыю аб тым, што **калгас Турава 13-га мая поўнасцю скончыў першую праполку ільну на плошчы ў 23 гектары.** Праполка праведзена добраякасна з перавыкананнем дзенных заданняў.

У наступным нумары газета змяшчае перадоўку пад загалоўкам «Баявымі тэмпамі правядзем праполку». На першай паласе змяшчаецца **адказ на выклік** латыгальскіх прапольшчыц і **аператыўная зводка** па ўсяму раёну.

У перадоўцы газета дае жорсткую палітычную ацэнку тым сельсоветам (прыводзяцца назвы сельсоветаў), якія яшчэ не прыступілі да праполкі. «Такія адносіны да праполкі не бальшавіцкія. Нельга самасупакойвацца. Ніякай перадышкі» — патрабуе газета ад адстаючых сельсоветаў і калгасаў.

Амаль уся першая паласа газеты за 19-е мая таксама прысвечана праполцы. Перадавы артыкул на гэтую-ж тэму папярэджвае супроць небяспекі недаацэнкі праполкі, якая пануе ў некаторых **мясцах.**

> **«Кожны дзень зацяжкі з праполкай, —гаворыцца ў перадавым артыкуле, — гэта рашучы ўдар па ўраджаю... Па-**

**трэбна ўшчэнт разбіць спробы кулацка-шкодніцкіх элементаў зацягнуць праполку, сарваць барацьбу за высокую якасць. Аб'явім рашучую барацьбу пустазеллю, вызвалім пасевы ільну і зернавых культур ад смяццёвых траў, дамо ільну больш святла, цеплыні, вільгаці і спажыўных матэрый».**

Наступныя нумары ў большай сваёй частцы таксама прысвечаны праполачным работам. 22-га мая газета змяшчае пастанову райкома і палітаддзела **аб арганізацыі комсамольска-маладзёжных звенняў у брыгадах на час праполачнай і ўборачнай,** а таксама заметку аб тым, як маладзёжныя звенні заваявалі пяршынства ў соцыялістычным спаборніцтве.

**Першая праполка скончана,** але газета далёка ад таго, каб самасупакоіцца. 24-га мая газета заклікае сустрэць раённы злёт калгаснікаў-ударнікаў (прызначан у Сянно на 25 мая) разгортваннем **другой праполкі ільну.**

Праз 1-2 дні (27 мая) газета змяшчае ўжо першую інфармацыю аб тым, што **калгас «Вялікае сяло»,** Падкарыцкага сельсовета, **24-га мая распачаў другую праполку ільну.** Гэты калгас ужо прапалоў 6 гектараў ільняных пасеваў другі раз.

***

Так з дня ў дзень газета настойліва і сістэматычна мабілізуе масы калгаснікаў на поўнае і добраякаснае правядзенне як першай, так і другой праполкі ільну.

Недахопам газеты з'яўляецца слабая барацьба за праполку зернавых, за ўзняцце цаліны і папараў. Газета мала і не разгорнута паказвае жывых людзей — пераможцаў, знатных людзей Сенненшчыны. Між тым «прапаганда добрых узораў работы — цэнтр агітацыі, цэнтр барацьбы з перажыткамі капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей». **(Стэцкі).** У многіх заметках аб ходзе праполкі толькі назвы калгасаў розныя, а змест і выразы адны і тыя-ж паўтараюцца — атрымліваецца нейкі шаблон, што значна зніжае дзейснасць матэрыялаў.

«Комунар», які паказаў узоры палітычна-чоткага баявога тону і аператыўнасці, павінен **узняць** якасць газетнага матэрыяла, зрабіць яго больш жывым, разнастойным па форме і цікавым для мас калгаснікаў.

# ГАЛОЎНУЮ УВАГУ—ЗВЯНУ ПАЛОЛЬШЧЫЦ

**«Прымежны калгаснік»** — газета ільнаводчага Ушацкага раёна, пачынаючы з паловы мая, асвятленню ходу праполкі адводзіць у кожным нумары **ўсю першую паласу.** Старонкі запаўняюцца аператыўным карэспандэнцыямі з сельсоветаў, калгасаў і асобных брыгад. Газета б'е па наяўных ў паасобных калгасах разважаннях аб тым, што «палоць, моў, рана, можна яшчэ пачакаць, адпачыць ад сяўбы» і т. д. У заметках фігуруюць канкрэтныя людзі, адказныя за правядзенне праполкі. Паказвае «Прымежны калгаснік» і тыя сельсоветы і калгасы, якія добра арганізавалі праполку.

У пачатку чэрвеня ў раёне праводзіцца злёт лепшых калгаснікаў і калгасніц. На злёце прымуць удзел толькі тыя калгасы, якія з поспехам справяцца з праполкай, добра паставяць ахову пасеваў. Раённая газета арганізоўвае спаборніцтва калгасаў на хутчэйшае і высокаякаснае завяршэнне праполкі ўсіх культур, на атрыманне ганаровага права быць удзельнікамі злёта перадавікоў.

Трэба ўказаць «Прымежнаму калгасніку» і недахопы. Першы недахоп газеты ў тым, што яна **не зрабіла галоўнага ўпору на звяно палольшчыц.** Вядома, што поспех праполачнай вырашае правільная арганізацыя работы звенняў палольшчыц. У газеце-ж за ўвесь час надрукавана **толькі адна заметка** («Поспех праполкі вырашае звяно», № 76), дзе закранаецца арганізацыя работы звенняў.

У гэтым заключаецца буйнейшая памылка ўшацкай газеты. Выпусціўшы з-пад сваёй увагі звяно палольшчыц, газета «Прымежны калгаснік» не змагла своечасова выкрыць вялікія недахопы ў **арганізацыі работы** на прапалцы, якія ёсць ва многіх калгасах раёна. Таму многія матэрыялы газеты не зрабілі патрэбнага ўплыву на ход прапалкі, аб чым сведчыць зусім нізкі процант выканання плана прапалкі ў раёне (на 30 мая ільну прапалата 5,6 проц.).

Таму зараз важнейшай задачай «Прымежнага калгасніка» з'яўляецца арганізацыя паказу работы звенняў палольшчыц. Газеце трэба паказаць падрабязна работу некалькіх звенняў, выкрыць недахопы, расказаць пра дадатны вопыт і гэтым самым вучыць усе калгасы раёна, як трэба арганізоўваць прапалку.

Адсутнічае ў газеце таксама паказ **канкрэтных людзей** занятых прапалкаю. Газета не паказала яшчэ ні адной калгасніцы-ўдарніцы прапалачнай. Гэты недахоп «Прымежны калгаснік» павінен чым хутчэй выправіць. Трэба памятаць, што сіла прыкладу на прапалцы адыгрывае вялікае арганізуючае значэнне.

# У ДРУЖБЕ З ПУСТАЗЕЛЛЕМ

15 мая пяць сельсоветаў **Суражскага раёна**—Полаўскі, Пудацкі, Астроўскі, Янавіцкі і Суражскі — скончылі сяўбу ільну. Дзесяткі калгасаў пасеялі яшчэ раней. Разам з дружнымі ўсходамі ільну пышна разраслося і пустазелле. А аб прапалцы ільну, аб ачышчэнні пасеваў ад шкоднікаў, адбіраючых ад ільну вільгаць, паветра, у раёне ў тыя дні яшчэ і не думалі.

Праўда, раённая газета **«Ударнік»** яшчэ 18 мая заклікала «неадкладна ліквідаваць адставанне ў сяўбе і пераключыцца па прапалку». Але выходзіць нумар газеты за 22 мая, а аб прапалцы — ні слова.

24 мая «Ударнік» зноў заклікае: «Завяршэнне сяўбы спалучыць з масавым разгортваннем прапалкі». І ў гэтым нумары, як і ў наступным (за 26 мая), няма ніводнай заметкі аб пачатку поліва. У раённых арганізацыях, у прыватнасці ў райза — абураючыя адносіны да прапалкі. Там чакаюць пакуль пустазелле заглушыць ільняныя ўсходы. Загадчык райземаддзела Антоненка заяўляе:

**«З прапалкай можна пачакаць, пустазелля на палях яшчэ мала» («ЗВЯЗДА» — 4 чэрвеня).**

А раённая газета маўчыць, нібы вады ў рот набрала. Работа па прапалцы ў большасці калгасаў раёна пастаўлена дрэнна. У тым-жа нумары «Звязды» мы чытаем:

**«Дыферэнцыяваныя нормы выпрацоўкі прыстасоўна да ступені засмечанасці ўчасткаў адсутнічаюць... Малагрупавая здзельшчына не ў пашане, а індывідуальнай здзельшчыны і ў паміне няма».**

І гэта не турбуе рэдакцыю «Ударніка». Забыла рэдакцыя і аб тым, што з 6.400 гектараў ільну 3.000 павінны прапалоць аднаасобнікі. Аб аднаасобніку ў газеце — ні слова.

У выніку на 30 мая па Суражскаму раёну прапалата толькі 9,6 проц. ільняных пасеваў. Гэта лічба ясней за ўсё гаворыць аб дрэннай рабоце суражскіх раённых арганізацый, аб недапушчальнай бестурботнасці і безадказнасці рэдактара газеты «Ўдарнік» тав. **Баранава.**

# СЛОВЫ І СПРАВЫ БЯЛЫНІЦКАЙ ГАЗЕТЫ

У гэтым годзе **Бялыніцкі** раён скончыў веснавую сяўбу 13 мая — на 15 дзён раней чым летась. Выканан і план па ільну — пасеяна 3.535 гектараў.

Сканчэнню раёнам сяўбы раённая газета **«Чырвоны калектывіст»** прысвяціла 15 мая падборку і спецыяльны перадавы артыкул.

У перадавым артыкуле газета зусім правільна заявіла, што «перамога ў сяўбе — толькі палова справы», што трэба «з такім-жа поспехам, з якім зма-

галіся і перамагалі ў сяўбе... змагацца ў час праполачнай...»

**Але словы бялыніцкай газеты рэзка разышліся з яе справамі.** Мы ўважліва прагледзелі 8 апошніх нумароў **«Чырвонага калектывіста»** (з 1 па 23 мая) і знайшлі ў іх толькі **тры** заметкі аб тым, як калгасы раёна праполваюць пасевы. З гэтых трох яўна выпадковых заметак можна ўсё-ж заключыць, што праполка ў раёне ідзе дрэнна. Характэрна заметка селькора Шчытнікава **«Лён патрабуе неадкладнай праполкі»** (нумар за 23 мая). З гэтай заметкі відаць, што ў калгасе «Замоссе» нават і не збіраюцца палоць лён. Пасевы-ж ільну схаваліся ў пустазеллі. Відаць, такое-ж становішча ва многіх калгасах раёна.

Тое, што пасевы ільну і іншых культур гінуць, заглушаюцца пустазеллем, газету «Чырвоны калектывіст» ніколькі не турбуе. Яна абмяжоўваецца агульнымі разважаннямі аб карысці праполкі, не хоча сама актыўна ўключыцца ў барацьбу за ўраджай.

Некалькі раз бялыніцкая газета ўспамінае аб праполцы ў перадоўках, але ўспамінае толькі між іншым, у пералічэнні «раду задач».

Ці не пара ўжо, таварышы з «Чырвонага калектывіста», спыніць агульныя разважанні аб праполцы і заняцца становішчам праполкі ў канкрэтных калгасах раёна?

# Вакол ды наўкола

25 мая Гарадоцкі РК КП(б)Б і палітаддзелы Гарадоцкай і Мехаўскай МТС у спецыяльнай пастанове адзначылі «зусім слабае разгортванне праполачных работ у калгасах і па аднаасобнаму сектару... сярод часткі актыва раёна і сельсоветаў ёсць недаацэнка значэння праполачнай кампаніі».

Пастанова гэта надрукавана ў гарадоцкай раённай газеце толькі 30 мая (паміж 25 і 30 мая вышаў яшчэ адзін нумар газеты—28 мая). Яшчэ раней—24 мая—газета выступіла з артыкулам «Не заспакойвацца, а па-баявому разгарнуць праполку», дзе злёгку пакрытыкавала настроі перадышкі, самасупакоенасці, разважанні аб тым, што «палоць яшчэ рана, малая трава».

І ўсё-ж, трэба прама сказаць, што да 1-га чэрвеня, пакуль у райземаддзеле не склалі зводкі аб ходзе праполкі, рэдакцыя **«Калгаснай Праўды»** не ведала, што робіцца ў раёне, у асобных сельсоветах. І таму газета пісала «наогул» **вакол** праполкі, у парадку «шапак» і заклікаў і асобных самацёчных заметак: «распачалі праполку», «пераключыліся на праполку» і т. д. Мы падкрэсліваем іменна **вакол праполкі,** бо газета не ўвайшла ў сутнасць справы, выпусціла асноўнае звяно—арганізацыю працы, расстаноўку сіл, разгортванне соцспаборніцтва на праполцы. Усё, што можна знайсці ў «Калгаснай праўдзе» аб арганізацыі працы на праполцы—гэта паведамленне аб тым, што ў калгасе створаны звенні прапольшчыц на чале з лепшымі ўдарніцамі. А вось **як расстаўлены гэтыя звенні, як яны працуюць, як укараняецца дробна групавая і індывідуальная здзельшчына, якасць работы на праполцы**—гэтыя пытанні газета абыходзіць.

3 чэрвеня «Калгасная праўда», нарэшце, змяшчае першую зводку аб ходзе праполкі па раёну на 1 чэрвеня (да рэчы ў загалоўку зводкі гаворыцца зусім аб узняцці цаліны і папару). Па раёну прапалата толькі 26,3 проц. ільну, 18,1 проц. зернавых. Ні адзін сельсовет на 1 чэрвеня не закончыў праполкі, у 4 сельсоветах праполка яшчэ не пачыналася, 5 сельсоветаў прапалолі толькі ад 6 да 15 проц. пасеваў ільну. А газета спакойна змяшчае гэту зводку без ніякіх каментарыяў і толькі для ачысткі сумлення дае шапку: «Саладухінскі, Паташынскі, Горкаўскі, Халамерскі сельсоветы зрываюць праполку ільну і зернавых».

Канкрэтных вінаватых у зацягванні праполкі ў раёне, прычыны зрыву праполкі ў радзе сельсоветаў газета не ўскрывае. Не паказвае яна і вопыту работы лепшых калгасаў, звенняў, асобных палольшчыц, на якіх маглі-б вучыцца адстаючыя калгасы.

# ЗА НОВЫЯ ТЫСЯЧЫ ГЕКТАРАЎ УРАДЖАЙНАЙ ЗЯМЛІ

Барысаўскі раён павінен сёлета ўзняць 1.600 гектараў цаліны. Газета **«Бальшэвік Барысаўшчыны»** актыўна ўключылася ў барацьбу за выкананне гэтай задачы. Пачынаючы з 8 мая газета з дня ў дзень паказвае калгасы, калгасныя брыгады, якія змагаюцца за асваенне новых зямель.

13 мая, назаўтра пасля злёта ўдарнікаў сяўбы, газета змяшчае цэлую старонку, прысвечаную папарам і цаліне, дзе паказвае спаборніцтва паміж калгасамі ў другім туры барацьбы за ўраджай. У старонцы даюцца практычныя агранамічныя ўказанні, як трэба ўзнімаць цаліну, узорваць папары, якія метады апрацоўкі цаліны і папараў трэба ўжываць выходзячы з глебавых і кліматычных умоў Барысаўскага раёна.

***

Стара-Дарожскі раён 20 мая закончыў сяўбу. Здавалася-б, што раённая газета **«За калектывізацыю»** разгорне зараз барацьбу за асваенне 7.000 гектараў цаліны. Але дарэмна вы будзеце шукаць на старонках газеты паказу асваення новых зямель. За выключэннем «шапкі» і адной маленькай заметкі аб тым, што калгас «Чырвоны араты» ўзняў 5 гектараў цаліны, у газеце нічога не знойдзеце.

За зрыў уздыму цаліны і папараў Стара-Дарожскі раён занесен на чорную дошку. З гэтага рэдакцыя газеты «За калектывізацыю» павінна зрабіць для сябе сур'ёзныя вывады.

***

Шклоўская раённая газета **«Прамень комунізма»** рашыла абыйсціся нават і без «шапак». Яна абмежавалася змяшчэннем у нумары ад 29 красавіка пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб ільготах за ўзняцце цаліны і на гэтым палічыла сваю задачу скончанай. Толькі 7 мая зноў успомніла газета аб узняцці цаліны, калі надрукавала пастанову ЦК і СНК БССР па гэтаму-ж пытанню. І на гэтым супакоілася.

Спіс такіх газет, як **«За калектывізацыю»** і **«Прамень комунізма»** можна прадоўжыць. Першае месца сярод газет, якія ігнаруюць уздым цаліны, займае сіроцінская газета **«Ленінскі шлях»**. Яна абмежавалася толькі тым, што надрукавала петытам пастанову партыі і ўрада аб уздыме цаліны і ўсё. З яе бяр прыклад і газета **«Звязда на рубяжы»**—орган дрысенскага РК КП(б)Б, РВК і профсовета.

Тав. **Сталін** на 17 партз'ездзе падкрэсліў, што «ў так званай спажываючай паласе ёсць каля 5 мільёнаў гектараў цалінных зямель, пакрытых хмызняком... Калі ачысціць гэтыя землі ад хмызняка і правесці рад мерапрыемстваў арганізацыйнага характару, можна будзе атрымаць велізарны раён зернавых культур, які можа даць таварнага зярна пры звычайна вялікай ураджайнасці ў гэтых мясцах не менш чым дае зараз Ніжняя або Сярэдняя Волга».

БССР павінна ўзняць у гэтым годзе 115 тысяч гектараў цаліны, а да канца другой пяцігодкі 450 тысяч гектараў. Гэта задача з'яўляецца для БССР выключна важнай, бо з ёю звязаны такія рашаючыя пытанні, як правільнае ўвядзенне севазваротаў, уздым ураджайнасці і забеспячэнне заможнага жыцця для ўсіх калгаснікаў. Гэта павінен зразумець увесь друк БССР.


ЗВЕНАВОД-УДАРНІК

Барацьба са стратамі ураджаю пачынаецца з праполкі!

За барацьбу ... праполку!

«Звенавод-ударнік»—аднадзенная газета рэчыцкага РК КП(б)Б і палітаддзела МТС, прысвечаная прапалцы і барацьбе са стратамі ў сельскай гаспадарцы.

З 1 ПА 15/VI—РЭЙД ПРАВЕРКІ ХОДА КОНКУРСА-СПАБОРНІЦТВА НА ЛЕПШУЮ СТАНЦЫЮ

ГОТФРЫД

Заг. прамыслова-транспартнага аддзела ЦК КП(б)Б.

# ЛЕПШАЯ СТАНЦЫЯ Ў САЮЗЕ ПАВІННА БЫЦЬ НА ТЭРЫТОРЫІ БССР

**Па ініцыятыве журнала «БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК» з 1 па 15 чэрвеня праводзіцца рэйд праверкі ходу абвешчанага «ПРАВДОЙ» конкурса-спаборніцтва на лепшую станцыю. Рэйд праводзяць журнал «БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК», газеты «ЗВЯЗДА», «БОЛЬШЕВИСТСКИЙ ПУТЬ» і «РАБОЧИЙ». Да ўдзелу ў рэйдзе прыцягнуты раённыя і транспартныя газеты, нізавы друк станцый і шырокія масы рабкораў-чыгуначнікаў. 28 мая пры рэдакцыі журнала «Большэвіцкі друк» па пытанню рэйда адбылася нарада рэдактароў раённых і транспартных газет ВІЦЕБСКА, ОРШЫ, МЕНСКА, ПОЛАЦКА, БАРЫСАВА, рэдактароў насценных газет і парторгаў станцый. Матэрыял аб задачах рэйда мы і змяшчаем ніжэй.**

ЦК нашай партыі вядзе барацьбу за тое, каб лепшая станцыя ў Саюзе знаходзілася на нашай тэрыторыі. А ўмовы для заваявання першынства ў нас у наяўнасці. Зразумела, ёсць такія станцыі, як **Есінаватая, Даўгінцэва,** якія прапускаюць 20-30 проц. сутачнага звароту вагонаў усяго Саюза. Натуральна, што такія станцыі пры добрай рабоце маюць больш шансаў атрымаць першынства. Але і ў нас ёсць станцыі вельмі буйныя: Віцебск, Орша і рад іншых, якія маюць аграмаднае значэнне. Яны маюць усе падставы змагацца за тое, каб атрымаць званне лепшай станцыі. Зразумела, мы не можам адрываць работу станцыі ад усяго комплексу пытанняў чыгуначнага транспарта. Змагаючыся за лепшую станцыю, мы ў тойжа час змагаемся за паляпшэнне ўсёй работы на чыгунцы па ўсяму фронту. У рашэннях ЦК ВКП(б) асаблівая ўвага аддаецца дапамозе тэрытарыяльных арганізацый чыгуначнаму транспарту.

Што мы для гэтага зрабілі? Мы паслалі прыкладна 15 брыгад ЦК у Аршанскі і 12 у Жлобінскі раёны, некаторую колькасць у Віцебскі раён, прычым узялі шмат людзей з самога Віцебска, і па гэтых 3 раёнах мы з кожным райкомам партыі ў паасобку абгаварылі пытанне аб дапамозе тэрытарыяльных арганізацый чыгуначным станцыям.

**Установка ЦК — райкомы партыі павінны зрабіць чыгуначныя станцыі і прыстані, якія знаходзяцца на іх тэрыторыі, узорнымі.** Лепельскі райком у вялікай ступені выканаў свае абавязацельствы. Станцыя **Лепель** значна падцягнулася, хоць там ёсць яшчэ і вельмі вялікія недахопы. Станцыя Гарадок пры дапамозе раённых арганізацый зусім перабудавалася. Начальнік станцыі Гарадок, калі прыехаў туды **Васільеў**—начальнік эксплаатацыйнага аддзялення, гаворыць яму: «Я цяпер, тав. Васільеў, хачу суседній станцыі дапамагчы, у мяне ёсць нямнога матэрыялаў. Непрыемна, я-ж сам чысты, а пабач гразнулі сядзяць». Гэта вельмі добра, асабліва калі ўспомніць аб месніцкіх тэндэнцыях, існуючых яшчэ да некаторай ступені ў асобных чыгуначнікаў.

Няправільна будзе, калі нашы райкомы партыі зразумеюць рашэнні ЦК партыі аб дапамозе тэрытарыяльных арганізацый, толькі як дапамогу матэрыяльную. У суму гэтых мерапрыемстваў — ператварэнне станцый ва ўзорныя—ўваходзяць у першую чаргу паказальнікі яе работы па прасоўванню грузаў, па змазцы буксаў, па правільнай пастаноўцы стрэлак, г. зн. па правільнай арганізацыі руху і эксплаатацыі. Карацей кажучы, усё тое, аб чым выразна гаворыцца ў рашэнні ЦК.

Сутнасць рашэнняў ЦК у тым, што трэба дапамагчы комуністам і комсамольцам хутчэй перабудавацца. Трэба, каб на кожнай рабоце, дзе стаіць кому-

ніст, ён займаў-бы авангардную ролю. ЦК КП(б)Б не спыніўся на тым, што перакінуў на чыгуначны транспарт групу комуністаў. Але-ж гэта яшчэ не ўсё. Трэба даць туды слесароў, майстроў, сумленных беспартыйных рабочых з фабрык, заводаў, якія знаходзяцца ў даным раёне. ЦК даў спецыяльныя ўказанні аб укамплектаванні станцый. Дапамагчы выгнаць адтуль лодыраў, людзей, якія зрываюць работу, даць патрэбных, нашых людзей на станцыі,—гэта адна сума мерапрыемстваў.

**Другая сума мерапрыемстваў—арганізаваць дапамогу па ператварэнню станцый ва ўзорныя, зрабіць так, каб раённыя арганізацыі свае станцыі абсталявалі ўсебакова.**

Як гэта зрабіць? Калі маленькая станцыя—пытанне вырашаецца лёгка. Лепель, Гарадок—невялікія станцыі, упарадкаваць іх не цяжка, асаблівай труднасці тут няма. Але калі ўзяць такія станцыі, як Віцебск, Гомель, Магілеў, Орша, то там больш цяжка. І, натуральна, мы павінны даць гэтым арганізацыям адказ на пытанне, як зрабіць.

Што прывезлі нам брыгады? Яны прывезлі нам аналіз фактычнага становішча спраў на месцы. Магілеў вынес рашэнне, жлобінскі, бабруйскі, пухавіцкі, быхаўскі, рагачоўскі, шклоўскі, клічаўскі, мазырскі, аршанскі, парыцкі райкомы, менскі гарком вынеслі рашэнні аб дапамозе станцыям. Я бяру толькі Жлобінскі раён, на тэрыторыі якога знаходзіцца станцыя Жлобін. Мы атрымалі рашэнне райкома і даручылі палітаддзелу праверыць па пунктах, як гэта рашэнне выконваецца. Вось што атрымалася. Магілеўскі райком абавязвае райкаапсаюз азеляніць плошчу перад станцыяй. Нічога не зроблена. Калі ПЧ-32 папрасіў даць зелені, то за гэта запрасілі 7.000 рублёў. «Керамтрэсту адпусціць цэглу»—нічога не зроблена, цэглы няма. «Абавязаць райком комсамола 18-24 красавіка правесці суботнікі па прывядзенню ў парадак шляхоў». 18 і 24 амаль ніхто не з'явіўся, хоць райком комсамола патрапаўся, абяцаў выслаць 400 чал. Начальнік ДМФК абавязаўся 10 красавіка скончыць заказ на 75 канап для пасажырскай залы. Дагэтуль... заканчвае.

Вось вам дэкларацыі, разважанні, рашэнні, балбатня, абяцанні і рэзультаты.

Бабруйскі райком—сакратар тав. **Мілер.** Між іншым, тав. Мілер вельмі апаратыўны чалавек, і мы на радзе апошніх мерапрыемстваў і, у прыватнасці, па пытанню сяўбы, ў гэтым пераканаліся. Ён паказаў вялікія большэвіцкія арганізатарскія здольнасці. Ён скончыў сяўбу ў ліку самых перадавых, з Бабруйск—адзін з самых вялікіх раёнаў у Беларусі. Але па чыгуначнаму транспарту ў іх не ўсё добра.

Бабруйск пастанавіў: вылучыць двух прапагандыстаў для кіраўніцтва школай. Не вылучаны. Вылучыць двух партработнікаў на чыгунку. Не вылучаны. Лесатэхнікуму азеляніць станцыю Бабруйск. Не азелянёна. Прымацавалі рашэннем, а далей справа не рушылася. Райкому комсамола мабілізаваць 10 комсамольцаў для пастаяннай работы на чыгуначным транспарце. Ні аднаго не далі. Вось вам выкананне рашэння па Бабруйску.

Пухавічы. Сакратар райкома тав. **Скараход.** Вынеслі рашэнне. 14 мая пры праверцы выявілася, што нічога не зроблена. Было даручана райземаддзелу ў пацідзённы тэрмін адвесці зямлю пад сядзібу дома грузчыкаў. Не адведзена. Абавязалі дырэктара электракамбіната забяспечыць станцыю святлом. Не зроблена. Даручылі райпрофсовету арганізаваць суботнік для ачысткі станцыі. Не выканана. Праверку выканання даручылі тав. Леўчанка. Праверку выканання не забяспечылі і ні разу на бюро не заслухалі. У перыяд знаходжання ў Пухавічах прадстаўніка палітаддзела выявілася, што аб рашэнні райкома большасць выканаўцаў не ведае. Пасля гэтага райкомаўцы зразумелі, што справа дрэнная. Тав. Скараход прыняў сякія-такія меры, сёе-тое зрабілі, аднак, становішча, вы самі разумееце, абсалютна ненармальнае.

Я наўмысна завастраў увагу на недахопах. Але было-б няправільным лічыць, што ў нас, на чыгунцы, суцэльная чорная пляма. Несумненна, поспех пасля рашэнняў ЦК ёсць, але яны вельмі недастатковыя.

У гэтай сувязі трэба сказаць, што пасіўнасць саміх чыгуначнікаў адыгрывае адмоўную ролю ў выкананні нашых пастаноў. У выніку я павінен прама сказаць—указанні тав. Гікало выконваюцца дрэнна.

У суму мерапрыемстваў па станцыях уваходзіць таксама барацьба за план, за своечасовую разгрузку і патрузку, за тое, каб быў правільны абарот рухомага складу. Райком павінен усёй гэтай сумай пытанняў займацца. Райкомы займаюцца часта невялікімі прадпрыемствамі і правільна займаюцца, але-ж чыгуначная станцыя—гэта буйнейшае прадпрыемства, а адносіны да чыгуначных станцый, як да нечага пабочнага, чым карыстаюцца ў сілу неабходнасці. Гэта няправільна.

**Станцыя—люстра раёна, і ў залежнасці ад яе работы мы будзем даваць ацэнку раённаму партыйнаму і ў асаблівасці совецкаму кіраўніцтву.** Калі праз некаторы час мы прыдзем на станцыю і ўбачым, што там наплёвана, брудна, няма культуры, гэта значыць, што раённыя арганізацыі, у першую чаргу РВК і райкомы партыі, комсамол, адносяцца да гэтай справы не так, як патрэбна Гэта значыць, што ў іх нечага не хапае, бо адна з важнейшых палітычных дырэктыў партыі—узняцце работы транспарта—ігнаруецца. Так, а не інакш прыдзецца ставіць пытанне.

Мы павінны ўзняць вакол гэтай справы літаральна ярасць мас, узняць усю нашу рабкораўскую сетку, узяць гэтыя рашэнні райкомаў пад сваю праверку без усякай літасці. Тут трэба крыць таго чалавека (па кожнаму пункту ў паасобку), якому райком даручыў правесці канкрэтнае заданне, а ён яго не выканаў. Вось глядзіце—магілеўскі керамтрэст павінен правесці тое і тое. Прозвішчы тут не ўказаны. Даведайцеся прозвішча і пачнеце біць па гэтаму чалавеку. А між тым ні адна раённая газета не праверыла гэту справу.

**Як быць з буйнымі чыгуначнымі станцыямі.** Горш за ўсё аказалася з Віцебскам і асабліва Менскам, Оршай і Магілевам. У такіх раёнах, дзе вялікія станцыі або вузлы, горсовету або райкому ўзняць гэту станцыю вельмі цяжка. У Віцебску, каб прывесці станцыю ў парадак, трэба дзвесці тысяч. Што трэба зрабіць? Віцебскія таварышы спачатку пашлі па такому шляху: гарком, горсовет павінны даць ім 100.000 рублёў, але гарком і горсовет жывуць на капітарысе і не могуць даць 100 тыс. рублёў. А вось я скажу, што станцыя можа атрымаць не 100.000 рублёў, а 200.000. А зараз пакажу гэты шлях.

Вось, напрыклад, Менск. Чаго варта прымацаваць да вестыбюля два заводы, да першай платформы—Наркомлес, да другой—Наркамцяжпром, да трэцяй — будаўнічую кантору, прымацаваць да пяці будак калектыў служачых упаўнаважанага Наркамата па замежнаму гандлю, прымацаваць усе ўстановы, БКС, усе прадпрыемствы да пэўных аб'ектаў, звязаць іх з гэтымі людзьмі, арганізаваць штаб пры рэдакцыях «Звязда» і «Рабочий», пры рэдакцыях раённых газет, якія-б правяралі мерапрыемствы кожнага прадпрыемства.

У нас заўсёды шукаюць цэнтралізаванага багатага бюджэтнага дзядзю, а бюджэтнага багатага дзядзі няма, бо па бюджэту атрымлівае і чыгунка і ўсе астатнія жывуць на бюджэце. Людзі баяцца ўзяцца як след за справу. Няма таго, каб уцягнуць у работу па паляпшэнню становішча станцый усе літаральна прадпрыемствы і ўстановы.

Адным словам, трэба разварушыць гэту справу. І калі мы так зробім у Менску, Оршы, Магілеве, дзе станцыі вялікія і горсовецкі бюджэт сам няздольны іх выцягнуць, то мы зробім вельмі шмат. Мы будзем людзьмі дапамагаць і ўсякімі іншымі рэчамі. Абавязкова трэба гэта зрабіць.

Асноўная бяда ў нас заключаецца ў тым, што райкомы і гаркомы не выконваюць сваіх уласных распараджэнняў і ўказанняў тав. Гікало. Я думаю, што мы гэту справу выцягнем, і не такія справы выцягвалі. Сяўбу выцягнулі не дрэнна. Пакрысе пачынаем выцягваць прамысловасць. У гэтым напрамку ўжо сёетое зроблена, мала, праўда, але сёетое зроблена. Выцягнем і чыгуначны транспарт. Мне здаецца, што ключ да вырашэння гэтага пытання знаходзіцца ў нас. Друк павінен зганьбіць, закляймць тых, хто зрывае работу, разам з тым ён абавязан і пахваліць добрых работнікаў. Я прапанаваў-бы пра станцыі—Лепель, Гарадок, Заольша, якія ідуць добра, напісаць у газетах, змясціць партрэты сакратароў райкомаў. Нам трэба зачэпку зрабіць, тады людзі пачнуць разумець, што за добрую работу мы хвалім. Работнікі нашы вельмі прыслухоўваюцца і да «Звязды» і да «Рабочего». Нядаўна адзін сакратар буйнага гаркома

скардзіўся на тое, што «Звязда» і «Рабочий» усё дрэннае аб нас друкуюць, а добрага і не бачаць, замоўчваюць.

Справа заключаецца ў тым, што мы павінны абавязкова тое, што ёсць добрага, паказаць, асабліва ў даным выпадку. У Менску сёе-тое ёсць. Я прасіўбы рэдакцыю «Звязды» і рэдакцыі іншых газет узяць пад свой нагляд, у прыватнасці, Менск. Гэта будзе вялікай справай.

Правадзімы ўсебеларускі рэйд-праверка ходу спаборніцтва на лепшую станцыю павінен з'явіцца адпраўным пунктам па рэалізацыі рашэнняў партыі нашым друкам і рабкорамі. І няма сумнення ў тым, што калі вы гэты рэйд добра арганізуеце, ён прынясе пэўную карысць.

---

**А. КРАСНЫХ**

адказны рэдактар газеты палітаддзела М.-Б.-Б. чыгункі «Большевистский путь».

# ЗА СЦЯГ „ПРАВДЫ“

Ці ёсць па МББ чыгунцы сапраўднае спаборніцтва станцый? Трэба прама сказаць, і такая думка палітаддзела дарогі, што сапраўднага соцспаборніцтва станцый яшчэ няма, што ў нас пакуль часта гутарак на гэту тэму, але мала справы. Адсутнічае сапраўдная мабілізацыя мас чыгуначнікаў на ўдзел у спаборніцтве.

Друк транспартны і тэрытарыяльны ў гэтых адносінах таксама мала што зрабіў. Адкрыйце любую газету, адкрыйце **«Большевистский путь»** (я павінен самакрытычна прызнаць) і вы знойдзеце шмат агульнага, шмат абяцанняў, а канкрэтнага паказу яшчэ вельмі мала.

У нас ёсць палявыя станцыі, іх можа поўнасцю абслужыць тэрытарыяльны друк, бо ён у большасці выпадкаў сутыкаецца з іх работай. Але вельмі часта рэдактары не ведаюць нават назвы гэтых станцый і не цікавяцца іх работай. Трэба, каб раённы тэрыторыяльны друк узяў пад свой непасрэдны нагляд работу палявых станцый.

Абвешчаны ўсебеларускі рэйд праверкі выканання ліпеньскай пастановы ЦК і СНК і хода спаборніцтва станцый павінен прайсці пад лозунгам барацьбы за сцяг «Праўды». За гэты сцяг, зараз павінна разгарнуцца сапраўдная бальшавіцкая барацьба. Мы павінны падыйсці да гадавіны з дня ліпеньскага рашэння партыі і ўрада з рашаючымі поспехамі на транспарце. Краіна патрабуе ад транспартных арганізацый, ад членаў партыі, ад нашага друку справаздачы, што яны зрабілі для выканання ліпеньскай і наступных за ёю пастаноў партыі і ўрада.



**ГАЕЎСКІ Ф. І.—адказны рэдактар насценгазеты абменнага пункту менскай таварнай станцыі.**

Рэйду трэба надаць масава-палітычнае значэнне і правесці яго па ўсёй БССР. Мы ставім таксама задачу ўцягнуць у гэты рэйд і суседнюю Заходнюю вобласць.

Якія пытанні павінен ахапіць рэйд? **Першым пытаннем мы ставім праверку выканання тэрытарыяльнымі арганізацыямі дырэктывы тав. Гікало аб дапамозе транспарту.** Трэба гэту праверку арганізаваць на месцы самім ГК, РК, палітаддзелам аддзяленняў праз арганізацыю моцных брыгад.

**Другое пытанне — унутрыстанцыйнае планаванне.** Гэта справа надзвычай вялікая. Што ў нас прадстаўляе сабой начальнік станцыі? Гэта пасіўная асоба ў планаванні. Ён ніякага плана не робіць. Ён ні ў якой меры не ўплывае на план, ён з'яўляецца выканаўцам спушчанага плана, прычым часта плана блытанага. Калі мы параўнаем начальніка станцыі і дырэктара прадпрыемства, то гэта ні ў якія вароты не лезе. Мы павінны паставіць пытанне аб тым, што начальнік станцыі з'яўляецца актыўнай асобай ва ўнутрыстанцыйным планаванні, што начальнік станцыі павінен прымаць удзел ў складанні гэтага плана, а не з'ўляцца толькі выканаўцам. Я думаю, ад таго, што начальнік станцыі не прымае ўдзелу ў планаванні — блытаніна вялікая і праз суткі пасля спуску плана ад яго нічога не астаецца.

**План павінен быць даведзен да кожнага рабочага.** У нас, па сутнасці, давядзенне плана да рабочага на станцыі —пытанне зусім новае. Друк дасюль гэтага пытання не ўзнімаў, ім не займаюцца і на станцыях.

Да гэтага часу адказнасць кліентуры слабая. Калі ў Менску абстаіць больш або менш добра, то на астатніх станцыях кліентура безадказная. Трэба прыцягнуць тэрытарыяльны друк, каб ён уздзейнічаў па безадказныя адносіны кліентуры.

**Трэцяе пытанне — як выкарыстоўвае начальнік станцыі свае правы.** У нас мала такіх начальнікаў станцый, якія зразумелі ў поўным аб'ёме свае правы. У нас больш такіх начальнікаў станцый, якія баяцца браць гэтыя правы на сябе, не выкарыстоўваюць іх. Але ёсць і другога роду факты, калі асобныя службы ўшчамляюць правы начальнікаў станцый і калі начальнікі станцый твораць беззаконне. Вось начальнік станцыі. Нішча (Віцебскі раён) сабраў усіх і абвясціў: «Адгэтуль гаспадаром з'яўляюся я. Усе мне падпарадкуюцца, а майстар акалодка з'яўляецца маім намеснікам па тэхнічнай часці». Гэты начальнік станцыі сам паехаў на лінію і пачаў расстаўляць кадры. К гонару насценгазеты трэба сказаць, што яна ўскрыла гэту памылку і «распісала» начальніка станцыі. Ён гэту газету заклеіў аб'явай ПВО. Я не ведаю, ці ўзнялі гэта на прынцыповую вышыню.

**Пагрузка і разгрузка.** У нас, па-мойму, яшчэ не заняліся дэтальна гэтым пытаннем. Механізацыі, скарачэнню тэрміна пагрузачна-разгрузачных работ не аддаецца належнай увагі. Мы, у прыватнасці, не займаемся грузчыкамі. Грузчык да гэтага часу з'ўляецца як-бы пабочным элементам на транспарце. Тут патрабуецца вялікая работа, каб змяніць існуючыя адносіны да грузчыка ,каб зрабіць яго часткай адной сям'і чыгунпачнікаў.

**Як змагаюцца станцыі за скарачэнне прастояў вагонаў?**

Трэба выявіць прычыну затрымання вагонаў? Калі ёсць дасягненне, калі прастой вагонаў ніжэй нормы, трэба гэта паказаць.

**Манеўровыя работы.** Яны адыгрываюць вялікую ролю ў выкананні плана пагрузкі, у барацьбе за скарачэнне прастояў вагонаў. Але ёсць рад фактаў, што манеўровыя машыністы не хочуць падпарадкавацца начальніку станцыі. Выхаваўчая работа ў дэпо сярод іх не арганізавана.

**Аб партыйна-масавай рабоце.** Дрэнны ход спаборніцтва вынікае з таго, што ў нас партыйна-масавая работа разгорнута слаба. Рад камуністаў яшчэ не з'яўляецца прыкладам у соцспаборніцтве, не з'яўляецца сапраўдным ударнікам сталінскага прызыву. Партыйная арганізацыя яшчэ многіх участкаў, рашаючых участкаў у гэтым соцспаборніцтве або не бачыць, або не займаецца імі. У прыватнасці, трэба сказаць, што рад партарганізацый да гэтага часу недаацэньваюць ролі нізавога друку ў соцспаборніцтве. Трэба падабраць спе-

цыяльныя брыгады з удзелам работнікаў палітаддзелаў, партарганізатараў і праверыць партмасавую работу нізавога звяна.

**Аб кіраўніцтве профсаюзаў спаборніцтвам станцый і іх рабоце па паляпшэнню бытавых умоў рабочых.** На вопыце вытворчага паходу імя XVII з'езда мы пераканаліся, што большасць профарганізацый стаяць у баку ад кіраўніцтва спаборніцтвам. Яны і зараз працуюць дрэнна. Побач з крытыкай работы профсаюзаў, побач з выяўленнем карэнняў іх дрэннай работы трэба ім дапамагаць, трэба змагацца за ўзмацненне партыйнага кіраўніцтва профсаюзамі.

**У час рэйду неабходна праверыць работу сталовых, інтэрнатаў, буфетаў, санітарны стан вакзалаў, платформ, пакгаузаў, шляхоў.** Правільна гавораць, што культура пачынаецца з чыстай падлогі. Задача рэйда—не толькі канстатаваць, што на сёнешні дзень, моў, было чыста, або брудна на вакзале, ці платформе але і высветліць праз саміх рабочых, ці з'яўляецца гэта сістэмай, ці выхоўваюцца рабочыя і служачыя вакзала на барацьбе за чыстату.

Такі вакзал як у Менску — проста ганьба і для друку, і для арганізацый. Падлога брудная, абрусы ў буфеце брудныя, афіцыянткі далёка не ветлівыя. Мы павінны паставіць задачу, каб Менск меў узорны вакзал і каб менская станцыя заваявала ўсесаюзнае пяршынства.

Некаторыя тэрытарыяльныя арганізацыі хочуць дапамагчы транспарту. Але тут патрэбны больш крытычныя адносіны к дапамозе. Нельга дапамогу ператварыць у падачкі. Вось у Менску няма прыгараднага вакзала. Чаму-б не дапамагчы пабудаваць яго? А гэта была-б рэальная дапамога. Па-мойму, трэба друку паставіць гэта пытанне. За такія канкрэтныя рэчы трэба па-сур'ёзнаму біцца.

**Паказ лепшых ударнікаў сталінскага прызыву — пытанне асабліва важнае.** У перыяд рэйда трэба выявіць лепшых ударнікаў сталінскага прызыву, паказаць іх работу і высунуць праз друк гэтых людзей для ўзнагароды значком ударніка.

Трэба сур'ёзна заняцца праверкай выканання шэфамі транспарта абавязацельстваў па аказанню дапамогі станцыям, дэпо і т. д. Патрабуючы выканання ўзятых абавязацельстваў, не спадзявацца толькі на тое, што тэрытарыяльныя арганізацыі вывезуць, трэба памятаць, што перш за ўсё камуністы транспарта адказваюць за яго работу. Мы павінны праследаваць не толькі матэрыяльную зацікаўленасць, але мы павінны тут, перш за ўсё, праследаваць задачу перанясення лепшага вытворчага вопыта і вопыта партыйна-масавай работы на чыгуначным транспарце. Вось гэта асноўная задача. А гэта задача будзе ажыццёўлена тады, калі рабочыя чыгуначнікі, рабочыя прадпрыемстваў будуць добра згуртаваны. Гэта—велікая работа, гэта — адна з адказнейшых задач у сістэме ўсёй нашай партыйна-масавай работы.

Мне думаецца, што ўсю рэйдавую работу трэба **пачаць з нізавога друку.** Без яго, без рабкораў, без лепшых ударнікаў сталінскага прызыву рэйда не правесці.

У падрыхтоўчай рабоце трэба будзе асаблівую ўвагу звярнуць на арганізацыйныя дробязі (зборы, паведамленні, інструктаж, точнае вызначэнне аб'ектаў і т. д.).

Падрыхтоўчая работа павінна складацца з наступнага: у абедзенныя перапынкі правесці гутаркі ў чырвоных кутках, на станцыях выпусціць спецыяльныя газеты, развесіць плакаты, каб аб гэтым рэйдзе ведаў кожны рабочы і быў падрыхтован да яго. І трэба так арганізаваць рабочых, каб яны, спаткаўшы брыгаду, мелі прапановы і гатовы былі аказаць дапамогу брыгадзе.

Рэйд мы павінны правесці пры шырокім удзеле мас. Рэкамендуецца пачаць праверку гутаркай з трыкутнікам станцыі. Але гэта толькі ўводзіць ў курс справы. Галоўнае—трэба ў рабочых высветліць недахопы і дасягненні ў рабоце станцыі.

У рэйдавыя брыгады трэба браць людзей, якія заслугоўваюць гэтага, — лепшых ударнікаў-рабкораў.

Пытанняў для праверкі намечана 13. Колькасць брыгад будзе залежаць ад

**РЭЙД ПАЧАЎСЯ**


РАБОЧИЙ

ЗВЯЗДА

Орган ЦК і МК КП(б)Б, ЦВК і СНК БССР

БОЛЬШЕВИСТСКИЙ ПУТЬ — БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК

На Минском узле 3 июня 1934 г. № 1 (56)

Всебелорусский рейд проверки соревнования на лучшую станцию

**Бороться за выполнение плана**

**Передовая смена**

**На менскім вузле выдаецца аперацыйны бюлетэнь, прысвечаны ўсебеларускаму рэйду праверкі спаборніцтва на лепшую станцыю**

---

мясцовых умоў, але трэба старацца пабольш уцягваць рабочых.

Абавязкова кожнай брыгадзе павінен быць уручан план работы. Трэба так размеркаваць функцыі, каб кожны адказваў за пэўную работу.

Пытанне аб рэйдзе трэба спецыяльна паставіць у палітаддзеле, у райкоме партыі і прыцягнуць да ўдзелу ў ім не толькі правспартнікаў, але і рабкораў-ударнікаў шэфствуючых прадпрыемстваў, рабкораў-ударнікаў тэрытарыяльных газет.

Што мы мяркуем зрабіць пасля таго, як скончыцца рэйд? Раней за ўсё мы гэты рэйд павінны асвятліць у друку. Пасля гэтага вынікі абгаварыць на злётах, якія павінны праходзіць напярэдадні ўсебеларускага злёта рабкораў. На гэтым злёце трэба, каб далажылі начальнікі станцый або вузла аб стане станцый і ходзе спаборніцтва. Адначасова трэба заслухаць судаклад брыгады аб рэзультатах рэйда.

Мы бярэм у асноўным толькі станцыі. Зусім зразумела, што прыдзецца сустрэцца з работай паравознага дэпо, з работай сувязі і інш. Трэба папярэдзіць, што нельга абмяжоўвацца канстатаваннем фактаў, што, скажам, спазненне паяздоў адбываецца з-за несвоечасовай падачы паравозаў. Трэба пайсці ў дэпо і высвятліць, у чым прычына, і па матэрыялах рэйда павінны быць праведзены адпаведныя меры па ліквідацыі гэтых недахопаў.

Ці заканчваецца работа тым, што мы апублікуем, паставім гэта пытанне на вузлавым злёце? Трэба будзе ўнутры рэдакцыі, унутры рэдкалегій пасценгазет, з рабкорамі распрацаваць праграму работы на аснове матэрыялаў рэйда. З ўдзельнікамі рэйда неабходна прадаўжаць гэту работу і потым правесці праверку выканання.

**СІНЕЛЬНІКАЎ**

сакратар парткома станцыі Віцебск.

# НЕ КАВАЛЕРЫЙСКІМ АЛЮРАМ, А СУР'ЕЗНА, МАСАВА, ПА-ДЗЕЛАВОМУ

Паспяхова правесці рэйд-праверку ходу спаборніцтва на лепшую станцыю — вялікая і адказная задача. Вынікі рэйда мы будзем ацэньваць па разгортванню масавай работы і соцспаборніцтва на станцыях, па канкрэтных рэальных зрухах у рабоце станцый. Вось чаму нам трэба гэты рэйд правесці не кавалерыйскім алюрам, а сур'ёзна падрыхтавацца, правесці яго добра.

**У праграму рэйда абавязкова трэба ўключыць праверку ўдзелу** ў конкурсе станцый іншых служб. Пакуль што ў конкурс уключыліся толькі асобныя службы: служба шляху пафарбавала будкі, прывяла ў парадак ліхтары і т. д. А вось сувязь, паравознае і вагоннае дэпо яшчэ нічога не робяць, абмяжоўваюцца размовамі. Трэба праверыць выкананне абавязацельстваў усімі службамі.

**Тэрытарыяльныя арганізацыі пакуль што вельмі слаба ўключаюцца ў конкурс.** Многа шумяць, мала робяць і таму нам у часе

рэйда трэба вялікую ўвагу аддаць удзелу фабрычна-заводскага друку ў конкурсе-спаборніцтве станцый. Не толькі раённыя, але і фабрычна-заводскія газеты павінны непасрэдна ўключыцца ў конкурс. Возьмем хоць-бы такое пытанне, як **узаемаадносіны станцыі з кліентурай.** Часта-ж бывае, што кліентура перашкаджае выкананню плана. Тут патрэбна цесная сувязь раённай, чыгуначнай газеты з фабрычна-заводскімі шматтыражкамі. **Транспартныя газеты павінны перадаваць фабрычна-заводскім газетам факты невыканання абавязацельстваў фабрыкі, завода ў адносінах да станцыі.** Фабрычна-заводскія шматтыражкі ў сваю чаргу павінны сігналізаваць транспартным газетам аб фактах дрэннай работы станцыі ў адносінах выканання заказаў кліентуры і т. д. Гэта сувязь павінна быць моцна наладжана.

**ВАСЮТОВІЧ**

рэдактар газеты «Большэвіцкі сігнал» — Орша.

# Пашыраем кутафінскі метад

З моманта апублікавання звароту аб конкурсе-спаборніцтве на лепшую станцыю газета рэгулярна асвятляе ход спаборніцтва. Работу ўсіх служб мы падпарадкуем рабоце станцыі і эксплаатацыі.

Найбольш слабым участкам з'яўляецца лінейная станцыя. Яшчэ горш з блок-пастамі, раз'ездамі ,якія знаходзяцца ў аддаленні ад раённага цэнтра, ад мястэчка, буйнай станцыі. Там найбольш рэзка праяўляецца сямейнасць, дробна-буржуазная разбэшчанасць, расхлябанасць, парушэнне дысцыпліны і т. д. Напрыклад, станцыя **Лемніца** да 25 мая не ўключылася ў спаборніцтва, не ведала нават аб гэтым спаборніцтве. Толькі пасля таго, як прыехаў інструктар палітаддзела, станцыя ўключылася ў спаборніцтва. Таму мы больш увагі звaрачаем на асвятленне ў газеце работы лінейных станцый, паказ горшых і лепшых прыкладаў работы. Адначасова з асвятленнем ходу спаборніцтва на лепшую станцыю мы выкрываем рад агіднейшых фактаў парушэння дзяржаўных планаў перавозак. У прыватнасці, па Оршы-Заходняй мы выкрылі агіднасці ў рабоце кіраўніцтва станцыі.

**У выніку конкурса рад станцый значна падцягнуліся, выправілі сваю работу.** Нядрэнна выконваюць свае абавязацельствы станцыі **Менск, Негарэлае, Орша-Ўсходняя, з лінейных станцый — Калодзішчы.**

Некаторыя тэрытарыяльныя арганізацыі — Менскі гарком КП(б)Б, Барысаўскі, Лепельскі райкомы — нядрэнна ўключыліся ў гэту справу. Але ёсць райкомы, як Крупскі, Талачынскі, Смалявіцкі, Дзяржынскі, якія і да гэтага часу яшчэ не ўключыліся ў спаборніцтва ,хоць на тэрыторыі гэтых раёнаў знаходзіцца па некалькі станцый (Дзяржынск — 3 станцыі). Маўчаць і газеты гэтых раёнаў.

Некалькі слоў аб кутафінскім метадзе. Зараз і палітаддзел раёна, і наша газета ставяць перад сабой канкрэтную задачу, каб дыспетчэры, якія прымяняюць кутафінскі метад, перадалі гэты вопыт і навучылі працаваць па-кутафінску цэлыя кандуктарскія брыгады.

**В. МЯТЛА**

рэдактар «Большэвіка Барысаўшчыны»

# Наша барацьба за ўзорную станцыю

Пасля ліпеньскай пастановы ЦК і СНК аб перабудове работы транспарта мы паслалі на барысаўскую станцыю выязную рэдакцыю.

**Выязная рэдакцыя мабілізавала людзей, зрабіла ўпор на дэпутацкія групы горсовета, праверыла і паказала іх работу. Зрабілі гэта, а потым забылі аб транспарце на паўтара месяца.**

Пастаўлена задача зрабіць станцыю ўзорнай. Даем па гэтаму пытанню матэрыял у газету і зноў вялікі адрэзак часу не гаво-

рым аб транспарце. Гэта, зразумела, не значыць, што транспартам мы займаемся рыўкамі, не сістэматычна. Хоць наш раённы чыгуначны ўчастак невялікі, але мае надзвычайна вялікае значэнне, бо Барысаў прамысловы цэнтр ,і работа транспарта часта дае сябе адчуваць. Увосень макароннай фабрыцы імя Сталіна прышлося 3 дні прастаяць таму, што не маглі вывезці прадукцыю. Камбінат прастаяў 2 тыдні таму, што чыгунка не магла вывезці сыравіны.

Увязкі нашай работы з чыгуначнымі газетамі не было. Праўда, з прадстаўніком газеты «Большевистский путь» мы правялі сумесны рэйд, выпусцілі старонкі, наладзілі сякую-такую сувязь. Цяпер, калі быў абвешчаны дзень стрэлкі, мы сур'ёзна гэтай справай заняліся, але бяда ў тым, што мы не ведаем транспарта, не ведаем нават, што робіцца на станцыі. Мы, напрыклад, узнялі кампанію, каб вылучыць змазчыка, як фігуру, якая адыгрывае аграмадную ролю на транспарце. Рашылі зрабіць гэта, але аказалася, што на станцыі няма ніводнага змазчыка.

За час рэйда-праверкі ходу конкурса на лепшую станцыю трэба дабіцца большай сувязі нашых тэрытарыяльных газет з арганізацыямі і чыгункай.

Да нас прыязджаў прадстаўнік рэдакцыі



**Ермачонак Сцяпан — адказны рэдактар насценгазеты службы эксплаатацыі (Барысаў).**

«Большевистский путь». Мы звязаліся з ім і арганізавалі ў газеце не дрэнную паласу. Мы павінны дабіцца таго, каб ва час рэйда станцыю зрабіць узорнай.

# УСЕБЕЛАРУСКІ РЭЙД ПАЧАЎСЯ

На станцыі Барысаў пачаўся рэйд па праверцы ходу абвешчанага «Праўдой» соцспаборніцтва на лепшую станцыю.

Створан раённы штаб рэйду. 5-га чэрвеня праведзена нарада рабкораў-чыгуначнікаў з рабкорамі шэфскіх прадпрыемстваў і дэпутацкімі групамі горсовета. На нарадзе былі арганізаваны 6 брыгад рэйду ў ліку 30 чалавек. Прысутнічаўшы на нарадзе сакратар РК КП(б)Б тав. **Чарнышоў** звярнуў асаблівую ўвагу рабкораў-чыгуначнікаў і прадпрыемстваў на выкананне дырэктывы РК КП(б)Б аб паляпшэнні работы станцыі і арганізацыі практычнай дапамогі станцыі шэфствуючымі арганізацыямі.

У дапамогу рэдкалегіям чыгуначных насценгазет райштаб сумесна з горсоветам выдалі 500 экз. макетаў.

8 чэрвеня райштаб і горсовет склікаюць нараду дырэктароў фабрык і заводаў, дэпутацкіх груп па транспарту і ўдзельнікаў рэйду па пытанню пагрузачна-разгрузачных работ на станцыі і ўзаемаадносін кліентуры са станцыяй.

**Р. Сімховіч.**

* * *

29 мая на таварнай станцыі Менск адбыўся вузлавы злёт рабкораў і рэдактароў насценных газет.

На злёце епрача 113 рабкораў і рэдактароў газет прысутнічалі парторгі, старшыні мясцкомаў і гаспадарнікі.

З вялікай увагай злёт заслухаў даклад парторга вузла тав. **Кэжданэ** аб задачах нізавога друку ў сувязі з уссаюзным спаборніцтвам станцый і надыходзячым усебеларускім рэйдам.

У сваіх выступленнях рабкоры асабліва адзначылі дрэнную дапамогу транспарту з боку паасобных тэрытарыяльных арганізацый Менска.

Злёт прыняў канкрэтную праграму работы на бліжэйшы час. Вылучан рад рабкораўскіх брыгад для праверкі выканання абавязацельстваў, узятых тэрытарыяльнымі арганізацыямі.

**Аліноўскі.**

## Агляд друку

# За ленінскі інтэрнацыяналізм

ЛЕНІНСКІ ШЛЯХ

ЗА ПРОЛЕТАРСКІЯ КАДРЫ

ЛЕНІНЕЦ

Інтэрнацыянальна-класавае выхаванне працоўных мас заўсёды было і ёсць адной з важнейшых задач большэвіцкага друку. Неаслабная барацьба за пролетарскі інтэрнацыяналізм — гэта адзін з асноўных прынцыпаў, якія павінны ляжаць у аснове работы кожнай нашай газеты.

Асабліва зараз міжнародная і ўнутраная абстаноўка патрабуе ад друку выключнай увагі да пытанняў інтэрнацыянальнага выхавання. Фашызм, увасабляючы ў сабе імкненні самых рэакцыйных груп буржуазіі, пракладвае сабе шлях да ўлады ўсё ў большай колькасці капіталістычных дзяржаў. Нацыяналізм распальваецца фашыстамі ўсімі сродкамі. Самыя нястрыманыя, дзікія праяўленні шавінізма ўзводзяцца ў ранг дзяржаўнай добрачыннасці. Хіба не ясна, наколькі важна ў гэтай абстаноўцы сістэматычная паглыбленая работа друку па выкрыццю сапраўднага нутра фашысцкай маралі, паказ геraічнай барацьбы міжнароднага рабочага класа за прынцыпы пролетарскага інтэрнацыяналізма, барацьбы за абарону СССР.

Выключная ўвага нашага друку да інтэрнацыянальнага выхавання мас дыктуецца і асаблівасцямі сучаснага ўнутранага становішча Совецкага Саюза. Разгромленыя, але яшчэ недабітыя астаткі капіталістычных класаў, падграваемыя прыходам да ўлады ў радзе краін самай цёмнай рэакцыі, ажыўляюцца ў сваіх інтэрвенцыяніскіх імкненнях, актывізуюцца ў барацьбе супроць соцыялізма, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сцягам.

Даволі ўспомніць падзеі апошняга перыяда, меўшыя месца на Украіне і ў нас, у БССР, каб пераканацца, якія шырокія планы будавалі украінскія і беларускія буржуазныя нацыяналісты.

Шкодніцтва на гаспадарчым і культурным фронце, шпіянаж, правакатарства, простае змыканне з інтэрвенцыяніскімі заграніячнымі коламі — вось шлях контррэволюцыйных нацдэмаў тыпу Рак Міхайлоўскага, Мятлы, Капуцкага і інш. Кулацка-нацыяналістычныя элементы трымалі стаўку на адрыў БССР ад Совецкага Саюза, паварот яе на капіталістычны шлях.

КП(б)Б пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і т. Сталіна выкрыла і разграміла контррэволюцыйны беларускі нацыянал-дэмакратызм. Але ясна, што ворагі не склалі зброі і ціхай сапай прадаўжаюць сваю антысовецкую дзейнасць, імкнуцца ядам шавінізма атруціць свядомасць працоўных мас.

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б, які адбываўся ў снежні месяцы 1933 г., улічваючы канкрэтную абстаноўку, якая стварылася ў БССР, вынес пастанову аб тым, што «вялікадзяржаўны рускі шавінізм з'яўляецца галоўнай небяспекай у маштабе ўсяго Совецкага Саюза, але гэта ні ў якай меры не супярэчыць таму, што ў даны момант у Беларусі галоўную небяспеку прадстаўляе мясцовы беларускі нацыяналізм, які змыкаецца з імперыялістычнымі інтэрвентамі. Неабходна асабліва мець на ўвазе новую тактыку рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў і беларускіх нацыяналістаў, падтрымліваемых усёй контррэволюцыяй, у тым ліку і трацкістамі, якія на цяперашнім этапе блакуюцца паміж сабой на агульнай платформе адрыву БССР ад СССР і ўмацавання пазіцый капіталізма».

Гэтым рашэннем пленума прад'яўлена да ўсяго друку БССР сур'ёзнае патра-

баванне ўзмацнення ўвагі да пытанняў барацьбы за пралетарскі інтэрнацыяналізм. Між тым, не будзе памылкай сказаць, што іменна гэты участак работы з'яўляецца ахілесавай пятой для абсалютнай большасці нашых газет.

Ацэнка, даная гэтымі днямі на старонках «Праўды» ў сувязі з ускрыццём раду фактаў скажэння ленінскай нацыянальнай палітыкі (Менск, Гомель, Барысаў, Жыткавічы), прама пацвярджае гэта становішча. Хіба не верна, што, як піша «Праўда», «аб рашэннях пленума (снежаньскага пленума ЦК і ЦКК.— Рэд.) амаль забылі. Замаўчаў і друк. І толькі часамі ў агульна-палітычных дакладах успамінаюць аб гэтым».

Недалёка хадзіць за прыкладам.

Упарта маўчыць ужо поўгода па пытаннях інтэрнацыянальна-класавага выхавання газета **«Ленінскі шлях»** — орган Горацкага РК КП(б)Б (камплект газеты са студзеня па 25 мая 1934 года). Праўда, рэзалюцыю снежаньскага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б газета надрукавала. Хутка дала артыкул «Чаму мясцовы беларускі нацыяналізм з'яўляецца галоўнай небяспекай у БССР на даным этапе». Яшчэ раней 10 студзеня ў «Ленінскім шляху» змешчан артыкул «Рашуча ўзмацніць барацьбу за пралетарскі інтэрнацыяналізм». Усё гэта датычыць студзеня месяца бягучага года. Шукаць у газеце пасля гэтага канкрэтнага матэрыялу аб барацьбе газеты за ажыццяўленне рашэнняў пленума — бескарысная праца. А горацкай газеце гэта асабліва нельга дараваць. Што гэта так, прадаставім магчымасць даказаць самому рэдактару газеты т. **Гольдшварцу,** які ў памянёным вышэй артыкуле (за 10 студзеня) пісаў:

> **«У Горацкім раёне мы маем магутную базу расаднікцтва прышчэпаўскай палітыкі—былую с.-г. акадэмію. ІМЕННА ТУТ, ЯК НІДЗЕ Ў БССР (падкрэслена намі.—РЭД.), класавы вораг, нацыянал-дэмакраты самі і праз сваіх агентаў насаджалі хутары».**

І далей:

> **«Чыстка парткалектыва Горацкага с.-г. інстытута таксама выкрыла кулацкае нацыянал-дэмакратычнае ахвосце, якое акапалася ў сценах інстытута і прадаўжала агідную шкодніцкую работу.**
>
> **...У інстытуце за апошні час мела месца скрыўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі».**

Артыкул ва унісон з загалоўкам заканчваецца заклікам:

> **«Бязлітасна змагацца з праяўленнем контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызма».**

Але рашуча занесены меч астаўся ў паветры... Падаспела падрыхтоўка да сяўбы, а потым і самая сяўба. Старонкі газеты занялі зводкі, пастановы, аператыўныя пасеўныя матэрыялы. Работа школ, інстытута з яго памылкамі, канкрэтныя факты падрыўнай работы кулацка-нацыяналістычных элементаў — усё гэта асталося па-за старонкамі газеты. Напэўна-ж, калі глыбей увайсці ў справу, многія калгасы адставалі ў сяўбе іменна таму, што тут класавы вораг здолеў прыкрыць сваё супраціўленне, апрануўшыся ў фальшыва-нацыянальную тогу.

Газета прайшла міма і станоўчых бакоў, якія ёсць у раёне. Пад кіраўніцтвам палітаддзела калгасы зоны МТС сталі знішчаць спадчыну прышчэпаўшчыны — хутары. Па зоне МТС сцягнуты ў калгасныя пасёлкі каля 150 хутароў. Калгасы Паршынскага сельсовета, якія з'явіліся ініцыятарамі гэтай справы яшчэ летась, у сёлетнюю сяўбу дабіліся вялікіх поспехаў, скончыўшы палявыя работы да 10 мая, а сяўбу яравых — да 1 мая. А «Ленінскі шлях» не здолеў паказаць усяго велізарнага значэння гэтай справы.

Палітычная памылка газеты, якая выразілася ў ігнараванні барацьбы за ажыццяўленне пастаноў снежаньскага пленума па нацыянальнаму пытанню, ускладняецца яшчэ і тым, што міжнародная інфармацыя тут таксама яўна нездавальняюча. Да канца лютага па гэтых пытаннях матэрыялаў усім не было. Куток «Па той бок мяжы», які з'явіўся пазней, прадстаўляе сабой худасочныя падборкі тасаўскіх тэлеграм. Палітычная інфармацыя, асвятляючая міжнароднае жыццё, амаль адсутнічае. Наяўнасць прэс-бюлетэня, магчымасць перадрукавання матэрыялаў з цэнтральных і абласных

газет не дае права спасылацца на адсутнасць кадраў і т. д. Ясна другое— недаацэнка «Ленінскім шляхам» важнасці інтэрнацыянальнага выхавання мас.

**
*

Газета парткома Горацкага сельскагаспадарчага інстытута **«За пролетарскія кадры»** (камплект з 15 студзеня па 24 мая) недалёка адышла ад сваёй, так сказаць, старэйшай сястры.

Газета ўхітрылася паогул абыйсці маўчаннем важнейшае рашэнне снежаньскага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б. Аб ім ні слова не сказана нават і ў перадавым артыкуле нумара, вышаўшага ў дзень смерці Леніна, у перадавым, прысвечаным падрыхтоўцы да XVII партз'езда.

Мімаволі паўстае пытанне: няўжо рэдакцыя газеты «За пролетарскія кадры» не зразумела нават таго, што тыя выразныя фармулёўкі ў пытаннях галоўнай небяспекі ў нацыянальным пытанні, даныя снежаньскім пленумам, павінны стаць стрыжнем работы газеты, асабліва ва ўмовах інстытута?

Як-жа можна мабілізаваць партарганізацыю і ўвесь калектыў інстытута на барацьбу за пролетарскі інтэрнацыяналізм, не паставіўшы гэтага пытання нават у парадку паказу сутнасці рашэнняў пленума? Ясна, што тут мае месца або злачыннае верхаглядства, або палітычная слепата рэдакцыі «За пролетарскія кадры».

Газета правяла работу па ўскрыццю асобных фактаў праяўлення варожай ідэалогіі ў сценах інстытута (трацкісцкая кантрабанда Усцінава, справа нацдэмаў Шэўчанка, Шчарбакова, Хайкіна).

Але ўся гэта работа хутчэй нагадвае спрэчкі акадэмічнага парадку. Палітычная вострасць у пастаноўцы пытання, барацьба за дзейснасць друкуемых матэрыялаў у радзе выпадкаў яўна недастатковая. Гэта з'явішча мае бясспрэчна лагічную сувязь з пастановай партарганізацыі інстытута ад 24 красавіка, у якой партсход (далучыўшыся да рашэнняў РК і парткома аб вызваленні ад работы сакратара парткома т. Казака) канстатуе:

> **«Барацьба з трацкісцкай вылазкай Шэўчанка не была даведзена да канца... Шэраг сігналаў аб антысовецкіх вылазках сярод студэнцтва не былі падняты парткомам на палітычную вышыню».**

Гэта пастанова, зразумела, дае атэстацыю і рабоце газеты.

**
*

Недаацэнка важнейшага значэння барацьбы за пролетарскі інтэрнацыяналізм прывяла да велізарнага палітычнага зрыву ў рабоце газеты **«Ленінец»** — органа парткома Вышэйшай комуністычнай сельска-гаспадарчай школы Беларусі імя Леніна (камплект з 18 студзеня па 25 мая 1934 г.). Газета стала на шлях заахвочання буржуазна-нацыяналістычных тэндэнцый пры выраўшэнні справы т. Вінаградавай. Гэты факт, вядомы ўсёй грамадскасці БССР, знайшоў сваю ацэнку ў фельетоне, надрукаваным у «Праўде» пад загалоўкам «Буква подвела».

Справа Вінаградавай магла ўзнікнуць толькі таму, што рэдакцыя «Ленінца» не зразумела сэнсу рашэнняў снежаньскага пленума ЦК і ЦКК ВКП(б), не вяла сістэматычнай барацьбы за пролетарскі інтэрнацыяналізм, абмежавалася на працягу поўгода змяшчэннем аднаго артыкула і 3-4 заметак па нацыянальнаму пытанню.

**
*

Стан работы трох разгледжаных газет па пытаннях барацьбы за пролетарскі інтэрнацыяналізм сігналізуе аб яўнай недаацэнцы гэтай важнейшай палітычнай задачы.

Кожнай газеце неабходна зрабіць з гэтага належны вывад: ні на мінуту не аслабляць барацьбу за правільнае праводзенне ленінскай нацыянальнай палітыкі, за асноўныя прынцыпы пролетарскага інтэрнацыяналізма.

# КАМЕНТАРЫІ ПАТРЭБНЫ, тав. ВОЛЬФ

**„ЧЫРВОНЫ ЧЫГУНАЧНІК“**
**орган калектыва КП(б)Б**
**5-га паравознага ўчастка**

Дэлегат XVII з'езда партыі — лепшы ўдарнік дэпо тав. Досін на агульным сходзе рабочых менскага паравознага дэпо расказваў аб рабоце з'езда і дакладзе тав. Сталіна.

Не гледзячы на позні час, спіс жадаючых выступаць у спрэчках папаўняўся прозвішчамі лепшых ударнікаў. Ухваляючы суровую ацэнку, даную з'ездам рабоце транспарта, рабочыя рэзка раскрытыкавалі работу 5-га паравознага ўчастка.

І сапраўды, становішча ў менскім паравозным дэпо вымушала біць трывогу. Тут больш, чым на іншых участках, укаранілася функцыяналка, абязлічка, бюракратычныя метады кіраўніцтва. Адсутнічае працоўная дысцыпліна. Соцспаборніцтва не разгорнута. Класавы вораг Себераўскі і яму падобныя знайшлі ў дэпо цёплы прытулак. Там пануе сямейнасць і кругавая парука. Авангардная роля комуністаў на ўчастках не адчуваецца.

Усё гэта было выкрыта і асуджана лепшымі ўдарнікамі дэпо. Сход аднадушна пастанавіў паклaсці ў аснову ўсёй сваёй штодзеннай работы рашэнні XVII з'езда партыі і даклад тав. Сталіна, дабіцца вывядзення 5-га ўчастка ў рады перадавых.

Гэта было ў лютым 1934 года.

Аднак, трэба з усёй адказнасцю заявіць, што і да гэтага дня рашэнні з'езда і даклад тав. Сталіна не даведзены яшчэ да кожнага рабочага менскага паравознага дэпо. Не толькі беспартыйныя рабочыя, але і вялікая частка комуністаў не прапрацавалі рашэнняў з'езда.

**«Кандыдацкая школа і група спачуваючых былі арганізаваны, але яны з першага-ж дня спынілі сваё існаванне».**

—піша газета **«Чырвоны чыгуначнік»**. Кандыдаты партыі Яромка і Меляшкевіч **«самі па сабе далучыліся да соўпартшколы»**. Прапагандыст Баброўскі

**«адзін раз з'явіўся на занятк і, прапанаваў заключыць паміж спухачамі дагаворы па спаборніцтву і на гэтым работа школы скончылася»**

— спакойна паведамляе газета ў нумары за 15-е сакавіка і, заяўляючы, што **«каментарыі не патрэбны»**, больш да пытання прапрацоўкі рашэнняў з'езда не варочаецца.

***

З 25-га лютага на 25-е красавіка рэдакцыяй газеты **«Большевистский путь»** і дорпрафсачам МББ чыгункі быў абвешчан конкурс — двухмесячнік па барацьбе за эканомію паліва, за здаровы паравоз. «Чырвоны чыгуначнік», уключыўшыся ў конкурс, заклікаў ударнікаў менскага дэпо **«ў калоны спаборнічаючых за эканомію паліва, за здаровы паравоз»**.

Але адна справа заклікаць, а другая — умець і жадаць арганізаваць сістэматычную барацьбу за першынства ў конкурсе. Асноўны вагар конкурса — соцспаборніцтва і ўдарніцтва — быў упушчан газетай.

Змяшчае газета карэспандэнцыю. т. Меляшкевіча. Меляшкевіч разказвае аб выніках праверкі соцспаборніцтва ў падсобным цэху:

**«Падыходзім да майстра тав. Шарыпа.**

**— Тав. Шарыпа, трэба пагаварыць з вамі адносна спаборніцтва.**

**— Мне няма часу. Аб гэтым можна даведацца ў тав. Кузьмінава.**

**— Тав. Кузьмінаў, як у вас з разгортваннем спаборніцтва ў цэху?**

**— Запытайцеся ў профорга, ён вам адкажа.**

**Профорг Яромка дастаў пачку дагавароў і сказаў: Вось усе дагаворы. У канцы месяца будзем праверыць.**

**Кіраўніцтва з боку мясцкома цэха няма. Толькі 35,5 проц. рабочых ахоплены спаборніцтвам».**

Пісьмо тав. Меляшкевіча завяршаецца ўжо вядомай канцоўкай рэдакцыі **«каментарыі не патрэбны».**

Адсутнасць работы па прапагандзе рашэнняў партз'езда, па разгортванню соцнаборніцтва, ліберальнічанне з астаткамі Себераўшчыны, прывялі да ганебных вынікаў.

**«Першая дэкада конкурса дала рост здарэнняў»** — прызнаецца «Чырвоны чыгуначнік». Кніга здарэнняў папаўняецца ўсё новымі злачынствамі. Толькі за 7 дзён з 4 па 11 сакавіка было 11 здарэнняў. Машыніст Ждановіч, следуючы з поездам на Менск, па дарозе «згубіў» тэндарную рэсору, падвеску і тэндарную буксавую крышку. Машыніст Андрэеў праехаў закрыты семафор. Такіх выпадкаў нямала.

«Чырвоны чыгуначнік» разумее, што

> **«жывыя людзі з'яўляюцца віноўнікамі здарэнняў і таму барацьбу з гэтым бічом трэба весці, арганізуючы жывых людзей, выхоўваючы іх. Трэба сурова караць вінаватых, але галоўным чынам трэба выхаваўчай масавай работай, падборам людзей папярэджваць самую магчымасць праступка».**

Разумее, але не ўмее на фактах дрэннай работы, нават прамога шкодніцтва асобных людзей, мабілізаваць лепшых рабочых дэпо на барацьбу з дэзарганізатарамі працоўнай дысцыпліны, зрыўшчыкамі рэалізацыі рашэнняў з'езда, як не ўмее яна вопыт лепшых ударнікаў дэпо Таруліна, Барсука, Казлова, Янушкевіча і іншых, якія паказалі ўзоры барацьбы за пяршынства ў конкурсе, перанесці ва ўсе брыгады.

Конкурс скончыўся. Прарывы ў дэпо асталіся. За першы квартал спараная язда выканана толькі на 88 проц. Налічваецца 14 выпадкаў псавання паравозаў у дарозе,

> **«15 выпадкаў паўторнага рамонту. Процант хворых паравозаў астаецца значна вышэй нормы».**

Газета праз два тыдні пасля скончэння конкурса вымушана прызнаць, што

> **«скончыўшыйся конкурс не даў патрэбных вынікаў у аздараўленні паравознага парка, у дэпо канкрэтную жывую справу падмянілі шуміхай і траскатнёй».**

Газета з нумара ў нумар канстатуе факты развалу працоўнай дысцыпліны, раскрадвання соцыялістычнай маемасці. Начны рэйд выявіў, што ў любое памяшканне паравознага ўчастка можа ўваходзіць кожны каму не лянота.

> **«Калі не ўдаецца прайсці ў вароты — перапезьце праз плот і вы ўжо свой чалавек. Вас ніхто не затрымае, не спытае ў вас дакументаў».**

Вартаўнікі, тэлефаністы, стрэлачнікі спяць спакойным сном. А калі хто скрозь сон спытае: «Вы адкуль»? —адкажыце, што вы «прадстаўнікі» і вас пусцяць куды хочаце. Газета, паведамляючы аб усім гэтым, прыводзячы рад фактаў злачынных адносін да аховы соцыялістычнай маемасці, зноў завяршае гэты матэрыял трыма словамі: **«каментарыі не патрэбны».**

«Чырвоны чыгуначнік» уключыўся зараз яшчэ ў два конкурсы: на лепшую сталовую і лепшы паравозны ўчастак. Не ўлічыўшы ганебных вынікаў першага конкурса, газета не паставіла ў цэнтры работы прапаганду рашэнняў партз'езда і барацьбу за іх рэалізацыю. Функцыяналка і абязлічка прадаўжаюць панаваць ва ўсіх звеннях 5-га паравознага ўчастка. Работа з рабкорамі, пізавым друкам — у поўным заняпадзе. Парторг дэпо не звярачае ніякай увагі на работу насценгазеты. На матэрыялы, змешчаныя ў газеце, ніхто не рэагуе. Паравозныя брыгады зусім не маюць насценгазет. Сам «Чырвоны чыгуначнік» не арганізаваў дапамогі насценгазетам і штодзенкам.

Газета і яе рэдактар тав. Вольф павінны з урокаў першага конкурса зрабіць для сябе адзін вывад: шуміхай і балбатнёй нельга падмяняць сапраўдную бальшэвіцкую работу па рэалізацыі рашэнняў з'езда аб транспарце.

# НЕСКАРЫСТАНЫЯ ВАГАРЫ

## „За торф"

На Асінторфе выходзіць шматтыражная газета **«За торф»** (рэдактар **Эстэркін**).

Газета мае вялікі актыў — 125 рабкораў і 35 рэдактароў нізавых газет. Але яна не здолела арганізаваць гэты актыў, не здолела расставіць свае сілы на рашаючых участках і ў брыгадах, наладзіць баявую, сістэматычную работу нізавых газет, дабіцца рэагавання па кожны рабкораўскі допіс.

27 красавіка газета «За торф» абвяшчае ўнутрызаводскі конкурс па лепшую брыгадную штодзёнку і рабкора завода. Вызначаны ўмовы конкурса. Выдзелена 775 руб. для прэміравання лепшых газет і рабкораў.

Усё, здавалася-б, у парадку: конкурс абвешчан, прэміі вызначаны, нават дзень для падвядзення вынікаў конкурса намечан — 5 мая—дзень друку. Здавалася-б, газета «За торф» скарыстае конкурс для ўзмацнення дапамогі нізавым газетам, для шырокага паказу вопыта работы лепшых газет, рабкораў непасрэдна ля машын, у кар'еры, на тарфяных масівах, там, дзе вырашаецца лёс выканання плана.

Так павінна было быць. Але па справе атрымалася зусім іншае.

Пераходзім ад 39 нумара газеты «За торф», на першай старонцы якога былі змешчаны ўмовы конкурса, да наступных нумароў. Перагортваем нумары газеты да 5 мая. Аб конкурсе — ні слова. Праходзіць і дзень друку — фініш конкурса — ні слова.

Толькі 7 мая пад аншлагам «Унутрызаводскі конкурс штодзёнак» друкуюцца дзве маленькія заметкі рэдкалегіі насценгазеты «У бой за торф» і рэдкалегіі газеты цэнтральнай майстэрні з канкрэтнымі абавязацельствамі па конкурсу. Гэта ўсё. На гэтым, як відаць, конкурс і скончыўся.

Праведзеная нарада рэдактароў нізавых газет і рабкораў Асінторфа паказала, што шматтыражка не дапамагае нізавым газетам дабіцца рэагавання на заметкі і пісьмы рабочых. Яўцоў — рэдактар газеты механічнага цэха 2-га участка — заявіляе: «У нас вышлі тры нумары газет, але ўсё, што было змешчана, асталося толькі напісаным на паперы. Газета «За торф» не дапамагала наладзіць рэагаванне на заметку. Людзі з рэдакцыі прыходзяць і толькі падштурхоўваюць, каб выпускаць газету. Работа газеты занепала, бо на яе сігналы ніхто не рэагуе». Рэдактар Ваккераў расказвае, што начальнік 2 участка Матэйка і партарганізатар Гіткевіч не прымаюць мер па змешчаных заметках. Парткіраўніцтва газетай няма. За ўвесь час вышлі толькі 2 нумары. Няма таксама ўмоў для выпуску газет. У бараках і ў рэдкалегіі няма ні ручак, ні пер'яў, ні алоўкаў, ні фарбаў.

Усё гэта характарызуе, як дапамагае шматтыражка тым 35 газетам, якія выходзяць на Асінторфе. Яшчэ 4 красавіка шматтыражка пісала, што сярод работнікаў больніцы крытыка і самакрытыка заціснута. Гутарка ішла аб насценгазеце больніцы. У гэтай заметцы пісалася:

**«Рэдкалегія прымірэнча адносіцца да асоб, зневажаючых самакрытыку. Напрыклад, работніца больніцы Сільчэнка вельмі груба адносіцца да хворых. Неаднаразова загадчыкам больніцы т. Гантманам ёй былі дадзены заўвагі, але агіднасці з боку Сільчанкі не спыняюцца...**

**Калі-ж у насценгазету напісалі аб яе адносінах да працы, дык яна сказала, што «гэту газету сарву»...**

**Пасля гэтага была змешчана заметка ў насценгазеце, што т. Сільчэнкава «замест таго, каб даць хвораму кіпяток на чай, сама вымылася гэтай вадой».**

Гэту заметку яна сустрэла так:

**«Напляваць я хачу на вас і на вашу газету».**

Дзе-ж тут прымірэнчыя адносіны насценгазеты да Сільчэнкавай. Газета-ж не раз пісала аб ёй, патрабавала прыцягнуць да адказнасці, але адміністрацыя, мясцком і партарганізацыя ў гэтым не дапамаглі. А што зрабіла шматтыражка? Нічога. Яна нават не ўзняла на прынцыповую вышыню выпад Сільчэнкавай супроць газеты, не стала на абарону рэдкалегіі.

1-га красавіка лепшы рабкор Асінторфа Іван Жаўноў звярнуўся з пісьмом у рэдакцыю шматтыражкі:

**«З'яўляюся на завод. Кухарэнка не дапушчае мяне да работы ў трактарны парк — сабіраючыся напісаць загад аб зняцці мяне з работы, як прагульшчыка».**

Кухарэнка падбухторвае трактарыстаў, каб галасавалі за выключэнне Жаўнова з ліку ўдарнікаў, у той час калі Жаўноў лепшы ўдарнік на заводзе. Яго брыгада выконвае норму амаль на 200 проц. А газета «За торф» і гэтаму факту не надала адпаведнага палітычнага значэння.

Зараз газета нібы перабудавала сваю работу. У рэдакцыі 4 чалавекі: рэдактар Эстэркін, інструктары — Камендант і Мядзведзеў і адзін тэхнічны работнік рэдакцыі. Інструктары прымацаваны да ўчасткаў. Там яны арганізоўваюць матэрыял для газеты Але інструктары не займаюцца нізавым друкам, не вядуць работы з рабкорамі.

Адсюль і зусім слабая барацьба пісавога друку і рабкораў Асінторфа за выкананне промфінплана. Адсюль і ўсе патрабаванні і заклікі газеты астаюцца пустой балбатнёй.

# Прытупленая зброя

## Чырвоны швэйнік

**Насценгазета пятай істужкі фабрыкі імя Дзяржынскага** (Бабруйск) зусім правільна крытыкавала работніцу **Муравіну,** якая ў часе работы шыла сабе спадніцу і гэтым самым сарвала выкананне істужкай плана.

Калі Муравіна прачытала аб сабе ў газеце, яна прышла да рабкоркі Навіцкавай і аблаяла яе: «Не маеце права крытыкаваць мяне, бо я грамадскі работнік — прафорг» — крычала Муравіна.

Рабочыя 3-га агрэгата на агульным сходзе пастанавілі зняць Муравіну з работы прафорга і справу аб заціску самакрытыкі перадаць у таварыскі суд.

**Шматтыражка фабрыкі «Чырвоны швейнік» абмежавалася толькі фіксацыяй гэтага агіднага факта** ў нумары за 10 красавіка. Толькі 8-га мая, калі рабкорка Ляпеўская напомніла парткому, што суда яшчэ не было, сакратар парткома тав. Уздзенскі распарадзіўся «паскорыць справу».

Пасля гэтага зусім не дзіўна, што насценгазеты ў радзе істужак не выходзяць, што рабкоркі кідаюць пісаць у газеты. Тым больш, што і сама шматтыражка з 1-га студзеня па 1-е мая аб насценгазетах і аб рабоце рабкораў нават не заікнулася. З факта заціску самакрытыкі шматтыражка не зрабіла для сябе ніякіх вывадаў, не ўзняла гэтага пытання на прынцыповую палітычную вышыню, не разгарнула выхаваўчай работы сярод рабкораў фабрыкі.

**Шматтыражка выпускаецца рэдкалегіяй з 1 чалавека — рэдактара Гольдштэйна.** На сігналы друку ніхто не рэагуе. Дырэктар фабрыкі Кац на парткоме прама заявіў: «Не магу трымаць спецыяльны штат людзей, якія-б займаліся рэагаваннем. Самому-ж мне няма часу чытаць газеты».

У выкананне загада Наркомцяжпрома аб арганізацыі абавязковай вучобы спецыялістаў, на фабрыцы былі арганізаваны спецыяльныя курсы. На гэтыя курсы трацяць шмат грашай, але заняткі сістэматычна зрываюцца. Шматтыражка аб гэтым пісала некальхі раз, але і на гэты дзень нічога не зроблена. Курсы фактычна сарваны. Дырэктар Кац заяўляе: «Курсы зрываюцца, дык што я магу зрабіць? Вось вы зрабіце, каб яны працавалі, пісаць і я ўмею».

**19 красавіка адбылася ўсебеларуская нарада рабкорак швейнай прамысловасці.** На гэтай нарадзе дэлегаткі фабрыкі ў сваіх выступленнях гаварылі аб дрэнным кіраўніцтве парткома нізавым друкам, аб наяўнасці зажыму самакрытыкі. Пасля нарады дэлегаткі, узброеныя канкрэтнай праграмай дзейнасці па разгортванню нізавога друку, пачалі больш актыўна працаваць. Адчуваўся некаторы зрух у разгортванні нізавога друку і ўцягненні рабочых у работу насценгазет. **Дэлегаткі — рэдактары насценгазет — пачалі сістэматычна выпускаць насценкі.** А з боку парткома, шматтыражкі і фабкома нізавым газетам і па сённяшні дзень няма дапамогі. «Чырвоны швейнік» толькі ў першамайскім нумары прысвяціў старонку вопыту работы нізавога друку фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі». У гэтым-жа нумары газета зрабіла агляд некаторых штодзёнак. У сваім аглядзе шматтыражка піша, што недахоп штодзёнак толькі ў дрэнным іх мастацкім афармленні. Рэдкалегія «Чырвонага швейніка» больш недахопаў не знайшла. Яна зусім «не заўважвае», што насценкі ў большасці выпадкаў выпускаюцца **адным чалавекам,** што на сігналы насценгазет не рэагуюць, што газеты фактычна выпускаюцца без усякага ўдзелу мас.

Дамо слова фактам. Вось выступленні рэдактароў і рабкораў на рабкораўскай нарадзе ў часе правядзення дэкадніка друку. Рабкорка Бушкова заяўляе:

— Для чаго я буду пісаць у газету, калі не рэагуюць. Па віне загадчыка сталоўкі рабочыя спазніліся на работу амаль на цэлую гадзіну. Аб гэтым мы не раз пісалі ў газеце, а што адміністрацыя зрабіла? Нічога. Так нашы сігналы і асталіся пустым гукам.

— Да злёту рабкорак было дрэнна, а зараз таксама не лепш. У нас газеты выпускаюцца парторгамі і праформамі. Я — праформ — выпускаю газету разам з парторгам. Рэдкалегіі ў нас у радзе, істужак не выбіраліся, — расказвае тав. **Шнейдэрава.**

Дэлегатка ўсебеларускага злёта рабкорак-швейніц **Макарэвіч** у сваім выступленні на нарадзе рабкорак фабрыкі заявіла:

— Наш начальнік цэха **Пінхасік** не хацеў мяне пасылаць на ўсебеларускі злёт, на які мяне выбралі. На сходзе цэха ён не дазволіў перадаць рабочым аб тым, што было на злёце. У нашым цэху не зварачаюць ніякай увагі на ўзнятыя рабкорамі пытанні праз друк. У нас няма ніводнага рабкора-ізотаўца.

Якое-ж становішча на фабрыцы? Як ідзе барацьба за лепшае і рацыянальнае скарыстанне сыравіны і адыходаў? Аб гэтым гавораць лічбы. Процант выкарыстання сыравіны на фабрыцы складае 87,7 супроць планавых 89,3 проц. У мінулым годзе процант выкарыстання сыравіны складаў 92,4 проц. За першы квартал гэтага года на фабрыцы ёсць значнае павелічэнне адыходаў, адсюль і павышэнне сабекошту. У лютым павышэнне сабекошту складала 2,8 проц., у сакавіку—2,2 а за ўвесь першы квартал сабекошт павышан на 1,6 проц. супроць планавых 0,7 проц.

Усе вышэй паказаныя факты гавораць, што **нізавы друк на фабрыцы ў поўным заняпадзе, рабкоры не мабілізаваны на павышэнне колькасных і якасных паказальнікаў работы фабрыкі, крытыка і самакрытыка на фабрыцы не ў пашане.**

Сакратар парткома тав. **Уздзенскі** — быў газетны работнік. Здавалася-б, што тут, на фабрыцы, лепш чым дзе павінна быць арганізавана работа з рабкорамі, работа нізавых газет. Але яно далёка не так. Толькі ў часе дэкадніка друку партком заняўся нізавым друкам. Тав. Уздзенскі мяркуе арганізаваць курсы рэдактароў. Гэта, бясспрэчна, добрая рэч. Але пакуль на фабрыцы не будуць выбраны рэдкалегіі, пакуль яны не будуць забяспечаны моцным партыйным кіраўніцтвам, пакуль не будзе ўстаноўлена дакладнае рэагаванне на сігналы друку, да таго часу работа фабрычнага друку будзе праводзіцца ўпустую. Трэба, каб у работу нізавых газет былі **ўцягнуты перадавыя рабочыя і работніцы.** Трэба, у першую чаргу, каб сам партыйны камітэт заняўся сур'ёзнай сістэматычнай дапамогай нізавому друку ў яго штодзённай рабоце.

ПАЛІТАДДЗЕЛЬСКАЯ ЗВЯЗДА

ЛЕНІНСКІ ШЛЯХ

Адбыўся злёт брыгадзіраў зоны МТС

Соўгасна-калгасны палітаддзельскі друк Совецкай Беларусі

Я. ІТКІН

АРТЫКУЛЫ

# НОВАЯ СІЛА

Вопыт гадавой работы палітаддзелаў і палітаддзельскіх газет гаворыць аб тым, што са з'яўленнем палітаддзелаў пры МТС і соўгасах, са стварэннем палітаддзельскіх газет пашырыліся і якасна выраслі рады селькораў, узмацнілася работа, роля, аўтарытэт і значэнне нізавога калгаснага друку.

З перамогай калгаснага руху, з перабудовай вясковай партыйнай арганізацыі па вытворчаму прынцыпу змяніліся таксама структура і змест нізавога вясковага друку. Калі на вёсцы гаспадаром быў аднаасобнік, пераважала насценгазета пры сельсовеце, пры хаце-чытальні, пры сельпо, школе. Асноўнай фігурай нізавой газеты быў хатнік, вясковы настаўнік, сакратар сельсовета.

Цяпер **пераважаючай** з'яўляецца насценгазета калгасная, насценгазета брыгадная і ў радзе выпадкаў насценгазета звеннявая. Рэдактарам нізавой вясковай газеты ў пераважнай большасці ўжо з'яўляецца калгаснік, які працуе непасрэдна на калгаснай вытворчасці.

Насценгазета калгаса, насценгазета калгаснай брыгады, насценгазета трактарнай брыгады — гэта і ёсць выраз перабудовы нашага нізавога вясковага друку па вытворчаму прынцыпу і гэту перабудову **не трэба** разглядаць, як перабудову па **форме**, а як перабудову па сутнасці, бо ўжо адно выданне насценгазеты калгасам, брыгадай набліжае яе (зразумела, пры ўмовах правільнай работы насценгазеты) да вытворчага жыцця калгаса, брыгады і звяна.

Добрая, большэвіцкая насценгазета ў калгасе і брыгадзе — выключна вялікая сіла, сіла арганізатара мас. Агульна-калгасная або брыгадная насценгазета, якая працуе сістэматычна, пастаянна, не ад выпадку да выпадку, не ад свята да свята, не ад адной юбілейнай даты да другой (як гэта часта, на жаль, бывае) і якая робіцца не адным чалавекам, а масай калгаснікаў, ва многім рашае поспех той ці іншай сельска-гаспадарчай работы.

Іменна таму яшчэ ў перыяд падрыхтоўкі да сяўбы партыйныя арганізацыі, палітаддзелы, раённыя і палітаддзельскія газеты павінны былі рашуча палепшыць работу нізавога друку.

Большасць палітаддзелаў і іх газет напярэдадні сяўбы правялі злёты і нарады селькораў і рэдактароў нізавых газет, разгарнулі вялікую масавую работу.

Нізавы друк павінен мець сваю «матэрыяльную базу» — гутарка ідзе аб макетах або, прынамсі, аб паперы. Студэнты Комуністычнага інстытута журналістыкі БССР у часе вучэбнай практыкі ў Горацкім раёне сутыкнуліся з такім становішчам, калі з-за адсутнасці макетаў і паперы выпуск насценгазет ва многіх калгасах быў спынен. Рад раённых і палітаддзельскіх газет таму зрабілі зусім правільна, калі выпусцілі макеты для калгасных і брыгадных насценгазет.

Па аднаму толькі Дзяржынскаму раёну палітаддзельскай і раённай газетамі было выпушчана 10.000 макетаў. Ясная справа, выпуск такіх макетаў і распаўсюджанне іх па калгасах мела і мае вялікае арганізацыйнае значэнне ў справе пашырэння сеткі нізавых насценгазет.

Велізарны рост нізавога друку ставіць перад раённымі і палітаддзельскімі газетамі пытанне аб падрыхтоўцы нізавых газетных кадраў, аб падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы рэдактароў з лепшых селькораў-калгаснікаў.

У гэтым годзе многія раённыя і палітаддзельскія газеты напярэдадні сяўбы правялі пэўную работу па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы нізавога рэдактара.

Палітаддзельскія газеты Даманавіцкай, Жлобінскай, Большэвіцкай, Капыльскай, Слуцкай, Чавускай і іншых МТС правялі кароткатэрміновыя курсы па падрыхтоўцы рэдактароў калгасных і брыгадных насценгазет. Вопыт гэтых курсаў заслугоўвае асаблівай увагі, бо ў бліжэйшы час неабходна будзе больш сур'ёзна і арганізавана заняцца падрыхтоўкай рэдактароў для калгасных газет.

Злёт селькораў, нарада рэдактароў і іх індывідуальны інструктаж—такавы асноўныя формы кіраўніцтва палітаддзельскіх газет калгаснымі газетамі. Агляд насценгазеты на старонках палітаддзельскай газеты, паказ работы лепшых насценгазет таксама заваяваў пэўнае месца, у асаблівасці за перыяд веснавой сяўбы і дэкадніка большэвіцкага друку.

Палітаддзельскія газеты Даманавіцкай, Жлобінскай, Рагачоўскай, Лельчыцкай, Аршанскай і іншых МТС сістэматычна даюць агляды нізавых насценгазет, старонкі, куткі ў дапамогу селькору, нізавому рэдактару.

Цэнтральны друк БССР («Звязда», «Рабочий», «Калгаснік Беларусі» і інш.) зусім недастаткова займаецца пытаннямі работы і, асабліва, кіраўніцтва калгаснымі газетамі.

Кіраўніцтва калгаснымі газетамі неабходна ўзмацніць. Неабходна палепшыць якасць гэтага кіраўніцтва і дабіцца, каб у кожным калгасе, у кожнай брыгадзе насценгазеты працавалі па-баявому, апэратыўна і каб гэтыя газеты былі глыбока звязаны з масамі.

---

Як па тэмпах, так і па якасных паказальніках веснавая сяўба гэтага года прайшла ў БССР значна лепш, чым ва ўсе мінулыя гады. У першым туры спаборніцтва з Заходняй вобласцю Беларусь перамагла. План сяўбы зернавых і бульбы выканан на 35-40 дзён раней, чым у мінулым годзе. Сяўба прайшла пры выключным вытворча-палітычным уздыме мас калгаснікаў. Усё гэта з'яўляецца рэзультатам большэвіцкага кіраўніцтва ЦК ВКП(б) на чале з тав. Сталіным, вялікай арганізацыйна-масавай работы партыйных арганізацый Беларусі і чэснай работы калгасных мас.

Немалую ролю ў справе забеспячэння паспяховага ходу сяўбы адыграў нізавы калгасны друк. Гэта становішча можна ілюстраваць цэлым радам фактаў.

Толькі па 23 калгасах Хойніцкай МТС за перыяд сяўбы было выпушчана 360 брыгадных насценгазет, якія паказвалі лепшых людзей калгасаў, прыклады ўзорнай, ударнай работы, выкрываючы дэзарганізатараў калгаснай вытворчасці.

Такое-ж становішча ў калгасах зоны дзейнасці Рагачоўскай МТС. Рэдактар палітаддзельскай газеты гэтай МТС піша:

«З 75 калгасаў зоны дзейнасці МТС брыгадныя газеты выпускаюцца ў 50 калгасах. У астатніх калгасах выпускаюцца агульнакалгасныя газеты... Чытчыкі газет у гэтым годзе працуюць значна лепш, арганізуюць спаборніцтва і, галоўнае, змагаюцца за лепшае выкананне абавязацельстваў.

Газета першай брыгады калгаса імя Сталіна (рэдактар комсамолка **Кочмарава)** з нумара ў нумар асвятляе ход палявых работ у калгасе, змагаецца за выкананне абавязацельстваў па спаборніцтву.

— **Ф. Каралёў** абавязаўся быць лепшым ударнікам. Ён свае абавязацельствы выконвае на справе, — піша газета і заклікае ўсіх калгаснікаў наследаваць прыкладу Каралёва.

Газета дабілася, што на вялікдзень усе калгаснікі працавалі. Брыгадная газета дапамагла калгасу выканаць план сяўбы аўса і зернавых к 20 красавіка».

Рэдактар палітаддзельскай газеты прыводзіць рад прыкладаў работы перадавых брыгадных і агульнакалгасных газет, якія ўзначальваюць ударніцтва і спаборніцтва на соцыялістычных палях.

Рагачоўская МТС першай ў БССР скончыла сяўбу. Сувязь паміж добрай

работай нізавога калгасна-брыгаднага друку і паспяховым правядзеннем сяўбы тут красамоўна відна.

Насценгазета калгаса «Чырвоныя горкі», Бухарынскага сельсовета, Жлобінскай МТС (рэдактар тав. **Бераснеў**) своечасова мабілізавала калгаснікаў на бальшэвіцкую падрыхтоўку і правядзенне веснавой сяўбы, выступіла арганізатарам брыгаднага спаборніцтва ў калгасе.

Яна адыграла велізарную ролю ў паспяховым правядзенні сяўбы ў калгасе — калгас датэрмінова, 30 красавіка, і добраякасна скончыў сяўбу зернавых, ільну і бульбы.

3-я брыгада калгаса імя Войкава, удзельнік усебеларускага конкурса брыгад, заваявала пераходны чырвоны сцяг палітаддзела Менскай МТС. Сяўбу зернавых брыгада скончыла 27-га красавіка, бульбы і астатніх культур —4-га мая. Усе агратэхнічныя правілы былі захаваны. Немалая роля ў барацьбе за бальшэвіцкую сяўбу ў брыгадзе і за пяршынства брыгады належыць брыгаднай насценгазеце (рэдактар т. **Лазарчык).** Насценгазета ўстанавіла ў звеннях сігнальныя, селькораўскія пасты, моцна білася за тэмпы і колькасныя паказальнікі сяўбы.

Або возьмем насценгазету калгаса «Чырвоная гара», Ульянаўскага сельсовета, Сенненскай МТС. З пачатку сяўбы газета вышла 16 раз. Апрача гэтага ў чатырох брыгадах калгаса наладжан штодзенны выпуск брыгадных насценгазет. Калгас быў адстаючым, а ў перыяд сяўбы вышаў у рады перадавых, не гледзячы на недахват цяглавай і рабочай сілы. Калгас поўнасцю скончыў сяўбу 6-га мая. Калгасна-брыгадны друк садзейнічаў гэтаму поспеху — перадаваў вопыт з адной брыгады ў другую, дабіўся ўвядзення індывідуальнай здзельшчыны. Рэдкалегіі з селькораўскім актывам наладзілі ў брыгадах штодзенную чытку газет.

Аб цікавым вопыце расказвае на старонках палітаддзельскай газеты Жлобінскай МТС тав. **Самушэвіч,** рэдактар насценгазеты калгаса «Серп і молат».

Гутарка ідзе аб выпуску ў калгасе так званых тэлеграм-маланак. Калгасная насценгазета выходзіць адзін раз ў 3-5 дзён, але такая кампанія, як пасяўная, патрабавала вялікай аператыўнасці, час-ад-часу проста маланкавага рэагавання на той ці іншы факт. І калгасная насценгазета — расказвае тав. Самушэвіч, рашыла практыкаваць выпуск тэлеграм-маланак. Для таго, каб напісаць і аформіць тэлеграму, патрабуецца не больш 20-25 мінут.

Выпускам такіх тэлеграм калгасная насценгазета дабілася хуткага і дзейснага рэагавання. Аднойчы ў калгасе цялят но карміді да 9 гадзін раніцы, старшыні калгаса на месцы не было, а корму ніхто не выдаваў. Насценгазета выпусціла па гэтаму канкрэтнаму выпадку тэлеграму і праз 20 мінут было арганізавана карміленне цялят.

Такава сіла баявой і аператыўнай работы нізавога калгаснага друку.

І іменна таму, што ў працэсе барацьбы за бальшэвіцкую сяўбу вырасла актыўнасць селькораў і палепшылася работа нізавога сельскага друку — кулакі і падкулачнікі дзе-ні-дзе прабуюць арганізаваць супраціўленне рабоце калгасных газет.

У калгасе імя Леніна, Дзяржынскай МТС, падкулачнік Грынкевіч сарваў насценгазету і збіў рэдактара-комуніста Казея. У калгасе «Звязда» той-жа МТС, кулацкі агент Вашкевіч павыціраў з чорнай дошкі прозвішчы зрыўшчыкаў сяўбы і занёс туды прозвішчы ўдарнікаў і брыгадзіраў. У тым-жа калгасе падкулачнік Тумас збіў актыўнага селькора, члена рэдкалегіі 4-й брыгады Арцюшэўскага.

Па патрабаванню мас калгаснікаў, селькораў палітаддзельскай газеты ўсе гэтыя падкулачнікі былі прыцягнуты да судовай адказнасці.

Мы павінны яшчэ больш узмацніць рэволюцыйную пільнасць, умець своечасова выяўляць манеўры класавага ворага.

Веснавая сяўба ў Беларусі скончана. Палітаддзелы і ўсе партыйныя арганізацыі, раённыя і палітаддзельскія газеты павінны не толькі замацаваць дасягнутыя рэзультаты, але яшчэ больш палепшыць работу нізавога друку, пераключыць яго на барацьбу за бальшэвіцкае правядзенне праполачна-ўборачных работ і паставак сельска-гаспадарчых прадуктаў дзяржаве.

Юр. БЕЛЬКО

# Сенаўборцы — увагу ўсяго друку

Паўднёвыя раёны БССР пачалі касіць. Праз некалькі дзён касьба павінна разгарнуцца па ўсёй рэспубліцы. Па БССР згодна пастановы СНК СССР неабходна сёлета ўбраць 1 млн. 780 тысяч гектараў сенажаці. Гэта баявая і адказнейшая задача, патрабуючая ўвагі ўсёй партарганізацыі і ўсяго нашага друку.

Будзе лішнім даводзіць велізарнейшае значэнне паспяховага правядзення сенаўборкі для далейшага развіцця сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Сена з'яўляецца галоўным кормам для большасці відаў жывёлы. Ім мы павінны сёлета поўнасцю забяспечыць як грамаджанае стада, так і жывёлу, якая знаходзіцца ў асабістым карыстанні калгаснікаў.

Аднак, зараз нельга сказаць, што ўсе нашы газеты зразумелі тую вялікую адказнасць, якая ўскладаецца на іх па правядзенню сенаўборкі. Мы прагледзелі газеты раду раёнаў БССР і трэба адзначыць, што вынікі самым сумныя. **Большасць прагледжаных газет яшчэ не надрукавалі ні радка пра сенаўборку.** Спынімся на канкрэтных газетах.

**«Сцяг калектывізацыі»** — газета Глускага райкома КП(б)Б (адказны рэдактар т. **Рагінскі**) — правяла вялікую работу па рэалізацыі рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) у галіне жывёлагадоўлі. Пытанні жывёлагадоўлі занялі ў глускай газеце сапраўды пачэснае месца. Але чым тлумачыць, што да 26 мая газета не начала асвятляць, як раён рыхтуецца да правядзення важнейшай кампаніі — сенаўборкі? Відаць, у рэдакцыі «Сцяга калектывізацыі» лічаць, што сенаўборка не мае ніякага дачынення да жывёлагадоўлі. Але так думаць могуць толькі палітычныя сляпцы. Глуская раённая газета дапусціла буйнейшую палітычную памылку, ігнаруючы падрыхтоўку да сенаўборкі. Гэтую памылку яна павінна выправіць, як мага хутчэй.

У газеце **«Калгаснік Петрыкоўшчыны»** (адказ. рэд. т. **Дамброўскі**) таксама даволі часта асвятляецца работа соўгасных і калгасных ферм. Зараз газета праводзіць конкурс на лепшую калгасную МТФ, асвятляе работу калгасаў па развіццю жывёлагадоўлі. Здавалася-б, галоўны ўпор газета зробіць зараз на тое, як соўгасы і калгасы рыхтуюць **кармовую базу для ферм**, як рыхтуюцца да сенаўборкі. **Аднак ні слова пра гэта ў «Калгасніку Петрыкоўшчыны», не знойдзеце.** Што значыць пісаць ў газеце зараз пра жывёлагадоўлю, ні слова не гаворачы пра загатоўку кармоў, падрыхтоўку да сенакосу? Гэта значыць, выпускаць галоўнае, займацца па сутнасці балбатнёй.

Амаль такую-ж пазіцыю займае і «Калгаснік Кармяншчыны». Ва ўсіх апошніх нумарах газеты (да 25 мая) знаходзім толькі адзін артыкул, звязаны з загатоўкай кармоў для жывёлы. «Угнаенне сенажацей і пашаў на балотах». Артыкул ставіць перад раёнам задачу паляпшэння балоцістых лугоў і выпасаў. Але справа была-б даведзена да канца, калі-б газета адразу-ж узялася за практычную рэалізацыю сваіх указанняў, калі-б яна пачала правяраць, як соўгасы і калгасы раёна паляпшаюць сенажаці. Нічога гэтага кармянская газета не зрабіла.

Спіс газет, якія злачынна ігнаруюць пытанні падрыхтоўкі і правядзення ўборкі сенажацей, пытанні загатоўкі кармоў, можна значна прадоўжыць. Да ліку такіх газет адносіцца дрысенская **«Звязда на рубяжы»**, чэрыкаўская **«Сацыялістычная перамога»** і інш.

Некалькі лепш абстаіць справа ў газетах **«Шлях сацыялізма»** (Жлобін) і **«Калгаснік»** (Чырвоная Слабада).

Газета «Шлях соцыялізма», як і многія газеты БССР, асвятляе ход кон-

курса на лепшую МТФ. Асвятленне спаборніцтва газета ўвязала з пытаннямі падрыхтоўкі і правядзення сенаўборкі. У нумарах за 22 і 25 мая ў «Шляху соцыялізма» паказана, як асобныя калгасы раёна рыхтуюцца да сенаўборкі, вынікі першых выхадаў на сенажаць.

Газета ўнікае агульных фраз, яна бярэ канкрэтныя ўчасткі, якія вырашаюць поспех сенаўборкі. 25 мая газета, напрыклад, надрукавала вынікі праверкі падрыхтаванасці да выхаду на сенакос калгасаў імя Леніна і імя Будзённага. У калгасе імя Леніна зусім не аказалася ні кос, ні брускоў, ні малаткоў. У калгасе імя Будзённага не распачат рамонт сенаўборачнага інвентара. Газета моцна б'е па гэтых агідных фактах, мабілізуе грамадскасць на ўзорнае правядзенне сенаўборкі. Аднак, некалькі добрых матэрыялаў, змешчаных у апошніх нумарах жлобінскай газеты, ніяк нельга прызнаць дастатковымі. Добра пачаўшы справу, газета «Шлях соцыялізма» павінна шырэй разгарнуць яе, уцягнуць у праверку больш калгасаў, паказаць, як рыхтуюцца і праводзяць сенаўборку **непасрэдна** брыгады, як расстаўлены сілы на касьбе і т. д.

Нядрэнна ўключылася ў сенаўборку і газета **«Калгаснік».** «Рыхтавацца да сенаўборкі. Касілкі, косы, граблі — у баявую гатоўнасць!» — заклікае аншлагам газета ад 22 мая. У гэтым-жа нумары газета паказала вопыт добрай падрыхтоўкі да сенаўборкі калгаса імя Будзённага.

У заметцы падрабязна расказана, як калгас своечасова падрыхтаваў сенаўборачны інвентар, як ўжо загадзя расстаўлены людзі на касьбе.

Некалькі слоў пра канкрэтныя задачы раённых і палітаддзельскіх газет у правядзенні сенаўборачнай кампаніі. Кожны рэдактар і работнік газеты павінны ўважліва прапрацаваць пастанову СНК СССР ад 29 мая (надрукавана ў «Известиях» 30 мая) і перадавы артыкул «Правды» за 26 мая «Забяспечым жывёлу кормам». Гэтыя два дакументы вызначаюць задачы надыходзячай сенаўборкі і з'яўляюцца вычарпальным кіраўніцтвам у яе правядзенні.

Раённыя і палітаддзельскія газеты павінны шырока папулярызаваць сутнасць пастановы СНК СССР ад 29 мая. Асабліва шырока неабходна растлумачыць калгаснікам, што згодна пастановы СНК усё сена, накошанае брыгадай **звыш** вызначанага ёй плана, паступае ў распараджэнне гэтай брыгады для размеркавання паміж калгаснікамі. Таксама неабходна растлумачыць, што ўсё сена, якое астанецца пасля выканання дзяржаўных загатовак, стварэння фуражных і страхавых фондаў, будзе размеркавана паміж калгаснікамі на працаднях з улікам наяўнай у калгаснікаў жывёлы. Вось галоўныя вагары, абапіраючыся на якія наш друк павінен мабілізаваць масы на выкананне ў тэрмін і высокаякасна планаў сенаўборкі.

Поспех сенаўборкі ва многім залежыць ад падрыхтоўкі. Неадкладная задача раённых і палітаддзельскіх газет, не трацячы літаральна ніводнага дня, узяцца за праверку, як калгасы і соўгасы раёна падрыхтаваны да сенаўборкі. На гэту баявую работу газеты павінны зараз пераключыць ўсіх работнікаў рэдакцыі, а таксама сваіх рабсελькораў.

Неабходна арганізаваць селькораўскія рэйды па праверцы рамонту сенаўборачнага інвентара, наяўнасці ў калгасах гэтага інвентара.

Не менш важныя задачы пастаўлены перад газетамі ў справе непасрэднага правядзення самой уборкі сенажацей. Галоўнай задачай сенаўборкі гэтага года павінны быць **якасць і своечасовасць усіх работ на сенажацях, барацьба са стратамі.** Вось што пісала «Правда» ў перадавым 26 мая.: «Мы штогод трацім 40 проц. сена з-за несвоечасовай касьбы. Можна з упэўненасцю сказаць, што ні ў адной другой галіне сельскай гаспадаркі няма такіх вялікіх страт». Своечасова скасіць усе сенажаці, добра высушыць, убраць і захаваць сена ад дажджоў — вось задача, за выкананне якой павінен змагацца наш друк.

Р. АКУЛІЧ
рэдактар насценгазеты „Войкавец“ калгаса імя Войкава (Менская МТС)

# АЎТАРЫТЭТ, ЗАВАЯВАНЫ СПРАВАЙ



1

Нядаўна мінула два гады, як у калгасе імя **Войкава** (Менская МТС) рэгулярна выходзіць насценгазета **«Войкавец»**. Калі параўнаеш газету ў першыя дні выхаду з цяперашняй, то дзівішся: які вялікі і цяжкі пройдзен шлях! Два гады работы нашай газеты былі гадамі ўпартай барацьбы за моцны бальшэвіцкі калгас, за заможнае жыццё калгаснікаў. Не лішнім будзе зараз вярнуцца крыху назад і ўспомніць недалёкае мінулае нашай насценнай газеты.

Было гэта ўвосень 1932 года. Наш калгас у той час працаваў дрэнна. Працоўная дысцыпліна была нізкая, гультаі і нядбайнікі не атрымлівалі належнага адпору. Якраз у гэты час я па даручэнню партыйнай ячэйкі арганізаваў выпуск насценгазеты. Перш за ўсё я звярнуўся да аўтарытэтных сумленных калгаснікаў. Расказаў ім пра задачы насценгазеты і прасіў прыняць у газеце ўдзел. Як сёння памятаю адказ аднаго з лепшых нашых калгаснікаў тав. Гарнашэвіча П.:

— Не трэба нам вашай газеты. І так нямаведама што робіцца ў калгасе, а тут яшчэ газета будзе падліваць масла ў агонь.

Тав. Гарнашэвіч і некаторыя іншыя калгаснікі думалі, што газета, крытыкуючы некаторыя асобы, будзе спрыяць далейшаму развалу калгаса. Такая баязлівасць да крытыкі была ў калгаснікаў таму, што газета ў калгасе да таго часу не выходзіла і мала хто наогул ведаў пра работу насценгазет.

Мы рашылі заваяваць аўтарытэт нашаму «Войкаўцу» **справамі.** Першым крокам у гэтым напрамку быў рэйд па праверцы захаванасці інвентара. Рэйдам было выкрыта шмат агіднасцей. Выкрыта, хто канкрэтна вінават у дрэнным стане інвентара. Змясцілі мы ўсе тэтыя матэрыялы ў газеце і патрабавалі выключэння нядбайнікаў з калгаса. Праўленне назаўтра-ж разгледзела ўсе нашы заметкі, вінаватыя ў псаванні інвентара атрымалі спагнанне і былі пераведзены на іншыя работы.

З гэтага мы пачалі вялікую работу па ўстанаўленню моцнай працоўнай дысцыпліны і выхаванню калгаснікаў. У далейшым амаль у кожным нумары мы змяшчалі выкрываючыя матэрыялы, рабілі пеадназразовыя рэйды, правяралі розныя ўчасткі работы калгаса.

Паставілі на належную вышыню рэагаванне. Усе заметкі, патрабуючыя рэагавання, разглядаліся на праўленні калгаса, як правіла, на другі дзень пасля выхаду нумара насценгазеты. Аўтарытэт нашага «Войкаўца» рэзка вырас. І тыя калгаснікі, якія раней глядзелі на газету, як на лішнюю справу, змянілі сваю думку. Праз месяц пасля выхаду першага нумара «Войкаўца» т. Гарнашэвіч спецыяльна прышоў да мяне на кватэру пагутарыць пра работу насценгазеты.

— Ну, рэдактар, заключым міравую, — сказаў ён. Не праў я быў, калі лаяў вашу газету, зараз сам бачу, што карысць ад газеты вялікая.

Гарнашэвіч расказаў мне некалькі фактаў дрэннай работы паасобных калгаснікаў і папрасіў напісаць пра іх у насценгазету. Мы скарысталі яго матэрыялы і з таго часу Гарнашэвіч стаў адным з лепшых актывістаў насценгазеты. Піша ён яшчэ дрэнна, але памяць мае моцную і ні адзін непарадак не схаваецца ад яго вока.

Прыкладу Гарнашэвіча наследавалі і іншыя калгаснікі. Зараз мы маем больш

20 актыўных селькораў з ліку старых вопытных калгаснікаў, не лічачы моладзі і ўдзельнікаў нашых брыгадных насценгазет.

2.

Веснавую сяўбу сёлета мы скончылі 9-га мая, на 13 дзён раней чым летась. Якасць сяўбы была адменная. Нашы насценгазеты і селькоры ўвесь час былі ў першых радах барацьбітоў за своечасовае і добраякаснае правядзенне сяўбы. Газета «Войкавец» працавала ў сёлетнюю пасеўную кампанію не адна: у кожнай з шасці паляводчых брыгад выходзілі брыгадныя насценгазеты. Гэта значна ўзняло аператыўнасць нашага калгаснага друку.

Галоўным звяном, за якое мы ўхапіліся ў правядзенні сяўбы, была арганізацыя дзейснага **спаборніцтва брыгад.** Мы рашуча выступілі супроць дэкларацыйнасці і балбатні ў спаборніцтве. Па ініцыятыве «Войкаўца» паміж брыгадамі дагаворы заключаліся выключна **канкрэтныя.** Пасля гэтага мы ўзяліся за праверку выканання дагавароў. Для добрага асвятлення ходу спаборніцтва неабходна штодня ведаць як працавалі брыгады. Гэту работу выконвалі рэдкалегіі брыгадных насценгазет. У асобе іх мы мелі ў кожнай брыгадзе надзейных, правераных сваіх карэспандэнтаў і арганізатараў масавай работы.

Вось адзін прыклад, як уплывала насценгазета на разгортванне сапраўднага соцспаборніцтва на сяўбе. У пачатку сяўбы чацвёртая брыгада адстала ад астатніх брыгад на чатыры дні. Мы выпусцілі экстраны нумар насценгазеты, прысвечаны 4-й брыгадзе. «Ганьба вам, таварышы з брыгады Лазарчыка, вы адсталі ў спаборніцтве і цягнеце калгас уніз. Але вы маеце ўсе магчымасці не толькі дагнаць, але і выперадзіць астатнія брыгады, падцягніцеся!» — так пісала насценгазета.

Увесь гэты дзень брыгадзір Лазарчык прахадзіў сам не свой, прачытаўшы ў «Войкаўцы» пра адставанне сваёй брыгады. Позна вечарам адбыўся нечарговы брыгадны сход. Прамова брыгадзіра была кароткай.

— Чыталі? — запытаў ён у калгаснікаў. — Бачылі, якую ганьбу прынялі мы на сябе? Дык давайце-ж дакажам, што мы нечага варты.

І брыгада Лазарчыка ўзяла сваё. Для таго, каб дагнаць астатнія брыгады, ёй прышлося амаль **падвоіць тэмпы.**

Асаблівую ўвагу «Войкавец» аддаў **якасці** сяўбы. Рэдкалегія арганізавала некалькі ўзаемаправерак якасці палявых работ паміж брыгадамі. Матэрыялы рэйдаў адразу-ж публікаваліся ў калгаснай і брыгадных насценгазетах. Недахопы выпраўляліся на-хаду. Да ўдзелу ў насценгазеце мы прыцягнулі ўсіх брыгадных інспектароў якасці, якія значна дапамаглі нам.

3.

Зараз у калгасе разгарнулася праполка азімых, яравых і падрыхтоўка да ўборачнай. Насценгазеты і рабселькоры актыўна ўключыліся ў гэту важнейшую зараз работу. Нядаўна мы правялі рэйд селькораў па праверцы арганізацыі работы звенняў на праполцы. Брыгады выявілі тут шмат неарганізаванасці і дрэннай расстаноўкі рабочай сілы.

Характэрны прыклад брыгады Лазарчыка Рыгора. Гэта брыгада ў пачатку прапалачнай адстала. Рэйдавая брыгада зацікавілася: у чым-жа справа? Прычына аказалася у дрэннай арганізацыі работы. У звеннях не былі замацаваны пастаянныя людзі, звенні не ведалі, якія ўчасткі яны павінны прапалоць, не ведалі норм выпрацоўкі і аплаты. Брыгадзір вельмі часта пасылаў звеннявода на іншую работу, звенні аставаліся без кіраўнікоў.

Усе гэтыя недарэчнасці, якія шкодзілі справе, мы асвятлілі на старонках насценгазеты. Назаўтра праўленне калгаса, абгаварыўшы наш матэрыял, прыняло меры па ліквідацыі выяўленых недахопаў. Справа хутка пашла наперад. Раней адстаўшая брыгада Лазарчыка вышла на першае месца ў калгасе і першая-ж выканала свой план па праполцы.

Праз насценгазету мы прыкавалі ўвагу калгаснікаў і калгасніц да праполкі. Змясцілі некалькі артыкулаў спецыяльна для калгасніц, якія ў асноўным заняты на праполцы. Мы растлумачылі ім, што паспяховае і высокаякаснае правядзенне праполкі гэта зараз важнейшае звяно ў барацьбе за высокі ўраджай.

У часе селькораўскага рэйда па ініцыятыве селькораў арганізаваны два

ўдарныя камсамольска - маладзёжныя звенні палольшчыц. Вось кароткі пералік практычных спраў, якія зрабіла наша насценгазета па забеспячэнню поспехаў прапалачнай кампаніі.

Пачалі мы ўжо і агляд падрыхтаванасці да ўборкі ўраджаю. Агляд праводзім па брыгадах: сёння на аглядзе, напрыклад, першая брыгада, заўтра другая і т. д. У кожнай брыгадзе дэтальна правяраем спраўнасць уборачнага інвентара, стан цягавай сілы, спраўнасць вупражы і т. д. У выніку ўжо з першых дзён агляду маем значны зрух у падрыхтоўцы да ўборачнай. Жняяркі ўжо адрамантаваны, хутка заканчваем рамонт астатняга інвентара.

4.

Некалькі слоў пра слабыя бакі ў рабоце «Войкаўца».

Не гледзячы на ўсе дадатныя факты, брыгадныя насценгазеты нашага калгаса на пасеўнай працавалі яшчэ слаба. Лепшая з брыгадных насценгазет — насценгазета брыгады Куксіка за час сяўбы вышла ўсяго 12 раз, што безумоўна зусім мала. Вінаваты ў гэтым, безумоўна мы, рэдкалегія агульнакалгаснай насценгазеты, якая павінна кіраваць брыгаднымі насценгазетамі і практычна дапамагаць ім у рабоце. Рэдкалегія-ж «Войкаўца» да гэтага часу слаба дапамагала брыгадным насценгазетам.

Зараз мы ліквідуем гэты недахоп. Ужо намечаны практычныя мерапрыемствы па ўмацаванню работы насценгазеты ў кожнай брыгадзе. Рэдкалегія «Войкаўца» не радзей аднаго разу ў дзве дэкады будзе праводзіць інструктыўную нараду ўсіх рэдактароў і членаў рэдкалегій брыгадных насценгазет. На нарадах будуць давацца рэдкалегіям практычныя ўказанні, што патрэбна газеце рабіць на бліжэйшыя дзве дэкады, якія пытанні ўзняць, якую правесці масавую работу.

Два разы ў месяц рэдкалегіі брыгадных насценгазет будуць рабіць справаздачы перад сходамі брыгад аб прароблепай за палову месяца рабоце. Гэта значна ўзніме як аўтарытэт брыгаднай насценгазеты, так і адказнасць рэдкалегіі за работу. Апрача таго рэдкалегія «Войкаўца» будзе аказваць практычную дапамогу брыгадным насценгазетам у выпуску нумароў, у складанні планаў работы і т. д.

Гэтымі мерапрыемствамі мы мяркуем наладзіць работу нашых брыгадных насценгазет.

---

С. ЛАЗАРЧЫК

рэдактар насценгазеты трэцяй брыгады

# ГАНАРОВЫ СЦЯГ НЕ АДДАМО



Брыгадныя насценгазеты сёлета былі новай справай у нашым калгасе. На дапамогу нам прышлі палітаддзел МТС і яго газета **«Ударнік калгасных палёў»**. У пачатку вясны пры палітаддзеле былі скліканы курсы рэдактароў брыгадных газет. На курсы папаў і я. Вярнуўшыся з курсаў, я ўжо ведаў, як павінна працаваць брыгадная газета, з чаго трэба пачынаць.

Вышлі ў поле мы 5-га красавіка— на 18 дзён раней мінулага года. І ў першы-ж дзень палявых работ вышаў першы нумар нашай палявой брыгаднай штодзённкі.

Газета моцна ўхапілася за рашаючыя звенні ў пасняховым і высокаякасным правядзенні сяўбы. Праз газету мы паставілі перад усімі калгаснікамі брыгады задачу: напружыць усе сілы і заваяваць **пяршынства па сяўбе** не толькі ў калгасе, але і па ўсёй зоне МТС. Усю нашу далейшую работу мы накіроўвалі

на выкананне гэтай баявой задачы— на заваяванне звання перадавікоў.

Адзін я, безумоўна, не мог-бы справіцца з выпускам газеты. Я арганізаваў у кожным звяне селькораўскія пасты. Гэта былі як-бы шчупальцы насценгазеты. Калі позна вечарам рэдкалегія садзілася за выпуск штодзенкі, то ў нас быў самы падрабязны матэрыял не толькі аб тым, як працавала кожнае звяно, але і кожны калгаснік.

Такая пастаноўка работы дапамагла нам добра паставіць асвятленне **індывідуальнага спаборніцтва** калгаснікаў. У кожным нумары газеты паказваліся вынікі работ за дзень. На самым відным месцы ў газеце мы пісалі прозвішчы лепшых калгаснікаў, якія перавыканалі норму, тут-жа крытыкаваліся адстаючыя.

Якасць сяўбы была ў нас у цэнтры ўвагі. Праз газету мы растлумачылі калгаснікам, што нядбайная, нізкаякасная сяўба гэта ўдар па ўраджайнасці, удар па добрабыту саміх калгаснікаў.

У пачатку сяўбы ў нас дрэнна быў пастаўлен кантроль за якасцю палявых работ. Склікаў я ўсіх селькораў брыгады, і рашылі мы, каб кожны селькор правяраў якасць сяўбы ў сваім звяне. І ўжо назаўтра ў газету пачалі паступаць сігналы. Селькоры падмячалі самыя «дробныя» недахопы, і мы на хаду іх выпраўлялі.

Крытыкавалі мы і нашага брыгаднага інспектара якасці **Сымона Куксіка.** Падмецілі яму, што працуе ён з некаторым халадком, указалі, што ён выпусціў з-пад сваёй увагі. Не пазнаць стала яго, як прачытаў пра сябе заметку ў насценгазеце! Да позняй ночы не пакідаў ён поля, пакуль не абыйдзе і не праверыць усе апрацаваныя ўчасткі.

Цяпер Сымон сам прымае актыўны ўдзел у нашай брыгаднай насценгазеце. Заўважыць дзе непарадак — ці агрэх зробіць які калгаснік, ці дрэнна забарануе, — Сымон тут-жа прымусіць выправіць дрэнную работу, а сам прыходзіць да мяне ці да членаў рэдкалегіі і просіць «прапусціць у газету».

«Каб другія вучыліся»,—гаворыць ён.

Брыгада наша заваявала першынства ў сяўбе па калгасу. Гэта была для нас вялікая радасць. А вось нядаўна мы з гонарам даведаліся, што **наша брыгада вышла першаю і па ўсёй зоне Менскай МТС.** 21-га красавіка палітаддзел праводзіў вялікую масоўку лепшых ударнікаў веснавой сяўбы. У м. Самахвалавічы з'ехаліся сотні прадстаўнікоў з калгасаў. І вось перад шматлюдным мітынгам наш брыгадзір тав. **Куксік** атрымаў ад палітаддзела чырвоны пераходны сцяг.

Цяпер у нашай брыгадзе разгарнулася праполка азімых і яравых. **Насценгазета не аслабіла сваёй работы.** Зараз мы асвятляем спаборніцтва звенняў палольшчыц. У кожным звяне ёсць селькораўскі пост. Праполку мяркуем скончыць, як і сяўбу, першымі па зоне. Ганаровы чырвоны сцяг нікому не аддамо.

---

**Ф. ГАРНАШЭВІЧ**

рэдактар насценгазеты і чытчык брыгады №2

# У КОЖНЫМ ЗВЯНЕ—ЧЫТКА ГАЗЕТ

Апрача выпуску брыгаднай насценгазеты я арганізаваў у брыгадзе голасную чытку газет. Зараз, як толькі абвяшчаецца перапынак на абед, усе калгаснікі збіраюцца тут-жа на полі паслухаць газетныя навіны.

Некаторыя гавораць, што арганізаваць чытку газет у брыгадзе вельмі цяжка— калгаснікі, моў, неахвотна ідуць на гэту справу. Гэта няпраўда. Калгаснік зараз—гэта не ранейшы цёмны селянін, які мала чым цікавіўся апрача свайго двара. Калгаснік зараз хоча ведаць многа больш: і што ў суседніх калгасах робіцца, і пра палярныя паходы, і пастановы партыі і ўраду, і замежныя навіны.

Чытанне газет мне ўдалося паладзіць вельмі лёгка. Адбыўся якраз спрыяючы выпадак: газета палітаддзела МТС напісала пра нашага інспектара якасці **Х. ГАЙДУКЕВІЧА.** У часе перапынку на абед я падышоў да групы калгаснікаў, разгарнуў газету і прачытаў ім гэту заметку. Гайдукевіча ў нас у брыгадзе ўсе паважаюць—вопытны, гаспадарны калгаснік. Таму ўсім цікава было ведаць, што аб ім піша газета. У заметцы гаварылася аб добрай рабоце Гайдукевіча. Хвалілі яго за тое, што ён пільна сочыць за якасцю сяўбы. Ставілі ў прыклад другім інспектарам. Гайдукевіч пасля гэтага яшчэ лепш стаў працаваць, а калгаснікі брыгады—больш цікавяцца газетамі.

З таго часу я рэгулярна праводжу чытанне газет у брыгадзе. Чытаю палітаддзельскую газету і «Калгаснік Беларусі». Маё пажаданне гэтым газетам: змяшчаць хоць-бы раз у пяцідзёнку невялічкі агляд падзей за мяжой. Такія агляды, калі яны будуць напісаны зразумелай мовай, знач на лепш дойдуць да калгасніка, чым тэлеграмы.

Апрача таго неабходна змяшчаць у газетах значна больш матэрыялаў пра жыццё ўсяго Совецкага Саюза, пра новае будаўніцтва, пра навіны навукі і тэхнікі.

У веснавую сяўбу чытку газет у брыгадзе праводзіў я адзін. Зараз на час праполачнай і ўборачнай я справу арганізую інакш. Мы вылучаем адказных за чытку ў кожным звяне. Гэта дасць тую карысць, што лягчэй будзе сабраць на чытку і лепш можна будзе арганізаваць абгаварэнне прачытанага матэрыялу.

---

**М. КУКСІК**

калгаснік 2-й брыгады

# ВАЖНАЕ, АЛЕ ЗАБЫТАЕ ПЫТАННЕ

Я— радавы калгаснік брыгады № 2. Вельмі цікаўлюся тым, што пішуць нашы брыгадныя і калгасныя насценгазеты. Сам таксама селькор. І вось я, як селькор, хачу сказаць пра адну важную справу, якую выпускае з-пад сваёй увагі друк нашага калгаса. Гэта справа—**культурна-масавая работа.**

У нашым калгасе ёсць клуб. Работай клуба ніхто не цікавіцца. Шыбы ў вокнах выбіты, вокны забіты дошкамі. Газет у клубе няма, калгаснікі збіраюцца ў клуб выключна на сходы, у другі час іх ніколі туды не зацягнеш.

Ёсць у нас у калгасе дзве радыёўстаноўкі. **Ні адна з іх не працуе.**

Не лепш з дастаўкай газет падпісчыкам. Газеты не дастаўляюцца падпісчыкам на рукі, а пакідаюцца ў праўленні калгаса, дзе іх разбіраюць каму ўздумаецца. Калі падлічыць, то на калгас знойдзецца зараз не больш 20 падпісчыкаў.

Што-ж робяць нашы насценгазеты і селькоры для таго, каб знішчыць гэтыя недахопы? Нічога. За ўвесь год ні калгасная, ні брыгадная насценгазеты ні разу не ўзяліся за пытанні культурна-масавай работы, не выкрылі недахопаў.

Маё пажаданне насценгазеце «Войкавец» —змагацца за добрую культурна-масавую работу ў калгасе так, як яна змагалася за першынства ў сяўбе. Раней за ўсё газеце трэба дабіцца наладжання работы нашага клуба, дабіцца арганізацыі масавага радыёслухання і акуратнай дастаўкі газет падпісчыкам.

---

КАЛГАСНІКІ-ЎДАРНІКІ, БРЫГАДЗІРЫ ЛЕПШЫХ БРЫГАД ПОЛАЧЧЫНЫ.



**ПЕРАДАЕМ ВОПЫТ РАБОТЫ ДРУКУ НА ЗАВОДЗЕ «ДИНАМО»**

**З ПРАКТЫКІ РАБОТЫ ДРУКУ**

**С. ТАНАТАЎ**

адказны сакратар газеты «Мотор»—завод «Динамо»—Масква.

# Уласна кажучы, ніякіх сакрэтаў

**Журнал «БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК» арганізаваў выезд на адзін з буйнейшых заводаў Савецкага Саюза — на маскоўскі завод «ДИНАМО» для вывучэння вопыта работы фабрычна-заводскага друку. Вопыт нізавога друку завода «Динамо», аб якім мы сёння расказваем, заслугоўвае шырокага пераймання ў практыцы работы ўсяго фабрычна-заводскага друку БССР. У чарговым нумары рэдакцыя «Бальшэвіцкага друку» дасць падрабязны падагульняючы матэрыял аб формах і метадах масавай работы друку і рабкораў-дынамаўцаў.**



**Завод «Динамо» асвоіў выпуск новых электравозаў. На здымку электравоз «В Л»—19-02, выпушчаны заводам «Динамо». У авале: адна з старэйшых работніц завода, актыўная рабкорка газеты «Мотор» т. Каршакова.**

Многія таварышы не толькі Масквы, але і іншых гарадоў Саюза, прыходзячы ў рэдакцыю нашай газеты, лічаць сваім першым абавязкам запытаць:

— Людзей у вас не так многа, газета выходзіць штодзенна, нямала насценгазет, выпускаеце аграмадную колькасць лістовак па розных пытаннях. На ўсё-ж гэта патрэбны час. Як-жа вы арганізуеце сваю работу?

Пастараемся на паасобных канкрэтных прыкладах у невялікім артыкуле расказаць аб «сакрэтах» нашай работы.

Толькі месяцаў 6 таму назад у апараце рэдакцыі нашай заводскай газеты працавала 22-23 чалавекі. **Цяпер разам з тэхнічнымі работнікамі налічваецца 17 чал.** Пытаннямі арганізацыйнай перабудовы рэдакцыі мы заняліся яшчэ тады, калі былі апублікаваны тэзісы ЦК ВКП(б) па дакладу тав. Кагановіча к XVII партз'езду. Мы скарацілі апарат таму, што лішнія людзі перашкаджаюць у рабоце, часта падмяняюць калектыў фабкораў, які павінен штодзенна прымаць актыўны ўдзел ва ўсёй рабоце газеты. Аддзелы або сектары, як іх называлі раней, зараз спрошчаны. Апарат рэдакцыі стаў бліжэй к цэху, агрэгату, брыгадзе.

**У апараце рэдакцыі зараз працуе: рэдактар, сакратар, 5 інструктараў, якія прымацаваны да пэўнай групы цэ-**

**хаў, загадчык габінетам друку, мастак фатограф, тэхнічны сакратар, дзве машыністкі і два кур'еры.** Мы лічым, што такі апарат ва ўмовах нашай работы— нармальная з'ява. На нашым заводзе працуе больш 7 тысяч рабочых.

**Мы асвойваем новыя віды вытворчасці.** У прыватнасці, перад заводам стаяць задачы: даць высокаякаснае абсталяванне для першага ў Саюзе маскоўскага метро, мы асвойваем выпуск новых тыпаў электравозаў, тролейбусаў, аўтаматрыс і інш. Усё гэта абавязвае газету не толькі стаць бліжэй к цэху, але і дэтальна вывучаць пытанні асваення новых відаў вытворчасці, дапамагаць партарганізацыі і гаспадарнікам завода з поспехам вырашыць пастаўленыя задачы.

Вось чаму, калі мы вылучылі на работу ў апарат рэдакцыі лепшых ударнікаў завода (а ў гэтым дапамог нам партыйны камітэт) **Нікіціна, Кузнецова, Бажэнава** і інш., мы адразу паставілі перад імі пытанне:

Вы прымацоўваецеся да пэўнай групы цэхаў і нароўні з трыкутнікам цэха адказваеце за ўсю работу. Ваш першы абавязак — узняць на вышэйшую ступень работу цэхавага друку, штодзенна прыцягваць да работы ў «Моторе» лепшых ударнікаў — рабочых цэха.

Але расставіць людзей па ўчастках— гэта толькі палова справы. Работа ў рэдакцыі, паміма дапамогі цэхам, патрабуе яшчэ таго, каб штодзенна асвятляць на старонках газеты баявыя пытанні дня.

**Як-жа мы арганізуем** нашу работу?

Замест месячнага плана, які складалі раней, **мы складаем аператыўныя планы на пяцідneўку.** У плане ўказана, хто, што і калі зробіць, колькі радкоў і па якому пытанню.

Вось вытрымка з плана ад 8 мая:

— **Першая паласа** — Перадавая: Не дапускаць летніх настрояў — Кузняцоў — 90 радкоў. Ход мантажа пробнай платформы —падборка — Нікіцін — 150 радкоў. Дзень нашага завода — Міхайлаў — 100 радкоў.

**Другая паласа:** Выкананне плана па заказах метро — падборка — Муханаў — 240 радкоў. Ход азелянення дома ўдарніка і інтэрната — Бажэнаў — 120 радкоў.

**Трэцяя паласа:** Аб якасці вучобы — здаюць па 100 радкоў па сваіх цэхах кожны прымацаваны (Бахмуцкі, Бажэнаў, Муханаў, Нікіцін, Кузнецоў).

**План чацвертай паласы** ў нас штодня распрацоўваецца асобна. На гэтай паласе мы даем заметкі па асобных пытаннях, якія цікавяць рабочых: аб тым, што ідзе ў тэатры, за граніцай, па Савецкаму Саюзу, аб культурным адпачынку, што новага на заводзе і т. д.

Пяцідненўны план, які мы складаем, — гэта аператыўны план, бо тут улічваюцца тыя прапановы, якія высоўваюць на нашых вытворчых нарадах работнікі рэдакцыі, рэдактары насценгазет і рабкоры. Маючы пяцідненўны план, інструктар дае заданне свайму соцсумяшчальніку (а іх у нас 5 чал.), лепшым ударнікам-рабкорам, якія арганізуюць ужо матэрыял, патрэбны для газеты на ўчастках. Апрача таго пяцідненўны план штодзенна правяраецца. У рэзультаце штодзеннай праверкі выканання ў апошнія два месяцы за некаторым выключэннем у нас зрыву плана не было. **Інструктары знаходзяцца ў рэдакцыі толькі ў той час, калі друкуюць і здаюць матэрыял. Астатні час яны — у цэхах.** Тут праводзяцца гутаркі, нарады актыва па асобных пытаннях. У рэзультаце такой перабудовы, паглыбленай масавай работы мы дабіліся таго, што значна ўзрос паток пісьмаў рабочых у рэдакцыю, значна ўзрасла колькасць насценгазет. Зараз мы атрымліваем у сярэднім каля 30-40



**Тав. Залатарэўскі—адзін з лепшых рабкораў заводскай газеты «Мотор».**

рабочых пісьмаў у дзень. На заводзе выходзіць 100 насценгазет, з іх 8 штодзенна.

План на спецыяльныя нумары (напрыклад, к 1 мая, XVII партз'езду і інш.) мы складаем на дзён 10-12 раней. План вывешваем у габінеце друку, які арганізован пры нашай рэдакцыі, і абмяркоўваем не толькі на вытворчай нарадзе пры рэдакцыі, але і на нарадзе актыва рабкораў. Пасля ўнясення прапаноў мы план удакладняем, размяркоўваем заданні і правяраем, як гэтыя заданні выконваюцца. Слабейшым інструктарам дапамагаюць больш моцныя таварышы. І гэта робіцца не ў парадку адміністравання, загаду, а ў парадку таварыскай дапамогі. У гэтым сіла калектыва.

Спецыяльнага чалавека, які-б ведаў пісьмамі рабочых, у нас няма. Пісьмамі рабочых займаецца кожны супрацоўнік, пачынаючы ад рэдактара і канчаючы загадчыкам габінетам друку. У цэхах развешаны паштовыя скрынкі. Кожны прымацаваны інструктар мае ключ і штодзенна праглядае гэтыя скрынкі, дастае пісьмы і друкуе іх у першую чаргу. Пісьмы, якія здаюцца ў друк, рэгіструюцца штодзенна на спецыяльным лістку. Штодзенная рэгістрацыя дазваляе нам добра арганізаваць справу праверкі выканання і па гэтым участку. Мы ведаем, калі пісьмо паступіла, калі яно здана і калі надрукавана ў газеце. Дзейснасцю заметак займаецца таксама кожны супрацоўнік. Партыйны камітэт вынес рашэнне, у якім гаворыцца: «Кожны абавязан адказваць не пазней чым праз два дні, якія прыняты меры па пісьмах рабочых». Як толькі выходзіць нумар газеты, інструктары праглядаюць заметкі, накіроўваюць брыгады рабкораў, дабіваюцца адказу. У рэзультаце ні адно пісьмо рабочага не астаецца ў нас без адказу.

У работу газеты мы шырока ўцягваем рабкораўскі актыў. Мы даем рабкорам самастойныя заданні, дапамагаем ім у ажыццяўленні гэтых заданняў, прывучаем да таго, каб кожны адказваў за даручаны яму ўчастак работы. Толькі ў рэзультаце гэтага мы за апошнія два месяцы правялі некалькі рабкораўскіх рэйдаў, у якіх прыняло ўдзел каля 1000 чалавек. А ў апошнім рэйдзе, прысвечаным праверцы, як цэхі завода падрыхтаваны да выканання чэрвеньскага плана, прыняло ўдзел 200 ударнікаў друку. Гэты рэйд быў арганізован сіламі інструктароў, пры іх ініцыятыве і пры актыўнай дапамозе рэдактароў цэхавых насценгазет.

Астаецца сказаць толькі адно: пачынаем мы работу з 8 гадзін раніцы. Канчаем у 6 гадзін увечары, а часамі і пазней.

Мы ўжо сказалі вышэй, што апарат нашай рэдакцыі ў сваёй большасці — гэта не кваліфікаваныя журналісты, а вылучэнцы — лепшыя ўдарнікі завода. Яны любяць і ведаюць завод таму, што працавалі непасрэдна ў цэхах, ля варштатаў, і гэта ў значнай меры палягчае работу ў рэдакцыі. І самае галоўнае гэта тое, што людзі навучыліся працаваць з актывам, навучыліся ўцягваць у сваю работу лепшых ударнікаў вытворчасці, навучыліся кіраваць самастойна, навучыліся любіць і паважаць газету, у якой працуюць.

Як бачыце, уласна кажучы, ніякіх сакрэтаў. Трэба толькі як належыць арганізаваць справу, штодзенна правяраць выкананне заданняў, больш давяраць правераным людзям.



Тав. Буднік, Саўкоў, Лямзва і Сэкзлоўская—лепшыя ўдарнікі вытворчасці і рабкоры, (Торфзавод «Асінторф»).

Л. ДНЕПРАПЕТРОЎСКІ

# ШТО ЗАБЯСПЕЧВАЕ ПОСПЕХ

Пасля праведзенай перабудовы ў рэдакцыі газеты **«Мотор»** уся ўвага стала ўдзяляцца **цэхавым насценгазетам.** Мы правялі конкурс на лепшую насценгазету. У дзень друку былі падведзены вынікі. Аб росце рабкораўскага актыва, аб росце і якасці работы цэхавых насценгазет гавораць факты.

Вось што расказвае рэдактар насценгазеты **«Сурамский вал»** т. **Плотнікаў:**

З 10 кастрычніка 1933 года я рэдагаваў насценгазету «Сурамский вал». Труднасцей у рабоце сустракалася шмат. Спачатку мы выпускалі газету не па плану, а як прыдзецца. Газета яшчэ не ўмела, як гаворыцца «браць быка за рогі», не закранала асноўных пытанняў цэха. Цяпер становішча рэзка змянілася. Газету мы выпускаем акуратна. Газета сістэматычна ставіць пытанні барацьбы за вытворчую праграму, за высокую якасць палітвучобы. На ўсе заметкі рабкораў мы атрымліваем вычарпальны адказ. Актыў газеты 24 чал. З 13 мая наша газета перайшла на выпуск раз у пяцідзёнку, але мы на гэтым не спынімся, а будзем пасоўвацца далей, даб'емся таго, што газета будзе штодзеннай.

Рэдактар газеты цэха харчавання **«Борец за качество»** тав. **Дзімітраў** расказвае:

— К дню друку мы здолелі згуртаваць актыў з 13 чалавек. Мы дабіліся таго, што ў газеце сталі прымаць удзел шырокія масы работнікаў цэха харчавання. Найбольш актыўныя з іх — **Курносаў, Мельнік** і інш. Мы падтрымліваем сістэматычную сувязь з газетай «Мотор». Апошняя дапамагае нам у штодзённай рабоце.

Актыўнейшы рабкор зварачнага цэха **Палякоў** гаворыць:

— Я стаў рэгулярна пісаць у сваю заводскую газету «Мотор». З дапамогай заводскай газеты мне ўдалося зжыць у цэху рад ненармальнасцей. Узяць, напрыклад, маю заметку, дзе я пісаў аб тым, што ў нас на 6 чал. слесароў ёсць адны ціскі. Пасля заметкі адміністрацыя паставіла адразу-ж новыя ціскі. Гэты факт яшчэ больш мяне прыцягнуў да работы ў газеце.

Рабкор **Каляскін** расказвае аб тым, як ён сам сочыць за дзейснасцю заметак.

— Калі я заўважаю якія-небудзь непаладкі, то стараюся неадкладна напісаць у газету. За дзейснасцю я сачу сам. Напрыклад, я напісаў аб тым, што ў нашых азёрах крадуць рыбу. Калі заметка была надрукавана, я пашоў да адміністрацыі і дабіўся таго, што яна паслала туды адказнага работніка, напісалі дошкі аб забароне лоўлі рыбы ў азёрах і раскрадванні спыніліся.

Гэта толькі паасобныя штрыхі, паасобныя расказы, якія паказваюць, наколькі актыў любіць сваю газету, наколькі рабочыя-дынамаўцы прымаюць актыўны ўдзел у штодзеннай рабоце газеты.

У дзень друку лепшыя насценгазеты і рабкоры былі прэміраваны. У цэху крантавых матораў у чырвоным кутку адкрыўся філіял габінета друку. Штодзенна ў гэтым габінеце збіраецца рабкораўскі актыў цэха, праводзяцца цікавыя гутаркі на розныя тэмы, тут выпускаецца насценгазета - штодзёнка лепшая на заводзе.

**Шмат спрыяла росту актыва і рабкораў арганізацыя габінета друку пры рэдакцыі «Мотора».** Праведзены семінар рэдактароў насценгазет пры рэдакцыі даў вельмі шмат. Самае галоўнае заключаецца ў тым, што заняткі, якія праводзіліся рэдактарам «Мотора» т. **Міхайлавым,** былі канкрэтны. На паасобных прыкладах насценак мы расказвалі аб тым, як трэба выпускаць газету і як трэба працаваць рэдкалегіям насценгазет.

Былі праведзены некалькі нарад старых рабкораў «Мотора». На апошняй

нарадзе было пастаўлена пытанне перад кадравікамі, чаму яны мала пішуць у газету? Выявіліся факты зажыму самакрытыкі. Пасля праведзенай нарады кадравікі сталі часцей пісаць у газету.

Некалькі дзён таму назад мы правялі нараду рэдактароў тых насценгазет, якія дрэнна працуюць. Пасля нарады газеты сталі выходзіць часцей, рэдактары сталі лепш адносіцца да работы, адчувалі, што за работу патрабуюць адказнасці, што іх кантралююць.

Інструктарам было дана заданне ўзяць пад асаблівы нагляд слабыя насценгазеты, дапамагчы ім у рабоце. Гэта ўказанне зараз выконваецца.



Брыгада рабкораў «Мотора» рыхтуецца да рэйда праверкі падрыхтаванасці цэхаў завода да выканання чэрвеньскага плана.

## ШЫРЭЙ УДЗЕЛ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ У РАБОЦЕ ФАБРЫЧНА-ЗАВОДСКАГА ДРУКУ

**АКСЕЛЬРОД**

старшыня бюро інжынерна-тэхнічных работнікаў завода „Бальшэвік"

# РАХУНАК „РАБОЧАМУ ВОКУ"

У парадку самакрытыкі трэба прызнаць, што інжынерна-тэхнічныя работнікі нашага завода вельмі мала робяць для таго, каб стаць бліжэй да свайго заводскага друку. У заводскай шматтыражцы яны прымаюць зусім слабы ўдзел. **Арганізаваць спецыяльную тэхнічную старонку ў шматтыражцы не ўдалося.** Праўда, час-ад-часу шматтыражка друкуе асобныя тэхнічныя артыкулы.

Справа не толькі ў тым, што інжынерна-тэхнічныя работнікі недаацэньваюць значэнне і ролю сваёй заводскай газеты. Справа ў тым, што сама шматтыражка «Рабочае вока» нічога не зрабіла, каб уцягнуць спецыялістаў у работу газеты. Шматтыражка не займаецца сур'-

ёзна вывучэннем тэхналагічнага працэсу, прычын браку і т. д.

**Газета шмат шуміць аб тэхнічнай вучобе, але вельмі слаба змагаецца за сапраўднае аўладанне тэхнікай. «Рабочае вока» ні разу не арганізавала сур'ёзнага паказу вытворчага вопыта лепшых тэхнарукаў, кіраўнікоў тэхнічных гурткоў.** На заводзе ёсць сталінскія брыгады, дзе ўсе рабочыя здалі тэхэкзамен на «выдатна». Газета-ж не паказала работы тэхнарукаў гэтых брыгад. А гэта-ж вельмі важна для выхавання іншых тэхнарукаў, кіраўнікоў гурткоў тэхнічнай вучобы.

У нас на заводзе два родственныя цэхі—1 хромавы і 2 хромавы цэх. Вельмі часта з аднолькавай сыравіны гэтыя цэхі выпускаюць прадукцыю рознай якасці. «Рабочае вока» не паказвае метадаў работы лепшага цэха, не пераносіць гэты вопыт у адстаючы цэх. А такі паказ прыцягнуў-бы ўвагу ІТР да сваёй газеты, выклікаў-бы да яе інтарэс, узняў-бы яе аўтарытэт.

**Газета мала займаецца пытаннямі кантролю вытворчасці, увязкі работы лабараторыі з асобнымі тэхналагічнымі працэсамі.** А між тым асвятленне пытанняў кантролю вытворчасці ў сувязі з работай асобных брыгад выклікала-б зацікаўленасць як рабочых, так і інжынерна-тэхнічных работнікаў, працуючых у лабараторыі.

Трэба проста сказаць, што газета зусім не займаецца пытаннямі павышэння кваліфікацыі саміх інжынерна-тэхнічных работнікаў. Яна не паказала работы перадавікоў у гэтай галіне, як, напрыклад, тт. **Арэшкава, Капілевіча, Шэра** і т. д. Дрэнная пастаноўка тэхнічнай вучобы сярод інжынерна-тэхнічных работнікаў, безумоўна, адбіваецца і на вытворчасці. Газета не раз заклікала, даказвала неабходнасць вучыцца, але канкрэтнай арганізацыі, барацьбы за асваенне навейшых дасягненняў навукі і тэхнікі не змагла забяспечыць.

Было-б вельмі карысна, каб газета ўвяла на сваіх старонках аддзел **«Навінкі навукі і тэхнікі»** ў галіне гарбарнай вытворчасці, новых вынаходстваў і рацыяналізатарскіх прапаноў, каб яна пісала пра навінкі літаратуры па гэтаму пытанню, звязалася для гэтай мэты з тэхнічным аддзелам цэнтральнай бібліятэкі. Газеце трэба звязацца з рэдактарамі тэхнічных старонак перадавых гарбарна-абутковых прадпрыемстваў Саюза і дасягненні гэтых прадпрыемстваў у галіне тэхнікі шырока асвятляць на сваіх старонках.

**«Рабочае вока» павінна змагацца за аўладанне тэхнікай не шляхам выпадковых выступленняў, а планава, сістэматычна.** Трэба распрацаваць план тэхнічнай прапаганды на аснове тэхпрамфінплана, абгаварыць яго з інжынерна-тэхнічнай секцыяй завода.

Перабудаваўшы сваю работу, газета, безумоўна, знойдзе агульную мову са спецыялістамі завода і інжынерна-тэхнічныя работнікі павернуцца тварам да сваёй газеты.

**ГРАНДЭ**

## ПА-ЗА УВАГАЙ РЭДАКЦЫІ

На заводзе **«Большэвік»** працуе 75 інжынерна-тэхнічных работнікаў, з якіх 26 чал. з вышэйшай і сярэдняй тэхнічнай асветай. Не гледзячы на гэта, у заводскім друку прымаюць удзел усяго каля 10-ці спецыялістаў. Работнікі ІТР тт. **Аксельрод, Арэшкаў, Бекман** узнялі на старонках газеты рад важных пытанняў, але гэтыя пытанні не былі даведзены да канца.

На заводзе ў гэтым годзе ўведзен рад новых спосабаў і метадаў апрацоўкі: наклейка скур на фанеру, аблагароджванне скур і т. д. Аднак, гэтыя метады, маючыя вялікае вытворчае значэнне, не сталі здабыткам мас. Нават тыя інжынерна-тэхнічныя работнікі, якія стаяць на чале цэхавых штодзёнак **(Кутман, Лямперт)**, таксама не закранулі гэтых пытанняў.

Газета шмат пісала аб тэхвучобе. Пачаўшы з лекцый аб тэхніцы **(Арэшкаў, Бекман)**, газета арганізавала выступ-

лення ізатаўцаў і іх вучняў з канкрэтным паказам іх работы.

Але наш заводскі друк мала паказвае лепшых спецыялістаў і рабочых, арганізацыю іх работы, як яны запаўняюць кожную мінуту свайго рабочага часу, у якім парадку трымаюць яны свае варштаты і інструменты.

**Газета «Рабочае вока» нічога не зрабіла каб уцягнуць спецыялістаў завода ў заводскі друк.**


Б. Д. ПАРЭМСКІ

Інжынер па фрэзернаму торфу


# МАЕ ЗАЎВАГІ АБ ЗАВОДСКАЙ ГАЗЕЦЕ

Я працую на Асінторфе інжынерам па фрэзернаму торфу. З першых-жа дзён маёй работы на заводзе я павёў праз газету «За торф» барацьбу за знішчэнне непаладкаў на нашым заводзе, за сапраўднае аўладанне тэхнікай тарфяной прамысловасці. Сваю работу я моцна звязаў з работай газеты «За торф».

Трэба адзначыць, што **рад маіх артыкулаў, змешчаных у газеце, далі нядрэнны эфект.** Напрыклад, я прасіў культработнікаў для абслугоўвання рабочых-тарфянікаў — іх нам вылучылі. Але рад змешчаных артыкулаў не атрымалі рэагавання.

**На нашым заводзе працуе 12 інжынераў, шмат тэхнікаў. Але шматтыражка «За торф» не прыцягнула іх да ўдзелу ў газеце, не дабіваецца рэагавання на тыя матэрыялы, якія асобныя спецыялісты даюць у газету.** Пісалі мы аб кулацкай ураўнілаўцы, аб тым, што інжынерна-тэхнічныя работнікі забяспечваюцца нароўні з кладаўшчыкамі, прыбіральшчыцамі. Я асабіста пісаў у газету аб тым, што інжынерна-тэхнічныя работнікі нашага завода закінуты, што неабходна наладзіць вучобу саміх спецыялістаў. Да гэтага часу яшчэ нічога не зроблена. Гэта адштурхоўвае спецыялістаў ад газеты.

Неабходна павялічыць перыядычнасць газеты да 25 нумароў у месяц і павялічыць тыраж. Трэба выпускаць тэхнічны лісток, дзе-б змяшчаліся артыкулы тэхнічнага характару, дзе-б мы маглі дзяліцца вопытам, пераносіць вопыт перадавых торфзаводаў і, галоўнае, дабіцца дзейснасці матэрыялаў газеты.



Ударнікі і рабкоры лепшай брыгады фрэзернага ўчастку Асінторфа.

Трыбуна рэдактара

Л. НІХАМКІН

рэдактар палітаддзельскай газеты „Ленінскі шлях" (Лепельская МТС)

# У кожнай брыгадзе— моцны селькораўскі актыў

## 1. Давайце абменьвацца вопытам

Я не малады газетны работнік. Аднак, працуючы рэдактарам палітаддзельскай газеты, я вельмі часта сустракаюся з пытаннямі чыста газетнай работы, якія мне цяжка аднаму вырашаць. Так і хочацца ведаць: а як з гэтай справай у іншых палітаддзельскіх газетах? Што новага ў іх рабоце?

Не гледзячы на ўсю адчароднасць нашай работы, мы, рэдактары палітаддзельскіх газет, адарваны адзін ад другога ў сэнсе абмену вопытам работы. Гэта вялікі недахоп. Я рэгулярна чытаю журнал «Бальшэвіцкі друк», але матэрыялы журнала не давалі мне ўсяго таго, што я хацеў-бы ад журнала атрымаць. Журнал часта змяшчае агляды аб добрым вопыце асобных газет. Чытаеш: і тое і гэта газета правяла добра, дабілася такіх і такіх вынікаў, а **ЯК** яна правяла, як арганізавала ўсё гэта — невядома. А якраз у гэтым самае галоўнае, бо нам, рэдактарам, цікава ведаць не столькі тое, чаго дабілася газета, як **метады** работы газеты, самыя дробныя дэталі яе работы.

Журнал дае нам магчымасць запоўніць гэты прабел. **На старонках журнала павінны выступаць усе рэдактары палітаддзельскіх і раённых газет.** Праз журнал рэдактары павінны перадаваць вопыт сваёй работы, пісаць таксама і аб недахопах, ставіць на абгаварэнне розныя пытанні, якія ўзнікаюць у працэсе работы. Лічу, што рэдактары палітаддзельскіх і раённых газет жыва адгукнуцца на гэту вельмі неабходную справу.

Я хачу падзяліцца некаторымі заўвагамі пра работу газеты «Ленінскі шлях», якую я рэдагую.

## 2. Якія патрэбны планы?

Перш за ўсё пра **план** работы газеты. Перад пачаткам веснавой сяўбы я склаў план работы газеты на 3 месяцы: сакавік, красавік і май. У план уваходзіла арганізацыйна-масавая работа і намячэнні кожнага нумара. Практыка паказала, што такі доўгатэрміновы і падрабязны план з ахопам такой вялікай работы, як падрыхтоўка і правядзенне сяўбы (апрача таго рад мерапрыемстваў па жывёлагадоўлі) не **жыццёвы.** Мой план у працэсе работы па многіх пунктах быў не выканан.

Цяпер я раблю інакш. У мяне ёсць агульны план работы на некалькі месяцаў наперад. Апрача таго я складаю **канкрэтны дэталізаваны план** на трычатыры нумары. Гэтыя планы выконваюцца па большасці пунктаў. Пры складанні дэталізаванага плана я арыентуюся на тыя мерапрыемствы, якія праводзіць палітаддзел, вызначаю канкрэтны змест нумара: якія пытанні будуць асветлены, пра якія калгасы, усё аж да дробязей. У гэтым-жа плане запісваю: хто адказвае за арганізацыю матэрыяла і тэрміны здачы. Такія дэталізаваныя планы газеты на тры-чатыры нумары наперад вельмі дапамагаюць мне арганізоўваць матэрыял. Праўда, і цяпер бывае ломка асобных пунктаў плана, але гэта не адбіваецца на агульнай планавасці газеты.

## 3. Зроблена яшчэ не ўсё.

Не магу сказаць, што работа з рабселькорамі ў зоне дзейнасці МТС пастаўлена зараз на патрэбную вышыню.

Тут ёсць яшчэ шмат недахопаў. Аднак, зроблена ўжо немалая работа.

Неабходна адзначыць **вялікую ўвагу, якую аддаюць разгортванню работы рабселькораў і насценгазет усе работнікі палітаддзела.** Перад пачаткам сяўбы мы правялі па калгасах перавыбары рэдкалегій насценгазет. Асаблівую ўвагу звярнулі на брыгадны друк. Перавыбары завяршылі сельсовецкімі злётамі рабселькораў, на якіх работнікі палітаддзела падрабязна расказвалі рабселькорам, як трэба арганізоўваць работу брыгадных і калгасных насценгазет. Такім чынам к пачатку сяўбы мы дабіліся выхаду насценгазет амаль у кожнай брыгадзе.

Газета арганізавала некалькі селькораўскіх рэйдаў па праверцы догляду коней, па падрыхтоўцы да масавых ацёлаў, апаросаў, акотаў і інш. Рэйды далі багаты матэрыял для газеты і шмат дапамаглі ў ліквідацыі недахопаў на месцы. Апрача таго нашы рэйды мелі вялікае **выхаваўчае** і **вучэбнае значэнне** для рабселькораў — удзельнікаў рэйда. Усе ўдзельнікі рэйдаў, як правіла, пачыналі прымаць актыўны ўдзел у палітаддзельскай газеце.

У газеце палітаддзела працуюць 2 работнікі: я і масавік (назва не зусім адпаведая, бо і мая работа ў асноўным масавая — у калгасах і брыгадах). Мы ўдвох праводзім таксама індывідуальную работу з рабселькорамі. Тут мы скарыстоўваем розныя метады, як гутаркі, адказы пісьмамі. Будучы ў калгасах, абавязкова збіраем некалькі селькораў і заметкі ў газету пішам разам. Гэта дае вялікі эфект у справе вучобы маладых рабселькораў. Арганізавалі мы пры палітаддзеле курсы семінар-рэдактароў насценгазет, выпусцілі макет брыгадных штодзенак, наладзілі рэгулярную перапіску з усімі нашымі актывістамі.

І вось, ацэньваючы зараз усю гэту работу, я гавару, што **зроблена яшчэ далёка не ўсё.** Газета палітаддзела не мае яшчэ праз сваіх селькораў сістэматычнай і цеснай сувязі з усімі вытворчымі брыгадамі зоны дзейнасці МТС. Гэта вялікі недахоп, з-за якога газета яшчэ часта прапускае вельмі важныя факты работы паасобных брыгад і калгасаў, не заўсёды своечасова рэагуе на ненармальныя з'явішчы, недахопы.

Зараз я паставіў перад сабой задачу: дабіцца, каб у кожнай вытворчай брыгадзе зоны дзейнасці МТС было не менш двух нашых актыўных селькораў, каб гэтыя людзі не радзей разу ў пяцідзёнку, а ў часе палявых работ і кожны дзень паведамлялі нам, што робіцца ў брыгадзе, своечасова сігналізавалі аб недахопах. Інакш кажучы, я хачу дабіцца і даб'юся таго, што газета палітаддзела самым цесным чынам будзе звязана з масамі, з **усімі** вытворчымі брыгадамі. Гэта ўзніме нашу работу на значна вышэйшую ступень.

**БУРДО**

рэдактар газеты „Чырвоны трактарыст"—палітаддзела Жлобінскай МТС

# ПЕРШЫЯ КРОКІ

На работу ў якасці рэдактара газеты палітаддзела Жлобінскай МТС я прышла з вучобы ў Комуністычным інстытуце журналістыкі. Яшчэ да вучобы я прымала ўдзел у друку, пісала артыкулы, заметкі. Інстытут узброіў мяне ведамі ў галіне тэорыі і практыкі большэвіцкага друку, навучыў, як трэба не толькі пісаць заметкі, але і рэдагаваць газету, наладзіць работу рэдакцыі, работу з селькорамі і нізавым друкам.

Аднак, ужо ў першыя дні практычнай работы я адчула, што ведаў, атрыманых у інстытуце, мала, што трэба ўзяцца за **самастойную** работу над сабой. Так я і зрабіла. Мінулай зімой скончыла завочны інстытут журналістыкі. Цяпер рэгулярна чытаю газету «Правдист», а таксама ўсю новую літаратуру па пытаннях друку, якая прыбывае ў палітаддзел.

З кніжак па друку і камлпекта «Правдиста» я стварыла невялікую бібліятэч-

ку. Гэтай бібліятэчкай карыстаюцца таксама актывісты-селькоры. Такая дапамога селькораўскаму актыву, як я пераканалася, вельмі неабходна, бо кніг па пытаннях друку ў калгасах амаль няма.

З чаго пачала я сваю работу?

З арганізацыі цеснай сувязі з селькорамі, самімі калгаснікамі. К майму прыезду газета «Чырвоны трактарыст» ужо выходзіла, але яна была зусім нямасавай газетай. Два-тры трактарысты і галоўным чынам работнікі МТС—вось увесь актыў нашай газеты ў мінулым.

У якім-бы калгасе я ні была, абавязкова адшукаю селькораў, пагутару з імі, раскажу пра газету палітаддзела. Зараз газета штодзень атрымлівае селькораўскія пісьмы. У нас цяпер ёсць 63 селькоры-актывісты.

Паўстала пытанне, як-жа скарыстаць усе пісьмы, бо зараз няма ніякай магчымасці змясціць усе іх у газеце. Частку пісем я і іншыя работнікі палітаддзела расследуем на месцы і тут-жа прымаем неабходныя меры. Адначасова рэдакцыя пасылае ў калгасы так званыя **«лісткі рэагавання»**.

На спецыяльны лісток мы перадрукоўваем селькораўскае пісьмо і пасылаем яго ў той калгас, аб якім селькор піша. У калгасе «Лісток рэагавання» вывешваецца на відным месцы, яго чытаюць калгаснікі, а мы і рэдкалегія калгаснай насценгазеты са свайго боку дабіваемся хуткага і вычэрпальнага рэагавання. «Лісток рэагавання»—адна з дзейсных форм выкарыстання пісем селькораў і калгаснікаў. Гэты метад трэба перанесці ў іншыя раённыя і палітаддзельскія газеты.

Веснавая сяўба была часам асаблівага росту і ўмацавання нізавога калгаснага і брыгаднага друку. **Работнікі палітаддзела многа аддалі ўвагі ўмацаванню калгасных, брыгадных насценгазет.** Нядаўна мы правялі **дэкаднік друку,** за час якога дабіліся рэзкага павелічэння падпіскі на газету, а таксама арганізавалі абмен вопытам паміж рэдкалегіямі насценгазет.

Добра прывіўся ў рабоце нашых калгасных насценгазет вопыт выпуску **«тэлеграм-маланак».** Рэдкалегія выпускае «тэлеграму» па якому небудзь важнаму факту і дабіваецца неадкладнага рэагавання. Асабліва дзейснымі былі «тэлеграмы-маланкі» ў калгасах «Серп і молат», імя Войкава і т. д.

Усе гэтыя апраўдаўшыя сябе формы і метады работы друку мы **пераносім зараз на праполачную кампанію і падрыхтоўку да ўборкі ўраджаю.**

Ёсць у рабоце нашай газеты і недахопы.

Мы яшчэ не дабіліся поўнага і быстрага рэагавання на кожную заметку селькораў і калгаснікаў. Ёсць факты марынавання пісем у раённых установах і калгасах. Я паставіла зараз перад сабой задачу наладзіць штодзённую **праверку выканання, праверку рэагавання на кожны селькораўскі допіс.**

Заўважваюцца факты ганення на нашых селькораў. Два такіх факты мы выкрылі, справы аб праследвальніках перадалі ў жлобінскі суд. З таго часу прайшло ўжо два месяцы, а суд не разглядзеў гэтых спраў, не прыцягнуў вінаватых да адказнасці. Я арганізавала рэйд селькораў, якія праверылі, што-ж робіць суд з гэтымі справамі. Аказалася, што адну справу суд накіраваў у райміліцыю «для расследвання», хоць яна ўжо расследвана даўно, а другую справу суддзі проста **згубілі.**

Вось як жлобінскі суд дапамагае нам змагацца з арганізатарамі ганенняў на селькораў. Лічу, што гэтымі фактамі павінен зацікавіцца Наркамюст БССР.



Рабкоры-ударнікі будаўнічага цэха Асінторфа

**Ф. ДАКУТОВІЧ**

Выкладчык літаратуры КІЖ'а.

# РАЁННАМУ І ПАЛІТАДДЗЕЛЬСКАМУ ДРУКУ —ГРАМАТНУЮ, КУЛЬТУРНУЮ МОВУ

Большэвіцкі друк ахапіў самыя аддалёныя куткі нашай краіны. Дзесяткі тысяч друкаваных і насценных газет на зёсцы сталі магутнымі рычагамі агітацыі, прапаганды і арганізацыі мас, сталі праваднікамі новай культуры, культуры сацыялізма.

Мільёны калгаснікаў, рабочых соўгасаў і працоўных аднаасобнікаў штодзенна маюць магчымасць чытаць цэнтральную, рэспубліканскую, раённую і палітаддзельскую газеты. Гэта велізарнейшая пачэсная роля, якую заклікан адыгрываць большэвіцкі друк, накладвае вялікія абавязкі і на яго работнікаў. Каб газета сапраўды з'яўлялася «магутнай зброяй, пры дапамозе якой партыя штодзенна, штогадзінна гаворыць з рабочым класам на сваёй, патрэбнай ёй мове» **(Сталін)**, патрэбна ў яе рабоце большэвіцкая чоткасць, аператыўнасць, яснасць і прастата мовы.

Апошнія артыкулы М. Горкага пра мову мастацкай літаратуры паставілі ва ўсю шырыню пытанне барацьбы за лепшую якасць мастацкай совецкай літаратуры, у тым ліку і літаратурнай мовы. Алексей Максімавіч выступіў рашуча супроць укаранення ў літаратуру такіх слоў, як «скукожился», «пад'елдыкивать», «бузить» і т. д. Вялікі пролетарскі пісьменнік патрабаваў, каб наша літаратура вызвалілася ад неахайнасці, паразітычных бяссэнсных слоў. Гэта выступленне А. М. аб мове мастацкай літаратуры асабліва важна і для работнікаў газет. Работнікі друку з'яўляюцца адказнымі за фармаванне мовы мас, бо масы працоўных вучацца правільнай, граматнай мове не толькі па творах совецкіх пісьменнікаў, але і па нашых газетах. Барацьба за чыстату, правільнасць і выразнасць мовы

Многія заводскія газеты амаль не ўжываюць знакаў прыпынку. (З журнала „Фабр. зав. печать"




**«Лішні» груз.**

ёсць барацьба за ідэалагічнае ўзбраенне мас.

Таму мы павінны асабліва сур'ёзна, па-большэвіцку самакрытычна падыйсці да

тых недахопаў раённага і палітаддзельскага друку, што «затрудняюць наш уплыў на масу» (**Ленін**). Зусім зразумела, што мова раённага і палітаддзельскага друку павінна быць чоткай, зразумелай для самых шырокіх мас. Між тым у радзе нашых газет «блішчыць» такая тэрміналогія, такія фразы, якія цяжка зразумець нават добра граматнаму чалавеку.

У адным з сваіх апошніх выступленняў нябожчык М. Н. Пакроўскі так сказаў аб тых людзях, што гавораць надзвычай «навуковай тэрміналогіяй», якую цяжка зразумець не толькі малаграматнаму, але і больш-менш граматнаму чалавеку: **«Бойцеся людзей, якія гавораць незразумелай мовай. Яны гавораць незразумелай мовай не для таго, як чэхаўскі герой, каб паказаць сваю адукаванасць, а каб утаіць сваю няленінскую сутнасць, — вось для чаго гэта ім патрэбна».** Гэта выказванне М. Н. Пакроўскага, як нельга лепш ускрывае класавую сутнасць нацдэмаўскага шкодніцтва ў галіне мовы.

Беларускія нацдэмы мабілізавалі ўсе свае сілы і сродкі на тое, каб адарваць літаратурную мову ад жыцця, ад жывой мовы пролетарыята і працоўнага сялянства, рашуча выганяючы з мовы элементы інтэрнацыяналізма, змагаючыся супроць советызмаў — слоў, народжаных пролетарскай рэволюцыяй, супроць слоў, аднародных з рускай мовай.

Нацдэмы высунулі сваю вядомую тэорыю «самабытнага шляху развіцця беларускай мовы», уводзілі ў сучасную беларускую мову архаізмы з розных сярэдневяковых дакументаў, бралі словы з польскай мовы, арыентуючыся ў сваёй палітыцы на фашысцкі Захад, а не на пролетарскую Маскву.

Партыя разграміла ўшчэнт нацдэмакратызм. Класавы вораг разбіт, але не дабіт. Дыялектыка развіцця такава, што класавы вораг не выступае зараз адкрыта. Класавы вораг імкнецца дзейнічаць «ціхай сапай». І на такі адказнейшы ўчастак ідэалагічнага фронту, як мова, класавы вораг час-ад-часу працягвае свае крывавыя кіпцюры. Таму павышэнне класавай пільнасці ёсць першачарговы абавязак усёй большэвіцкай прэсы.

Між тым аналіз камплектаў раду раённых і палітаддзельскіх газет сведчыць аб вялікіх прарывах у іх літаратурна-стылістычным афармленні. Вельмі часта тэхнічныя недарэчнасці перарастаюць у палітычныя памылкі. Як і ўсякі работнік, журналіст павінен умець добра ўладаць інструментам, пры дапамозе якога ён працуе. Такім інструментам у рабоце журналіста з'яўляецца слова. **«Слова—вучыць** А. М. Горкі — **неабходна ўжываць з дакладнасцю самай строгай. Кожная фраза, кожнае слова павінна мець дакладны і ясны сэнс».** Прыкладам такіх строгіх адносін да слова можа служыць мова нашых правадыроў. Так, т. **Кагановіч** у сваёй прамове па пытанню барацьбы за ўзняцце ідэйна-палітычнага ўзроўню нашай рабочай моладзі падкрэслівае: **«Я гавару іменна аб УЗБРАЕННІ замест звычайнага слова «выхаванне», бо слова ўзбраенне дакладней акрэслівае тое, што нам трэба».**

Прагляд раённых і палітаддзельскіх газет паказвае, што не заўсёды да рэчы ўжываецца тое ці іншае слова. Вось некалькі прыкладаў (шапак і загалоўкаў), узятых з газет розных раёнаў.

**1. За знішчэнне ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ засуджан.**

**Узрашчываецца ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ.**

**(«КОМУНАР ЗАСЛАЎШЧЫНЫ», 12 лютага 1934 г.).**

**2. Кулака Латышава ЗАБАРАНЯЕ старшыня с.-с.**

**(«СТАЛІНЕЦ»), Бешанковіцкі раён, 16 лютага 1934 г.).**

**3. Дзякуючы высокакласнай падрыхтоўцы да сяўбы, КОНІ РАБОТАЛІ БЕЗАДКАЗНА.**

**(«КАЛГАСНАЯ ПРАЎДА»), Гарадоцкі раён, 11 мая 1934 г.).**

**4. Справу АБ жывёлагадоўлі павінны ўзяць у свае рукі.**

**(«За большэвіцкія калгасы», палітаддзел Даманавіцкай МТС, 22 сакавіка 1934 г.).**

Прыклады падобнага характару можна было-б значна павялічыць. Раённы і палітаддзельскі друк мае, на жаль, вялікі «запас» падобных недарэчнасцей. А ці можна было-б гэтага ўнікнуць? Бясспрэчна, можна. Работніку раённай і палітаддзельскай газеты варта было падумаць і моцна падумаць над пытаннем, як гэта можна знішчыць «жывёлагадоўлю», ці як «узрасціць жывёлагадоўлю», калі справа ідзе проста аб знішчэнні жывёлы і вырошчванні жывёлы. І тады замест слова «жывёлагадоўля», якое не перадае зместу думкі, можна было і трэба было напісаць проста жывёла. Або ў другім прык-

ладзе літработнік газеты, а ў тым ліку і рэдактар, ніяк не могуць зразумець розніцы паняццяў абараняць і **забараняць**. З прыведзенага прыкладу чытач так і не зразумее, што-ж робіць старшыня сельсовета — **забараняе** (і як гэта можна забараніць?!), ці **абараняе** кулака. Трэці прыклад, у якім гаворыцца, што «коні работалі безадказна», як відаць найбольш датычыць саміх работнікаў рэдакцыі, якія сапраўды працуюць безадказна. Толькі гэтым можна растлумачыць наяўнасць у газеце такіх «перлаў». Слова «безадказны» мае агульна прынятьі просты сэнс — «безответственный» (у перакладзе на рускую мову). Іменна ў такім сэнсе кажуць: безадказныя адносіны да справы, або адваротны сэнс—адказная справа. У даным выпадку, відаць, разумеецца, што коні працавалі «безупречно», «безукоризненно», або, інакш кажучы, коні працавалі добра. Прычым тады тут «безадказныя коні», аб якіх гаворыцца на старонках газеты. Навошта слова «аб» пастаўлена ў чацвертым прыкладзе—наўрад ці скажа і сам аўтар гэтай «шапкі».

Газета Лельчыцкага раёна **«Калгаснік на варце»** ў нумары за 18 сакавіка 1934 г. заклікала: «Убраць бяздзейнасць і непаваротлівасць са шляху работы». Замест жывой, канкрэтнай мовы, якою павінна гаварыць з масамі большэвіцкая газета, з'яўляюцца такія «ўзоры» «мабілізуючых» загалоўкаў і «шапак», якія заклікаюць на барацьбу не з канкрэтнымі носьбітамі зла, а на барацьбу з абстрактнымі паняццямі.

Яшчэ мудрэй піша газета **«Палітаддзельская праўда»**, Цялушскай МТС, у нумары ад 29 сакавіка 1934 г.: **«У калгасныя ăбмары пастаўце лепшых правераных калгаснікаў-ударнікаў»**. Чытаючы падобныя «шапкі», так і хочацца запытацца ў рэдактара — ці не лепш у «калгасныя амбары» паставіць мяшкі са збожжам, а на ахову амбараў—калгаснікаў-ударнікаў?

Прыклады можна множыць, але справа не ў іх колькасці. Справа заключаецца ў тым, што адным з істотных недахопаў газетнай мовы з'яўляецца няправільнае ўжыванне слоў у сказе, што слоўны багаж газеты яшчэ вельмі бедны.

Да моўных недахопаў многіх газет трэба аднесці і злоўжыванне словаскарачэннямі. **«Вазьміце нашы газеты—там сустракаецца слова ІТР. У нас ведаюць, што так скарочана называюць інжынерна-тэхнічных работнікаў. А вось вясковы комуніст чытае ІТР і не ведае, што гэта такое ІТР. У газетах такое скарачэнне: 4 кв. Што такое 4 кв.? Вясковаму комуністу, дый не толькі яму, цяжка здагадацца, што за гэтым скарачэннем хаваюцца словы: 4 квартал. Я гавару гэта не для таго, каб пасмяяцца над чалавекам, які не ведае простых рэчаў, не, хутчэй пасмяяцца трэба над тымі, якія так пішуць для рабочых і сялян»**—так гаварыў на XVII з'ездзе партыі тав. **Кагановіч**.

Многія рэдактары раённых і палітаддзельскіх газет, не гледзячы на жорсткую крытыку т. Кагановіча каверкання мовы ў газетах, злоўжываюць словаскарачэннямі. Няма патрэбы рабіць вялікія выпіскі з доўгім пералікам назваў раённых і палітаддзельскіх газет, каб паказаць, што такога роду скарачэнні як: ОРСУ, РАЙЖКТОР, ОРГТРУД, БЕЛМБІТ, БДМ, НІМ, БІМ, РАЙАСО, СВБ, РАНА, УПНКЗ, СФК, ЗРК, с.-с., к-с і т. д. нярэдка можна сустрэць на старонках нашых газет. Такога роду словаскарачэнні сігналізуюць аб адсутнасці элементарнай граматычнай і палітычнай граматнасці работнікаў газеты.

Вялікім недахопам многіх газет з'яўляецца многаслоўе, ужыванне лішніх слоў, канцылярска-бюракратычных зваротаў і проста сінтаксічная няграматнасць. Вось некалькі прыкладаў:

1. **Партыйны дзень—ёсць баявая школа абучэнне комуністаў большэвікоў («Ленінскі прызыў»**, Аршанскі раён, № 90, 1934 г.).

2. **Спартакаўцы прышлі на палітзаняткі —падрыхтаванымі** (там-жа, № 88).

Сярод работнікаў рэдакцыі аршанскай газеты ёсць, відаць, вялікі аматар розных сінтаксічных знакаў. У даных прыкладах рэдакцыя поўнасцю праявіла сваю замілаванасць да працяжніка і ставіць яго амаль у кожным загалоўку і якраз там, дзе ў гэтым няма ніякай патрэбы.

Газета **«Ленінскі сцяг»**, Лёзненскага раёна, у нумары ад 22 студзеня 1934 г. таксама паказала сваю празмерную любоў да знакаў прыпынку і ў адным з загалоўкаў напісала: «Так, рыхтавацца да сяўбы злачынства». Лішняя коска пасля слова «так» ператварае загаловак у палітычна няправільны і шкодны.

Або другі прыклад: «Каб хутчэй знішчыць адсталасць на шляху царызма.

зрабіць культурным жыццё нач. палітаддзела МТС тав. Муха прызывае ўсіх калгаснікаў вучыцца ўздымаць свой культурны, палітычны, агратэхнічны ўзровень»,— пісала газета палітаддзела Уздзенскай МТС **«Большэвіцкі прызыў»** 15 студзеня 1934 г. Да гэтага прыкладу, як кажуць, і каментарыі лішнія.

Недалёка ад работнікаў «Большэвіцкага прызыва» адышлі работнікі палітаддзела соўгаса Кухцічы. У нумары газеты **«Ўдарнік соўгаса»** (7 лютага 1934 г.) з'явілася наступная заметка: «Апублікаваная рашэнне палітаддзела аб сканчэнні конкурса яскрава паказвае наколькі **сіла палітаддзела з яго канкрэтным кіраўніцтвам самая адсталая,** цягнуўшаяся пастаянна ў хвасце, трэцяя брыгада змагла стаць першай на ферме». Няграматна пабудаваны сказ сказіў сэнс заметкі.

Гэтыя прыклады з'яўляюцца паказальнікам малаграматнасці рэдактароў некаторых газет, больш таго, яны сведчаць аб іх зусім слабай палітычнай граматнасці.

Патрабаванне прастаты, чоткасці мовы, такой мовы, якая-б ясна і дакладна перадавала паняцці нашай соцыялістычнай рэчаіснасці, зусім не выключае цэлага раду не менш важных дадатковых патрабаванняў да мовы нашай большэвіцкай прэсы. Мы маем на ўвазе сакавітасць мовы, вобразнасць, трапнасць выразу. «Чытач у праве патрабаваць, каб газета не збядняла і не бюракратызавала мову—бадзёрую і радасную мову нашай эпохі, — а тэндэнцыі бюракратызацыі мовы яшчэ моцны ў вельмі многіх нашых газетах»,—так пісала ў перадавым артыкуле, прысвечаным Дню друку «Праўда» (5 мая 1934 г.). Гэта ўказанне ЦО партыі — «Праўды» ўскладае на работнікаў нашых газет асабліва вялікія і пачэсныя абавязкі.

Уважлівы прагляд большасці нашых раённых і палітаддзельскіх газет сведчыць аб амаль поўнай адсутнасці яркіх вобразаў.

Сістэматычная работа над павышэннем свайго тэарэтычнага ўзроўню, над выкоўваннем з сябе сапраўдных работнікаў большэвікоў-журналістаў дала-б магчымасць упікнуць такіх «перлаў» вобразнасці, якія час-ад-часу пранікаюць у наш раённы і палітаддзельскі друк. Прыкладам такой нездаровай «мастацкай» словатворчасці можа служыць наступная выбарка «шапак» з газет, у якіх рэдакцыі імкнуліся загаварыць «вобразнай» мовай. Вось як выглядае вясна ў «шапках» некаторых раённых газет:

**1. «Вясна набліжаецца да граніц нашай Савецкай рэспублікі і раёна» («КАЛГАСНІК ТАЛАЧЫНШЧЫНЫ», 21 лютага 1934 г.).**

**2. «Вясна наступае на тэрыторыю раёна».**

**(«ПРЫМЕЖНЫ КАЛГАСНІК», Ушацкі раён, № 24 ад 28 лютага 1934 г.).**

**3. «Вясна стучыцца ў вакно».**

**(«КАЛГАСНІК УЗДЗЕНШЧЫНЫ, 14 сакавіка 1934 г.).**

**4. «Вясна стучыцца ў дзверы»**

**(«БОЛЬШЭВІК МСЦІСЛАЎШЧЫНЫ», 14 сакавіка 1934 г.).**

У пагоні за гучнай фразай часта траціцца сэнс, адрываецца форма ад зместу.

Спробы загаварыць вобразнай мовай зрабіла і газета палітаддзела соўгаса Бабінічы — **«За большэвіцкую свінагадоўлю».** У нумары за 8 лютага 1934 г. газета змяшчае заметку, у якой гаворыцца аб тым, што загадчыцай школы працуе ўнучка буйнага памешчыка, і да гэтай заметкі дае наступны «вобразны» загаловак: «Унучка прыгона—загадчыца савецкай школы». Відаць, па думцы работнікаў рэдакцыі газеты, прыгон мае ўнучак.

Усе вышэй прыведзеныя факты сведчаць аб значных недахопах мовы раённага і палітаддзельскага друку. Гэтыя недахопы з'яўляюцца трывожнымі сігналамі аб значных прарывах у рабоце нашых газет у галіне літаратурна-стылістычнага афармлення.

Справа гонару кожнай газеты, кожнага работніка ўзняць якасць друкаванага матэрыяла.

# ПЛАДЫ РЭЗАЛЮЦЫЙ: „У АРХІЎ"

«Комуна» павінна хутчэй перабудавацца і перабудавацца на справе. Трэба не толькі выкрываць кожную агіднасць на ферме, кожны недахоп, але і настойліва дабівацца самага хуткага і дзейснага рэагавання, самага хуткага выпраўлення дапушчаных памылак, сапраўды звязацца з масамі, з калгасным актывам, згрупаваць вакол сябе моцнае рабсelькораўскае ядро» — так пісаў «Бальшэвіцкі друк» у сваім аглядзе клімавіцкай раённай газеты **«Комуна».**

Гэта было сур'ёзным сігналам для работнікаў рэдакцыі «Комуны». Але ён астаўся непачутым. «Комуна» і пасля агляду не ўзялася за сапраўдную перабудову сваёй работы, за ўмацаванне кіраўніцтва рабселькорамі і сувязі з шырокімі масамі працоўных.

У рэдакцыі пяць пастаянных работнікаў. Каля двух месяцаў працуюць тры практыканты з газетнага тэхнікума. У апараце рэдакцыі поўная абязлічка. Невядома, хто і за што адказвае, хто і чым павінен займацца.

Вось прыклады. Працуе ў рэдакцыі тав. **Шынкароў.** Рэдактар «Комуны» **Каган** лічыць яго часовым адказным сакратаром рэдакцыі, намеснік рэдактара **Кулінковіч** — масавым работнікам, а сам Шынкароў заяўляе «проста так... невядома кім я». Тое самае і з другім работнікам газеты **Зотавым.**

Асабліва абязлічана работа з рабселькорамі, з пісьмамі. Клімавіцкі раён увесь час ганебна адставаў на сяўбе. Селькоры пасылалі ў рэдакцыю нямала пісем, у якіх выкрывалі канкрэтных сабатажнікаў сяўбы, кулацкія манеўры, пісалі аб сур'ёзных прарывах у паасобных калгасах.

Але як у рэдакцыі «Комуна» адносяцца да рабселькораўскіх заметак, да пісем працоўных? Пісьмы, паступіўшыя ў рэдакцыю, як правіла, прачытваюцца няўважліва, абыяк. І ў выніку нават на важных пісьмах штампаваныя рэзалюцыі: «у архіў».

Калгаснік з сельска-гаспадарчай арцелі «Комунар Магілеўшчыны» прыслаў пісьмо аб тым, што даглядчыца кароў

З журнала «Фабрычно-заводская печать»




**Паглядзіце, таварышы, у сябе, ці няма ў вас такой перагародкі ў рэдакцыі**

Варфаламеева начамі доіць калгасных кароў, бярэ малако для сябе, а цяляты стаяць на сухіх кармах.

Доўга не думаючы, у рэдакцыі на гэтым пісьме накладваюць рэзалюцыю: **«у архіў».** Такі-ж лёс сустрэла пісьмо аб старшыні калгаса імя Гікало Злотнікавым, які сарваў вывазку гною, і пісьмо аб злачынствах загадчыка фермы С. Корсакава ў калгасе «Рассвет». У архіў былі пасланы і многія другія пісьмы толькі таму, што яны не былі напісаны згодна запатрабаваннаў рэдакцыі «на адной старонцы ліста і атраментам».

Зусім дрэнна пастаўлен улік пісем і рэагаванне на змешчаныя заметкі.

Селькор **Я. Бярозка** прыслаў у рэдакцыю пісьмо яшчэ 25 лістапада 1933 г.

Работнікі «Комуны» гэты допіс зарэгістравалі толькі 29 красавіка 1934 г., праз 6 месяцаў пасля атрымання. Аб рэагаванні на змешчаныя пісьмы ў рэдакцыі літаральна ніхто не клапоціцца. Не дзіва, што, пачынаючы з 25 студзеня, рэдакцыя не атрымала адказу ні на адну заметку, змешчаную ў газеце. З 12 лютага рэдакцыя паслала ў розныя ўстановы 142 пісьмы працоўных. На 133 пісьмы не атрыманы адказы і па сённяшні дзень, але рэдакцыю гэты факт ніколькі не турбуе.

Рабселькоры, паслаўшы заметкі ў рэдакцыю, ўжо больш аб іх нічога не пачуюць. Рэдакцыя не вядзе ніякай перапіскі з рабселькорамі. Супрацоўнік рэдакцыі **Мінаў**, якому даручана работа з пісьмамі, шчыра прызнаецца:

— Мы за апошні час не даем адказаў рабселькорам.

Зразумела, чаму рабселькоры спыняюць сваю сувязь з клімавіцкай газетай.

Раней актыўныя селькоры «Комуны» тт. Цімашэнка М., Я Глушакоў, А. Пасрэднікаў і інш. цяпер зусім адышлі ад газеты.

**Ф. КЛІМЯНОК.**




# Не так робіце, таварышы

Пад большэвіцкім кіраўніцтвам палітаддзела калгасы Слуцкай МТС высокаякасна і ў тэрмін скончылі сёлетнюю сяўбу. За баявыя заслугі ў справе арганізацыйна-гаспадарчага і палітычнага ўмацавання калгасаў, за паспяховае правядзенне сяўбы начальнік палітаддзела Слуцкай МТС т. **Бангайціс** узнагароджан ордэнам Леніна.

У перамозе калгасаў МТС на фронце сяўбы вялікую ролю адыграла газета палітаддзела **«За тэмпы і якасць»** (рэдактар т. **Булко).** Газета ў часе сяўбы паказала ўзоры большэвіцкай работы. Яна цесна звязана з шырокімі масамі калгаснікаў. Выязная рэдакцыя газеты дапамагла буйнейшаму калгасу **«Шлях калектывізацыі»** ліквідаваць адставанне па сяўбе, выйсці ў рады перадавых. Арганізаваныя газетай два агітфургоны, выпуск тэрміновых паведамленняў, тэлеграм-маланак, пячарговых бюлетэняў, рад іншых апэратыўных мерапрыемстваў газеты дапамаглі палітаддзелу забяспечыць перамогу на пасеўнай.

Але-ж мы не можам абыйсці сёння адной вялікай памылкі газеты ў асвятленні ходу соцспаборніцтва калгасаў.

Акрэсліваючы сутнасць соцыялістычнага спаборніцтва т. **Сталін** пісаў:

**«Іншы раз соцыялістычнае спаборніцтва змешваюць з канкурэнцыяй. Гэта вялікая памылка. Соцыялістычнае спаборніцтва і канкурэнцыя прадстаўляюць два зусім розныя прынцыпы. Прынцып канкурэнцыі — паражэнне і смерць другіх. Прынцып соцыялістычнага спаборніцтва — таварыская дапамога адстаючым з боку перадавых з тым, каб дабіцца агульнага ўздыму». (Сталін «Аб друку», стар. 23, выд. 1932 г.).**

А газета **«За тэмпы і якасць»** гэту прынцыповую розніцу паміж соцспаборніцтвам і канкурэнцыяй не зусім зразумела. І таму яна ў нумары ад 1 мая ў заметцы «Штурмавая ноч» папулярызуе факты скажэння метадаў соцспаборніцтва.

> **«РАШЫЛІ АБОДВА (брыгадзір і конюх. — Рэд.). АЛЕ ША... НІ ГУ-ГУ... ТОЛЬКІ-Б НЕ ДАВЕДАЛАСЯ ДРУГАЯ БРЫГАДА, А ТО ЛОПНЕ СПРАВА, ДЫК ЗАСМЯЮЦЬ НАС З ДРУГОЙ БРЫГАДЫ».**

Вось гэта засакрэчванне брыгадай метадаў работы, правадзімых мерапрыемстваў, якія забяспечваюць поспех, ад спаборнічаючай з ёй брыгады, замест перадачы вопыта, дапамогі адстаючым у спаборніцтве і ёсць скажэнне соцыялістычнага спаборніцтва.

«За тэмпы і якасць» павінна выправіць дапушчаную ёю памылку, шырока паказаць на сваіх старонках сапраўднае **соцыялістычнае** спаборніцтва калгасаў, брыгад, звенняў, асобных калгаснікаў.

**С. Ш.**

# Не газета, а суцэльны брак

Рэдакцыя жлобінскай раённай газеты **«Шлях соцыялізма»** атрымлівае ў парадку абмену чачэрскую раённую газету **«Сцяг калектывізацыі»**. Мы ўсе работнікі рэдакцыі заўсёды ўважліва прачытваем чачэрскую газету, і трэба сказаць, што больш няграматнай і блытанай газеты нам не прыходзілася бачыць!

Бярэм газету «Сцяг калектывізацыі» за 24 мая. Нельга тут падаць вялікую пастанову РК ЛКСМБ, надрукаваную ў гэтым нумары, але цяжка знайсці дакумент, які быў-бы роўны гэтай пастанове па бязграматнасці. У пастанове няма літаральна ніводнага абзаца, які быў-бы напісан з захаваннем хоць-бы прасцейшых правіл граматыкі: што ні сказ, то блытаніна, апашленне мовы, памылкі — суцэльны здзек з чытача.

У гэтым-жа нумары «Сцяга калектывізацыі» змешчан матэрыял пра ход экзаменаў у школах. Здавалася, ужо сама тэма павінна была прымусіць работнікаў рэдакцыі граматна напісаць матэрыял. А вось што яны напісалі (арфаграфія і стыль захованы):

> **«Аб дасягненнеў з якімі ўступіла Захарапольская школа (Чачэрскі сельсовет) у яе адказнейшы перыяд навучальнага года сведчыць факт наступнага парадку:**
>
> **Па 6-8 вучняў з 4-й група, па 14-17 вучняў у 1-й групе, па 8-6 вучняў 2-й групе сістэматычна не з'яўляюцца, ненавадваюць заняткі ў школе».**

У паданым адным сказе безліч граматычных памылак, не лічачы ўжо таго, што рэдакцыя «С. К.» палічыла дасягненнем школы... вялікі процант ненаведвання. Уяўляем сабе, што думалі вучні 3-й групы Захарапольскай школы, калі чыталі гэтую бязграматную творчасць работнікаў чачэрскай газеты!

Нумар за 24 мая не выключэнне. Кожны нумар «С. К.» стракаціць «прыгожасцямі», падобнымі да паказаных. Некалькі раз «Большэвіцкі друк» указваў асобным газетам, што нельга пісаць калгас «Будзёнага», а трэба пісаць—калгас імя Будзёнага, чачэрская-ж газета прадаўжае пісаць «калгас Будзёнага», ці проста калгас «Будзёны». Кожнаму піонеру вядома, што райза (райземаддзел) слова мужчынскага роду, а «Сцяг калектывізацыі» піша: «райза не патурбавалася», «райза перабудавалася».

Нельга пералічыць нават паловы граматычных і стылістычных памылак дапушчаных чачэрскай газетай толькі ў апошніх нумарах. Нам зусім ясна: у чачэрскай газеце сядзяць людзі, якія **не хочуць вучыцца, якія безадказна адносяцца да даручанай ім партыяй справы.**

Мы ў газетах моцна б'ем па бракаробах на заводах і ў калгасах. З яшчэ большай сілай трэба біць па людзях, якія выпускаюць суцэльны газетны брак.

**Работнікі газеты «ШЛЯХ СОЦЫЯЛІЗМА»: ЯГОРЧАНКА, ЗУЕВІЧ, КУЛАКОЎСКІ, БАТУС.**

г. Жлобін.

---

**Нізавы друк фабрыкі «КІМ» (Віцебск).**



# ЦЯП Ляпкіны за работай



**«ПАМРЫ, ДЗЯНІС, ЛЕПШ НЕ НАПІШАШ».**

Дзіўныя людзі сядзяць у рэдакцыі чачэрскай раённай газеты **«Сцяг калектывізацыі»**. Як ні стараюцца, як ні мудраць, а ўсё ў іх выходзіць «шыварат навыварат».

Калі паверыць ім, дык атрымліваецца, што на Покацкім маслазаводзе малако «навысілася на работнікаў», маслапрадукты псуюцца ад таго, што работнікі завода разгортваюць соцспаборніцтва, змагаюцца за чыстату.

> **«У параўнанні з першай пяціздзёнкі малака павысілась на 9.000 м. работнікі маслазавода Кузменкоў, Дзякоў, Канцавая Гарпіна ў практыку ўкараняпі соцспаборніцтва і вядуць барацьбу за тэмпы і якасць работы і за ўтрыманне завода ў чыстаце.**
>
> **Маспапрадукты пад пагрозай псавання».**

Масла ў чачэрскіх газетчыкаў губляе нейкую большасць, а чаго невядома.

> **«50 кгр. масла згубіла большасць ад чаго можыць не пэйсці ў лік экспартнага прадукту».**

Дырэктар завода ў іх

> **«несвоечасова паклапаціўся дамовіцца з Покацкай ФЗВ на забяспячэння завода адпаведнай колькасцю тары, але новы загадчык маслапрому т. Фербір па тэлефону гэта забараніў».**

А граматнасць, граматнасць якая! Паслухайце:

«У параўнанні з першай пяціздзёнкі» «малака павысілась», «можыць», «забяспячэння», «посля» і т. д.

**УРА АДСТАЮЧЫМ «ПЕРАМОЖЦАМ»!**

**«За тэмпы і якасць сяўбы»**—газета выязной рэдакцыі **«Чырвонай Лагойшчыны»**—мае нейкую асаблівую сімпатыю да члена сельсовета Пятрашкі. Участак яго адстае, дрэнна працуюць і Пятрашка, і дзесяцідворнік Жызнеўскі. Але даведалася выязная рэдакцыя, што процант выканання плана сяўбы на гэтаму ўчастку ўзняўся з 86,3 да 88,7 проц. «Зрух» намеціўся, і пашла пісаць губерня.

> **«Члену сельсовета Пятрашка і дзесяцідворніку Жызнеўскаму (в. С. Гара). (Да рэчы, што гэта за «в. С. Гара»? — РЭД.). Вы заслугоўваеце зняцця з чорнай дошкі і занясення кандыдатам на чырвонаю, як выканаўшыя свае планы веснавой сяўбы ад 86,3 проц. да 88,7 проц. Аднак, за тое, што вы яшчэ не арганізавалі сяўбу як належыць быць сярод астатніх аднаасобнікаў свайго пункту, якія адстаюць у сяўбе, вы намі пакідаецеся на чорнай дошкі».**

*Рыс. МАЛЕВІЧА*



Пакідаючы на сумленні рэдакцыі класічную бязграматнасць гэтай заметкі, мы вымушаны адзначыць дзіўную «шчодрасць» рэдакцыі на безадказныя посулы і абяцанкі. Участак ледзь дабіўся 88 проц. выканання плана сяўбы, даў прыросту ўсяго 2,4 проц. плана, а «За тэмпы і якасць сяўбы» ўжо лічыць, што яго можна занесці на чырвоную дошку. І раптам лыжка дзёгцю сапсавала ўсю бочку мёду. «Вы намі пакідаецеся на чорнай дошкі», — пасля доўгіх разважанняў усё-ж парашыла рэдакцыя.

Дзіўная непаслядоўнасць, таварышы з «Чырвонай Лагойшчыны»!

## ГІСТОРЫЯ ПАЎТАРАЕЦЦА.

Ушацкая раённая газета **«Прымежны калгаснік»** у свой час здзівіла свет палахлівай шапкай:

«Да граніц нашага раёна набліжаецца вясна».

*Рыс. МАЛЕВІЧА*




Прайшлі 3 месяцы. І зноў 30 мая газета частуе сваіх чытачоў чарговым аншлагам:

«ЗА ЎЗБРОЕНУЮ СУСТРЭЧУ ЎБОРАЧНАЙ».

Цікава ведаць, таварышы з Ушацкай газеты, якую зброю вы думаеце прымяніць для сустрэчы ўборкі?

## НЕШТА НЕЗРАЗУМЕЛА.

**«Вока ўдарніцы»**—газета менскай швэйнай фабрыкі імя Крупскай — падае ў 44 нумары арыгінальную заўвагу ад рэдакцыі:

> **«У мінулым нумары «Вока ўдарніцы» была змешчана заметка «Раўняцца па перадавых». Гэтыя істужкі сапраўды з'яўляюцца перадавымі, але лічбы, якія былі надрукаваны, не з'яўляюцца прыкладам для астатніх».**

Як можна сцвярджаць, што лічбы выканання промфінплана, якія «не з'яўляюцца прыкладам для астатніх», даюць перадавыя на фабрыцы істужкі. Каго-ж у такім разе лічыць адстаючымі?

## АЎТАРА, АЎТАРА ДАВАЙЦЕ СЮДЫ!

«Аўтара, аўтара давайце сюды!» — закрычаў глядач адной няўдалай п'есы. Калі-ж яго запыталі наконт мэтазгоднасці выкліку аўтара такой нікчэмнай рэчы, глядач упэўнена адказаў:

— Я хачу бачыць істоту, якая напісала такое глупства.

Падалі мы гэтыя радкі для таго, каб выклікаць некаторых аўтараў і прымусіць іх чырванець перад чытачамі за бяздарныя іх «шапкі»-брак.

Хто заклікае ў газеце палітаддзела Пухавіцкай МТС: **«Вышэй уздзямім сцяг соцспаборніцтва»?** (№ 31 ад 1 чэрвеня 1934 г.).

Хто з работнікаў **«Чырвонай Лагойшчыны»** дадумаўся над пастановай бюро РК і палітаддзела МТС даць сваю «шапку»-прапанову **«Аб карыстанні сенажацямі калгасамі і аднаасобнікамі»?** (№ 53 ад 31 мая 1934 г.).

І хто, урэшце, з работнікаў жлобінскай раённай газеты **«Шлях соцыялізма»** выкінуў аншлаг на ўсю старонку: «Усебеларускі конкурс на лепшую лікбезработу»? (№ 72 ад 22 мая 1934 г.).

Аўтара, аўтара давайце сюды! Няхай адкажа, што гэта за конкурс «на лепшую лікбезработу»?

## НЯЎЖО Ў ГАРАДКУ. ПОЛЮЦЬ ЦАЛІНУ?

«ЗВОДКА **аб ходзе падняцця цаліны і папароў на 1-IV 1934 г.»**.

— такі загаловак зводкі, змешчанай у гарадоцкай раённай газеце **«Калгасная праўда»** за 3-е чэрвеня.

Але не верце «Калгаснай праўдзе» чытач! Ні слова аб уздыме папараў і цаліны ў зводцы няма. Графы зводкі разыходзяцца з яе загалоўкам.

Першая графа—звычайная: «назва с.-с.», другая — «прапо́лка ільну», трэцяя — «прапо́лка зерня́вых» і чацвертая... **«прапо́лка цаліны» (!?!).**

Навошта-ж цаліну палоць, т. **СЯМЁНАЎ?** Яе-ж трэба раней узняць, апрацаваць, засеяць. Ды няўжо ў вас так такі і полюць няўзнятую і пезасеяную цаліну? Не верыцца нешта!

## ЧЫЁЙ МОВАЙ ЗАГАВАРЫЛА «ЧЫРВОНАЯ ЛАГОЙШЧЫНА»?

13 мая працоўныя Лагойшчыны былі ашарашаны новым «адкрыццём» сваёй раённай газеты. У артыкуле «Апошнія дні сяўбы» газета заявіла:

**«Разграмляючы кулацкі сабатаж сяўбы, засталіся яшчэ яго недабітыя рэшткі, якія зрываюць сяўбу, аказваюць шалёнае супраціўленне».**

У «Чырвонай Лагойшчыне» ёсць два роды бязглуздых сказаў: сказы, у якіх абсалютна нічога нельга зразумець, і сказы, якія з-за страшэннай бязграматнасці іх аўтараў атрымліваюць зусім адваротны сэнс.

З прыведзенага вышэй сказа, напрыклад, выходзіць, што ў Лагойскім раёне кулацкі сабатаж сяўбы «грамяць» **рэшткі гэтага-ж самага кулацкага сабатажа.** Ці разумееце вы, т. Чаплінскі, чыёй мовай у даным выпадку загаварыла газета з-за вашай нядбайнасці і безграматнасці?

# ПА КІМ „УДАРАЕЦЕ", ТАВАРЫШ ПАЛЕЕС?

**«Мацней удар па кулацкіх спробах зацягнуць сяўбу, чым знізіць ураджай калгасных палёў».**

Мы ўважліва з усіх бакоў агледзелі нумар аршанскай газеты **«Ленінскі прызыў»** за 9 мая, на старонках якога з'явілася гэта «шапка». Ніяк не верылася, што газета з яўна варожай «шапкай», заклікаючай знізіць ураджай калгасных палёў, з'ўляецца органам райкома партыі, што яна мае рэдактара-комуніста і што яе праглядае райліт. Аднак, у канцы нумара стаіць подпіс: «Нам. адказнага рэдактара Л. Палеес», а райліт скромна схаваўся за № 398.

Спадзяемся, што галоўліт Беларусі і аршанскі райком КП(б)Б прымуць тэрміновыя меры для таго, каб падобныя «шапкі» ў газеце «Ленінскі прызыў» больш не паўтараліся.

# Ініцыятыва практыка вопыт

✱ **«БОЛЬШЭВІК БАРЫСАЎШЧЫНЫ» мабілізуе калгаснікаў на падрыхтоўку да сустрэчы новага ўраджаю.** Газета ўзнімае пытанне аб пабудове ў кожным калгасе еўняў, азяродаў, павецяў, друкуе пастанову бюро РК КП(б)Б, прэзідыума РВК і палітаддзела МТС з канкрэтным планам падрыхтоўкі да сустрэчы новага ўраджаю. Ва ўсіх калгасах павінна быць наладжана праверка захаванасці леташніх зернаўлавіцеляў і арганізавана падрыхтоўка новых. 32 калгасы павінны пабудаваць да часу ўборкі пуні для захавання ўраджаю. Для сушкі зернавых і бабовых культур у кожнай брыгадзе на гумнах будуюцца азяроды і козлы.

29-га мая першая старонка раённай газеты падаецца пад аншлагам: «У кожным калгасе пабудаваць павеці, еўні, азяроды». На ажыццяўленне гэтай задачы ў кожным калгасе вызначаюцца адказныя за будаўніцтва еўняў і азяродаў члены праўлення калгасаў.

✱ **ЛІТАРАТУРНУЮ СТАРОНКУ пачынае выдаваць крупская раённая газета «Камуністычны шлях».** 17 мая газета выдала такую старонку пад лозунгам ажыўлення літаратурнага руху ў раёне і сустрэчы 1-га ўсебеларускага з'езда савецкіх пісьменнікаў. У старонцы змешчаны вершы **Р. Хацкевіча, М. Калачынскага** (калгас «Комінтэрн), **К. Ксяндзова** (калгас «Чырвоная змена»), **Я. Ляшкова** (крупская школа калгаснай моладзі).

Апрача таго газета друкуе ўрывак з рамана **Міх. Шолахава** «Паднятая цаліна».

30-га мая выдала літаратурную старонку уздзенская раённая газета **«Калгаснік Уздзеншчыны».**

✱ **15 кілограм мёду і 500 грам воску ад кожнай сям'і пчол** — такую задачу паставіў «Калгаснік Беларусі» перад кожнай пчалярнай гаспадаркай, перад кожным калгасам. 28-га мая газета прысвяціла гэтаму пытанню спецыяльную старонку, у якой яшчэ раз узнімае пытанне аб правільным скарыстоўванні кадраў пчаляроў, аб арганізацыі даследвання пчаліных хвароб і павелічэнні выхаду воску.

✱ **«РЭЧЫЦКАЯ ПРАЎДА»** друкуе жывёлагадоўчую старонку пад лозунгам «Соўгасы павінны паказаць узор арганізацыі кругласутачнага выпасу жывёлы». На прыкладзе калгаса «10-ты Октябр» газета паказвае, як нядбайныя адносіны да арганізацыі пасьбішча прыводзяць да зніжэння ўдойнасці.

31-га мая «Рэчыцкая праўда» друкуе пісьмо з калгаса «Савецкая Беларусь», у якім расказвае, як кругласутачны выпас павялічыў удойнасць кожнай каровы на 2 літры. Сярэдні ўдой кароў калгаснай фермы павялічыўся з 110 да 160-180 літраў.

✱ **«Завочныя 4-месячныя агратэхнічныя курсы** закончылі сваю работу. 4.200 чалавек завочнікаў, не лічачы некалькіх тысяч чытачоў газеты «Калгаснік Беларусі», мелі магчымасць, не адрываючыся ад вытворчасці, узбагаціць сябе асновамі агратэхнікі». Так падагульняе работу завочных агратэхнічных курсаў газета «Калгаснік Беларусі» ў спецыяльнай заключнай старонцы. Газета змясціла пісьмы асобных калгаснікаў-ударнікаў, якія навучаліся на курсах і зараз здабытыя веды аддаюць справе ўздыму сваіх калгасаў. Тав. **Сямёнаў,** брыгадзір паляводчай брыгады калгаса **«Чырвоная звязда», Бабруйскага раёна,** расказвае: «За час майго навучання на курсах я азнаёміўся з усімі правіламі апрацоўкі зямлі і павышэння ўраджайнасці. Працуючы другі год брыгадзірам, я атрымліваю ўсё вышэйшую кваліфікацыю».

Тав. **Мехед Васіль з калгаса імя Молатава, Заслаўскага раёна,** піша: «Я пазнаёміўся, напрыклад, якія шкоднікі і хваробы бываюць у садзе, якія шкоднікі псуюць капусту, як атрымаць добры ўраджай гароднiны і як скарыстоўваць угнаенне».

Усяго на завочных курсах, лекцыі якіх друкаваліся на старонках «Калгасніка Беларусі», навучалася 4.200 чал., з іх: членаў партыі і кандыдатаў — 123, комсамольцаў — 687, піонераў — 103 і беспартыйных — 3.288 чалавек. Сярод слухачоў курсаў было 170 старшынь калгасаў, 361 брыгадзір, 211 працуючых па паляводству, 378 працуючых па жывёлагадоўлі і 293 аднаасобнікі.

У дзень падагульнення завочнага навучання курсанты ўнеслі прапанову выдаць лекцыі завочных курсаў асобнай кніжкай.

✱ **«БОЛЬШЭВІК БАРЫСАЎШЧЫНЫ»** друкуе факты і лічбы аб росце фабрычна-заводскага і калгаснага нізавога друку па раёну. У Барысаўшчыне, дзе да рэволюцыі не было ніводнай друкаванай газеты, цяпер апрача раённай і палітаддзельскай газет выдаецца 8 друкаваных шматтыражак, выпускаецца 195 насценгазет. Звыш 1.000 рабселькораў налічваецца цяпер па раёну. У рэдакцыю раённай газеты паступіла за год 5.376 пісем.

✱ **«ЗА БОЛЬШЭВІЦКІЯ ТЭМПЫ»** — газета Веткаўскага РК КП(б)Б — уключае селькораў у падрыхтоўку да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў. На старонках раённай газеты змяшчаюцца выклікі, абавязацельствы селькораў па спаборніцтву на лепшае і хутчэйшае завяршэнне праполкі і разгортванне ўборкі. Недахопам гэтага спаборніцтва з'яўляецца адсутнасць канкрэтных паказальнікаў у абавязацельствах, за выкананне якіх у першую чаргу адказваюць селькоры.

✱ **«За тэмпы і якасць»**—газета **палітаддзела** Слуцкай МТС — паведамляе аб конкурсе на лепшую брыгадную, калгасную насценгазету, які абвешчан у калгасе **«Памяць Ільіча»** па ініцыятыве комсамольскай ячэйкі. На прэміраванне лепшых брыгадных штодзенак праўленне калгаса выдзеліла 50 руб. Рэдкалегіі брыгадных газет спаборнічаюць паміж сабой на лепшую арганізацыю праполкі і ўборкі.

✱ **«УДАРНІК ПАДСОЧКІ»—другі нумар** друкаванай газеты, прысвечанай барацьбе за якасць жывіцы і выкананне планаў падсочкі — выдала раённая газета **«Калгаснік Уздзеншчыны»**. «Ударнік падсочкі» змагаецца за датэрміновае выкананне плана здабычы жывіцы, друкуе селькораўскія пісьмы аб ходзе падсочкі па раёну, змяшчае памятку для рабочага ўздымшчыка.

✱ **«Звенавод-ударнік»** — аднадзённую газету, прысвечаную падрыхтоўцы да раённага і ўсебеларускага злётаў ударніц калгасаў і соўгасаў, — выдаў **Рэчыцкі** райком партыі і палітаддзел МТС. Газета побач з кіруючымі матэрыяламі змяшчае рад пісем калгасніц аб ходзе праполкі і канкрэтнай падрыхтоўкі да злётаў лепшых ударніц сяўбы і праполкі. Звенаводы калгасаў Заспенскага сельсовета, якія скончылі арганізаваныя палітаддзелам МТС 10-дзенныя курсы звеннявых арганізатараў абавязаліся:

«добраякасна правесці праполку яравых культур да раённага злёта калгасніц, разгарнуўшы падрыхтоўчую работу да ўборачнай кампаніі;

прымаць актыўны ўдзел у рабоце насценнага друку і дзяліцца вопытам сваёй работы;

ахапіць усіх калгасніц падпіскай на раённую газету «Рэчыцкая праўда»;

усю работу праводзіць на аснове соцспаборніцтва і ўдарніцтва паміж брыгадамі, звеннямі і калгасніцамі пад лозунгам: «Заваяваць першы мандат на раённы злёт, за права ўдзелу ва ўсебеларускім злёце калгасніц-ударніц».

Калгасніцы калгаса **«Чырвоны востраў»** адзначаюць раённы злёт ударніц узорным завяршэннем праполкі ўсіх культур.

✱ **«Гавораць знатныя людзі калгасаў — удзельнікі раённай нарады».** Пад такім аншлагам жлобінская раённая газета **«Шлях соцыялізма»** выдала старонку аб вопыце работы перадавых калгасных МТФ, паляводчых брыгад. У старонцы выступілі старшыні калгасаў, даглядчыкі жывёлы і брыгадзіры паляводчых брыгад перадавых калгасаў раёна.




Менск, друкарня «Звязды» Уп. Галоўліта № К—3086.

